# ЗЬМЕСТ

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



№ 7-8 (58-59) Ліпень—Жнівень 1930

ГОД ВЫДАНЬНЯ ШОСТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1930



# Менск у дні белапольскай эвакуацыі.

*(10-га і 11-га ліпня 1920 г.).*

У часы белапольскай окупацыі Менск набыў выгляд „цывілізаванага эўропейскага гораду“. З аднаго боку амэрыканскія пайкі, „хрысьцянская“ коопэрацыя, а з другога боку галадаючыя рабочыя. Рэстараны кішэлі п'янымі белапольскімі вайскоўцамі.

Вуліцы былі перайменаваны. Цяперашняя Савецкая называлася „ул. Адама Міцкевіча“. Увесь быт гораду быў пераломлены, рэстаўраваны ў сярэднявечча: на вуліцах стараліся гаварыць выключна па польску, на іншай якой мове гаварыць было небясьпечна. Часта белапольскія жаўнеры ладзілі пагромчыкі на Нізкім Рынку. Ніхто на гэта не зварачваў увагі. Гэта было штодзённае звычайнае зьявішча, як амаль не штодзённыя набажэнствы ў касьцёлах, дзе дэвоткі і розныя „пані“ гаварылі аб зьнішчэньні бальшавікоў і „жыдоў“. Яўрэйскае насельніцтва старалася абыходзіць касьцёлы, як небясьпечнае для сябе месца, дзе розныя ксяндзы Усасы гаварылі бойкія пагромныя казаньні сваім парахвіянам.

У апошнія дні перад эвакуацыяй Менску на „вуліцы Адама Міцкевіча“ нельга было праходзіць—лавілі на прымусовую працу: на грузку вагонаў нарабаваным дабром.

А ў гэты час адбываліся арышты і зьдзекі над арыштаванымі. Пасьля адзінаццаці гадзін вечара насельніцтва ня мела права выходзіць на вуліцу, але, як апавядаюць, каля дэфэнзывы і сярод белага дня чуваць былі жудасныя крыкі скатаваных.

З дэфэнзывы „шчасьлівыя“ людзі выходзілі з пасінелымі апухшымі тварамі. Мэтод быў такі, што білі арыштаванага яшчэ да таго, пакуль дойдзе да сьледчага. З абвязанымі тварамі хадзілі яшчэ і старыя яўрэі. Ім жаўнеры абрэзвалі шабляй бароды. Найвялікшай забавай панскага войску было публічна сярод вуліцы лавіць старых яўрэяў ды адсякаць ім бароды. Гэта рабілася з неперадаваемым садызмам пад гігат разьюшаных легіянэраў і пад элегантныя ўсьмешкі выфранчаных афіцэраў.

Часта можна было бачыць, як гналі з Кашараў палонных чырвонаармейцаў. Гэта ўяўляла сабою жудасную карціну: людзі былі счарнеўшыя, страшна худыя, многія ў парваных штанох без кашуль, большасьць босыя...

Праходзіць афіцэр, які лічыць патрэбным супакойваць прахожых з насельніцтва:

— Гэта-ж бандыты!

Таксама па „вуліцы Адама Міцкевіча“ вадзілі з турмы ў бок Камароўкі на расстрэл партызан. Вадзілі днём. Маладыя хлопцы ішлі

спакойна і панура, абкружаныя ўзброеным павялічаным канвоем. За імі з-заду з плачам і лямантам ішлі бацькі, сёстры, жонкі... Некаторыя з партызан кідалі сваяком вандзэлкі, боты, піджакі...

Зноў афіцэр „супакойвае“ прахожых:

— Не шкадуйце іх—гэта бандыты!

Яшчэ за некалькі тыдняў да ўцёкаў белапалякаў з Менску польскае афіцэрства распаўсюджвала па горадзе крылатыя словы вышэйшага камандаваньня: „Пры выхадзе з Менску камень на камені не пакінем—усё зруйнуем!“

І вось перад тым, як ператварыць Менск, як і ўсю Беларусь, у руіны,—белапалякі забясьпечвалі перад выездам усіх сваіх прыхвасьняў амэрыканскімі пайкамі: какао, цукер, белая мука, сала, консэрвы і інш. Перад урадавымі провіянцкімі складамі стаялі ў вялізныя хвасты жонкі чыноўнікаў, стаялі і днём і ноччу. Бальтасарскія піры ладзіліся ў апошнія дні ва ўсіх менскіх рэстаранах. Балявалі як хто мог, бо ў той час польская марка вельмі пала, стараліся збавіцца ад яе і набывалі царскія рублі—„кнак“, г. зн. новенькія „мікалайкі“.

Ціханька выбіралася з Менску польскае панства і буйная буржуазія розных нацыянальнасьцяй. Як мухі ўвосені выглядалі беларускія „міністры“.

9-га ліпня ў гарачы сонечны дзень да 12-ці гадзін з рэстаранаў чуваць была музыка. Было многа народу: рэстаратары ліквідавалі свае прадукты, а абыываталі—польскія маркі.

У той-жа дзень пад вечар ужо адчувалася, што хутка пачнуць разьюшаныя легіёны выконваць заданьне вышэйшага вайсковага камандаваньня аб тым, каб „камень на камені не пакінуць“. У той-жа дзень пад вечар мірнага насельніцтва ўжо на вуліцах ня відаць было. Горад быў „адданы“ легіёнам. Па ўсіх вуліцах цягнулася ўцякаўшае войска: конныя, пешыя, артылерыя, абозы. Быў надзвычайны грукат і стукат. На рамізьніках імчаліся да вакзалу спозьненыя ўцекачы: розныя паны і пані з пакункамі, пакамі, са зграбнымі чамаданамі—менская буржуазія. Ціханька ў той-жа дзень паўцякалі беларускія „міністры“, змыліся так скромна, як-бы іх ніколі ў Менску ня было. Таксама зьніклі „генаралы“ з „беларускай вайсковай камісіі“.

Пілсуцкі падвёў усіх...

Жудасная вакханалія сярэднявечча пачалася таго-ж 9-га ліпня ўвечары. П'яныя жаўнеры пачалі хадзіць „у госьці“ да насельніцтва. Пачулася агідная „музыка“: звон шкла, роспачныя крыкі аб паратунку, жудасныя стогны і плачы, паадзіночныя стрэлы. Усё гэта зьлівалася ў хаос гукаў, які стаяў над горадам дзікім кашмарам. Насельніцтва пахавалася ў скляпох.

За гэту ноч сярод мірнага насельніцтва было нямала ахвяр—забітых і замучаных азьвярэлым белапольскім войскам. Хто з моладзі пападаўся насустрач разьюшанаму пілсудчыку - бандыту — таго на месцы расстрэльвалі, або забівалі ўдарам прыкладу па галаве. Пазабівалі некалькі старых яўрэяў, гвалцілі і забівалі жанчын. Досыць было, каб якая - колечы каталіцкая дэвотка назвала трынаццацігадовага падростка комуністам, каб тут на месцы яго забівалі. Ня мала было такіх выпадкаў. За гэту ноч легіёны аграбавалі большасьць кватэр гораду.

На раніцу 10-га ліпня горад гарэў у розных канцох і ў цэнтры: абодвы вакзалы, Серабранка, Камароўка, Кашары, Залатая Горка, Пярэспа, Кавалерыйскі разьезд, цяперашняя Савецкая вул. каля жа-

лезнага маста і інш. На пажарах грымацелі выбухі бомбаў, раздаваліся стрэлы. Гэта забаўляліся легёны, пукалі з карабінаў. У горадзе была надзвычайная сьпякота, шугала полымя, расьсьцілаўся дым з смуродам, бо гарэлі розныя продукты. Насельніцтва ўцякала на гароды, сьмельчакі палівалі дахі вадою, каб выратаваць дамы ад пажару. Нязмоўклы плач малых дзяцей насіўся з гародаў.

А ў гэты час па вуліцах рыскалі легёны. Прыкладамі яны выбівалі шкло ў вітрынах, лезьлі ў крамы і магазыны; што забіралі з сабою з дабра, а што проста нішчылі.

Можна было на вуліцы бачыць такія абразкі:

Каля зламанага магазыну легіянэры прадаюць нейкім цёмным элемэнтам у штацкім адзеньні мануфактуру, мяшкі какао, шакаладу, скрынкі папярос і інш.

А вось нясе кабета вядро яблычнага павідла. У гэты час жаўнеры злавілі старога яўрэя, сарвалі з яго боты, вопратку, адрэзалі бараду і кінулі ў вядро з павідлам. Кабета крычыць, што ей павідла „спаскудзілі". Яўрэй, да сьмерці спалоханы, уцякае ў аднэй бялізьне, прыкрываючы рукамі падрэзаную бараду. За ім у дагонку—дзікі рогат, гіканьне, сьвісты.

Альбо вось п'яныя афіцэры злавілі аднаго чалавека, завялі ў былы дом Баршча (рог Савецкай, супроць сквэрыка), загадалі яму несьці нейкія пакі. Цягаў ён іх да вакзала. Занёс у нейкую гасьцініцу. Ажна там сядзяць п'яныя простытуткі з польскім афіцэрствам. Балююць. Распакавалі пакі, адтуль высыпаліся: каракулевае дамскае паліто, шаўковыя вопраткі, бацінкі. Простытуткі давай прымерваць, а афіцэры ім дапамагалі, прыгладжвалі і пры гэтым адпускалі „вольныя жарты".

Сярод дня з Нова-Маскоўскай вуліцы раптоўны працяглы крык і візгат, які вызначыўся з агульнага хаосу крыкаў. Гэта жаўнеры вырывалі залатыя зубы з роту аднэй жанчыны. Яшчэ адзін прарэзьлівы візгат—і змоўкла... Прыкончылі.

А вось на агародах жудасны плач дзяцей. У гэтым плачы чуваць слова „тата!": у кустох знайшлі забітага бацьку...

На многіх брамах і вокнах дамоў віселі абразы „маткі боскай", портрэты Пілсуцкага, альбо па-польску было напісана: „тут жывуць палякі". Гэта ўсё павінна было служыць абаронай ад разьюшаных белапольскіх банд...

У ноч з 10-га на 11-ае ліпня па ўсім горадзе адзін неахопны дзікі стогн насельніцтва. На некаторы час,—як змоўкне грукат вайсковых павозак на вуліцах,—з падворкаў, з кватэр крыкі і плачы людзей ярка вызначаліся. Зьліваліся яны ў нясупыннае „а-а-а-ай", „о-о-о-ой". Маткі, якія па скляпох з дзяцьмі хаваліся, супакойвалі дзяцей, гаворачы ім, што гэта „пеўні сьпяваюць", „сабакі скавычаць", „каты няўкаюць". Ад невыразімай жуды гэтых крыкаў валасы дуба станавіліся...

Бывалі і выпадкі самаабароны сярод насельніцтва ад граміл-пілсудчыкаў. Напрыклад, адзін жыхар спусьціў у склеп легіянэра і пратрымаў яго там аж да прыходу Чырвонай арміі.

Але вось пад раніцу 11-га ліпня крыкі роспачы парадзелі, замест іх чуваць баявое „ура!" Гэта ўварваліся ў горад партызаны, каб ратаваць насельніцтва ад рэштак белапольскіх банд. І нямала засталося на вуліцах белапольскіх франтаў з арламі на шапках...

Прыблізна апоўдні 11-га ліпня ў горадзе стала ціха. Адважнейшыя з насельніцтва высыпалі маленькімі групкамі на вуліцу каля

дамоў, на разьбітае шкло. Каля вакзалаў хадзілі ўзброеныя партызаны. Увайшлі ў горад і чырвонаармейцы, якія ахапілі горад з розных бакоў.

Каля маста пры электрастанцыі зьявіўся запылены, успацелы чырвонаармеец, а за ім хутка белапольскі атрад—ар'ергард. Чырвонаармеец схаваўся ў былым архіярэйскім садзе. А з-заду чырвонаармейцы даганялі белапольскі ар'ергард кулямётным агнём. Групкі насельніцтва зноў схаваліся па дамох... Калі ар'ергард быў супроць гарадзкога сквэрыка на Савецкай вуліцы, чырвонаармейскі кулямёт стаяў на мосьце каля электрастанцыі. Да чырвонаармейцаў далучыліся партызаны.

На хаду белапалякі падхоплівалі параненых. Супроць сквэрыка засталася паходняя кухня і некалькі забітых коняй. Па ўсіх вуліцах валяліся белапольскія карабіны, скрыні з патронамі, кулямётныя часткі і іншае. Падбіраць гэта дапамагала насельніцтва і нават малыя дзеці.

Людзі перабіраліся з скляпоў, з гародаў у памяшканьні. А другой гадзіне дня Менск быў канчаткова ачышчаны ад белапалякаў.

Зараз-жа пачалі падмятаць вуліцы ад шкла з разьбітых вітрын і вакон.

Менск сьвяткаваў вызваленьне.

Змучаных, галодных, абарваных чырвонаармейцаў сустракалі з надзвычайным захапленьнем. У гэтай сустрэчы можна было бачыць цікавыя сцэнкі. Вось адзін стары рабочы нясе булку хлеба, перадае двум чырвонаармейцам, сам пораўна дзеліць на дзьве часткі... Другі сівенькі чалавек кідаецца на шыю трэцяму чырвонаармейцу, цалуе яго, усхліпвае старчым усхліпам і шапоча: „мой сынок... мой сынок“...

Ня думайце, што гэта яго родны сын, яго родны сын чырвонаармеец нейдзе загінуў колькі часу таму назад пад Барысавам...

А вось „барышня“ кінула кветкі ў твар чырвонаармейцу. Ён падхапіў, ветліва ўсьміхнуўся, трымае кветкі ў руцэ і ня ведае, што з імі рабіць...

Яго сусед кажа: „лепш хлеба кінула-б“...

Павялі групу белапольскіх палонных. Некалькі чалавек з насельніцтва кінуліся на іх. Чырвонаармейцы ледзь адбаранілі. Адзін палонны легіянэр крыкнуў старому яўрэю: „дай бараду!“. І давай пальцамі вадзіць, як ножніцамі.

Чырвонаармейцы пачалі стыдзіць свайго палоннага.

Калі на Пляцы Волі быў наладжаны першы мітынг сустрэчы з Чырвонай арміяй, туды высыпала літаральна ўсё гарадзкое насельніцтва. Не хапіла месца для ўсіх, былі запоўнены людзьмі ўсе блізкія вуліцы. Я ўпэўнены, што такой гарачай, братэрскай сустрэчы, якую мела Чырвоная армія ад менскіх працоўных, ня мела ніводная буржуазная армія ад сваіх прыхільнікаў.

За гэтыя дзесяць гадоў Менск, як уся БССР, як увесь Саюз, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, пры надзвычайнай энэргіі пролетарыяту, будуе новае соцыялістычнае жыцьцё. Руіны, учыненыя белапольскімі бандытамі, за гэты час забудаваны. За дзесяць год Савецкая Беларусь дасягла надзвычайных посьпехаў ва ўсіх галінах палітычнага, культурнага і гаспадарчага будаўніцтва. Але рабочыя і працоўнае сялянства ніколі не забудуць дзікіх учынкаў белапольскіх банд на Беларусі.

Краязнаўчыя організацыі павінны больш энэргічна чым да гэтага часу зьбіраць на мясцох матар'ялы з часоў окупацыі белапалякамі Беларусі, з часоў гэроічнага партызанскага руху. Пакуль што ў нас ёсьць толькі ўрывачныя ўспаміны аб тых часох, поўнага малюнку яшчэ ня маем.

*З. Б.*

---

**А. К. Супінскі.**

# За новы музэй.

Думка аб музэйнай справе, як адным з буйных сродкаў у культурнай рэволюцыі, ужо даўно стала вядомай шырокім колам грамадзтва, аднак бясспрэчны факт слабай удзельнай вагі музэю ў гэтым напрамку яшчэ застаецца непарушаным. На вялікі жаль, пытаньне завастраецца ня толькі адносна провінцыяльных музэяў, дзе ў глухіх кутках ён з некаторым правам застаецца яшчэ сховішчам, але і па адрасу нашых буйных культурных цэнтраў, забясьпечаных магутнымі сродкамі для працы на новых рэйках.

Зараз, пакуль - што, высьветлена адно: хваля зьбіральніцкага руху, узьнятая Кастрычнікам, спыніла свой буйны гон, упёршыся ў бязмэтавасьць далейшых імкненьняў, большасьці нашых музэязнаўцаў, якім туга даецца разуменьне, што музэй, падобна любому тавару, набывае каштоўнасьць толькі ў тым выпадку, калі ён уладае здольнасьцю „задаволіць патрэбнасьці або служыць выгадам чалавечага жыцьця“ (К. Маркс, Капітал, т. I, увага 4 з спасылкай на Локке).

Такія адносіны былі зразумелы для тэй пары, калі музэі абслугоўвалі вузкія колы гледачоў-аматараў, калі політасьветная мэтазгоднасьць была невялічкім дадаткам да „асобнай музэйнай справы“, але-ж такая пара ўжо давно прайшла і канец яе вызначыў новы апанаваўшы музэй глядач-працоўны.

Апошні яшчэ не бярэцца пад увагу, існуе больш на паперы для „офіцыйных“ справаздач і яго запатрабаваньні мала цікавяць музэй, хоць здаецца даўно пара ведаць, што ён прыходзіць не „глядзець“, а вучыцца.

Чаму музэй вучыць новага гледача? Усяму, але не таму, што патрэбна. Перад ім праходзіць шэраг фактаў, але ці знаёміць яго з тым, што гэта разам і фактары? Ці выходзіць, напрыклад, глядач з мастацкага музэю з разуменьнем мастацтва як сродку змаганьня за ідэолёгію пануючай клясы? Гэта ня толькі прыклад. З такім зьявішчам сустракаемся фактычна ў музэях розных тыпаў, аб гэтым можна і патрэбна ня толькі гаварыць, але і крычаць.

Музэй, як сховішча, як крама старажытных рэчаў павінен зьнікнуць, уступіць месца музэю-школе, масаваму унівэрсытэту, дзе ў ногу з усёй савецкай грамадзкасьцю пачнецца змаганьне за новае жыцьцё і новага чалавека. Да перабудовы музэю ў такім напрамку ўжо даўно завуць лёзунгі культурнай рэволюцыі, зварушыўшыя працоўныя колы, адкуль ідуць у музэй організаваныя тысячы, дзесяткі і сотні тысяч новаго гледача новага чалавека.

Што гэта так—заклікаю праглядзець лічбы аб колькасным і якасным узросте гледачоў па некаторых буйнейшых музэйных цэнтрах БССР і ў Ленінградзе.

Табліца 1.

**Колькаснае ўзрастаньне гледачоў па Менскіх, Віцебскіх Дзяржаўных Музэях.**

| Горад | Гады | Колькасьць груп | У іх чалавек | У тым ліку адзінак | Увагі |
|---|---|---|---|---|---|
| Менск . . . . | 1924-25 | 430 | 11696 | „ | |
| | 1925-26 | 280 | 8823 | „ | |
| | 1926-27 | 481 | 16671 | „ | |
| Віцебск. . . . | 1925 | 276 | 10639 | 2191 | |
| | 1926 | 258 | 10075 | 2139 | |
| | 1927 | 254 | 11284 | 4636 | |
| | 1928 | 208 | 12294 | 5429 | |
| | 1929 | 346 | 18069 | 8030 | |

Лічбы добра высьвятляюць становішча справы і вывады з іх будуць беспамылковымі і для сёнешняга дня. Агульны малюнак сьведчыць нам, што ў адным выпадку (Віцебск) мы хоць і бачым колькаснае павялічэньне з году ў год, але яно яшчэ не гаворыць аб палепшаньні самой працы пакольки ўзрост ідзе за кошт неарганізаванага і выпадковага гледача. У другім—(Менск) музэй чакае навальнай хвалі экскурсантаў і ня думае многа над ня зусім нормальнымі скачкамі ў бок паніжэньня, што дае нам права ня ўпэўніваць сябе ў наяўнасьці плянавай політасьветнай працы, у належным скарыстаньні культурных скарбаў музэю.

Аднак ёсьць і горшае, калі музэй ня хоча лічыцца з гледачом, разглядае яго як нешта дадатковае і прыватнае. З такім поглядам сустракаемся ў краязнаўчых музэях, якія працуюць наогул бяз мэты і для прыкладу спынімся на Полацку, Лепелі і Суражы.

Першы з іх змог даць лічбы толькі „агулам" і на „веру". Яго падлік (мы ня ведаем на чым ён грунтуецца) высьвятляе наступнае: з 1-га студзеня 1927 г. і па 1-е студзеня 1928 г. прапушчана праз музэй нібы 6000 асоб; з 1-га студзеня 1928 г. і па 1-е студзеня 1929 г.—9.500, а з 1-га студзеня 1929 і па жнівень гэтага-ж году—7.000, у тым ліку частка была організавана ў 48 груп.

Лепель яшчэ больш зьдзівіў. Там, доўга не гаворачы, загадчыца музэю І. І. Таміліна адказала, што музэй наведала 11 школ, настаўніцкая конфэрэнцыя і 5 груп вайсковых, але ў які тэрмін і колькі асоб—яна ня ведае. Затое шмат стараннасьці паложана на набыцьцё „старасьветчыны" ўсякімі мерамі, часта шкодымі.

Суражаскі музэй ня бачыў гледача ніколі, а пра матар'ялы музэю вучні школы, пры якой музэй існуе, з горам расказвалі, што ў іх было шмат чаго каштоўнага ды „зьехала" разам з загадчыкам (ён-жа быў і загадчыкам школы) у невядомым напрамку.

Аднак, зьвернемся да сталіцы музэйнай справы—Ленінграду. І тут ня дужа добра абстаіць справа з масавай працай. Калі ў параўнаньні з іншымі краінамі мы тут і можам назіраць некаторыя дасягненьні,

дык іх хутчэй можна тлумачыць як вынікі плянавага кіраўніцтва Політасьветы праз Экскурсыйна-Лектарскую Базу. Сам музэй мала парушыў глебу свайго будаўніцтва і яго мэтоды працы далёка не заўсёды выходзяць з межаў кругавых экскурсій, аб вартасьці якіх ня прыходзіцца і гаварыць. Гэта-ж тычыцца і пытаньняў экспозыцыі, разьлічанай на гледача-адзінку, паказваючай рэчы бяз іх грамадзкага сэнсу (рэч у сабе і для сябе).

Усё-ж, ня гледзячы на гэта, назіраем нязвычайнае павялічэньне колькасьці наведвальнікаў, што сьведчыць аб агульным уздыме культурных запатрабаваньняў працоўных, з чым музэй толькі яшчэ пачынае лічыцца, абараняючы аўторытэт чыста навуковай установы.

Павялічэньне гледачоў, організаваных Базай, па Ленінградзкіх музэях паказвае наступная табліца:

Табліца 2.

**Колькаснае ўзрастаньне гледачоў па Дзяржаўных Музэях Ленінграду.**

| Гады | Колькасьць гледачоў | Колькасьць груп | Увагі |
|---|---|---|---|
| 1917-18 | 8744 | — | Разам з гледачом адзінкаю. |
| 1918-19 | 110438 | — | „ |
| 1919-20 | 202860 | — | „ |
| 1920-21 | 268810 | — | „ |
| 1921-22 | 79928 | — | Уведзена платнасьць. |
| 1922-23 | 168005 | 5445 | „ |
| 1923-24 | 388498 | 12629 | „ |
| 1924-25 | 721752 | 24180 | „ |
| 1925-26 | 770500 | 26677 | „ |
| 1926-27 | 690058 | 22982 | Без гледача-адзінкі. |
| 1927-28 | 733828 | 29762 | „ |

Агульны ўздым лічбаў па музэях БССР і Ленінграду, калі і сьведчыць, што аўторытэт устаноў гэтага тыпу ўзрос, дык яшчэ адсюль не патрэбна рабіць вывадаў аб грунтоўнасьці ўстаноўкі самой справы. Цяпер музэям павінна быць пастаўлена абвінавачаньне ў індыфэрэнтных адносінах да гледача, які не вывучаецца ні з боку соцыяльнага складу, ні з боку яго культурных запатрабаваньняў. Мне, напрыклад, ня прышлося прасачыць гэты бок у музэях БССР альбо па прычыне адсутнасьці патрэбных вестак, альбо проста таму, што вучот робіцца няправільна. Адгэтуль поўная адсутнасьць пэрспэктыў нават на бліжэйшы час, тупаньне на месцы ў пытаньнях экспозыцыі і змаганьне за „навуковую шыльду", а гэта значыць за захаваньне традыцый музэя-сховішча. Вынікі такога курсу даюць тое, што так добра характарызавала краязнаўца Е. І. Сяргеева ў наступным: музэі „представляют склады, иногда очень большие, научных ценностей, которые, однако, могут быть более или менее использованы только специалистами или людьми, получившими широкое образование; для массового-же посетителя остается или почтительное любопытство, или прямое отрицательное отношение, как к скучной неизвестной вещи". (Е. Сергеева)

Из практики работы с посетителями музея. „Краеведение“, т. V, № 3, 1928, ст. 141).

Зразумела, перш за ўсё патрэбна паставіць пытаньне аб клясавым прынцыпе ў скарыстаньні музэйных каштоўнасьцяй, аб цьвёрдым напрамку на павялічэньне колькасьці наведальнікаў працоўных і строгай плянавасьці такой працы. Аднак, нічога ня кажучы ўжо аб маладых музэях БССР, мы ня знойдзем патрэбнай устаноўкі і ў буйнейшым цэнтры музэяў—Ленінградзе, дзе яшчэ зусім нядаўна адчувалася, што плян працы наступнага году мае падставай вынікі пяпярэдняга. Больш тато, тут таксама лічбы захавалі справаздачы характар, і гэта досыць яскрава адбіваецца ў ніжэйпаданым процантным падліку гледачоў па катэгорыях:

Табліца 3.

**Соцыяльны склад наведвальнікаў у музэі Ленінграду.**

| Год | Рабочых і служачых | Вучняў шк. Пал/асьв. | Вайсковых | Іншых | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1922-23 | 64% | 20,5% | 8,5% | 7% | Вучні школ 1-ай і 2-ой ступ. у падлік не ўвайшлі. |
| 1923-24 | 55,5% | 31% | 7% | 6,5% | |
| 1924-25 | 59 | 23,5 | 8,5 | 9 | |
| 1925-26 | 56,5 | 13,5 | 6 | 24 | |
| 1926-27 | 67,5 | 9,6 | 3,9 | 19 | |

У прыведзеным лічбовым матар‘яле нельга абыйсьці два моманты: а) аб‘яднаньне ў адну катэгорыю рабочых і служачых, характарнае і для музэяў БССР, дзе часам яшчэ далучаюць і сялян (Віцебск); б) скачкі лічб на працягу часу ад 1923—26 г. г. без асаблівых об‘ектыўных умоў.

Зварачваючы ўвагу на вызначаныя бакі ў жыцьці музэяў далёка ня толькі Ленінграду, мы павінны падкрэсьліць іх сувязь паміж сабою і бязумоўную залежнасьць „б“ ад „а“.

Хто, напрыклад, складае катэгорыю рабочых і служачых? Паводле якой адзнакі і з якой мэтай яна складзена? Адказ на пытаньні ня можа даць і той, хто робіць такое аб‘яднаньне, а для нас яны застаюцца зусім адчыненымі і незразумелымі. Мы ў іх бачым толькі штучнае злучэньне рознастайных элемэнтаў, з рознастайнымі запатрабаваньнямі і з ня менш рознай культурнай базай. Такі факт толькі ліквідуе ўсякую магчымасьць сачыць за напрамкам інтарэсаў гледача, а разам з гэтым не дазваляе даць яму тое, што ён хацеў-бы атрымаць ад музэю. Адсюль становіцца зразумелым зьніжэньне ліку наведальнікаў і нават пагроза страты музэем грамадзкай каштоўнасьці.

Такая-ж недадуманая праца Ленінградзкай Экскурсійна-Лектарскай Базы адбылася і ў напрамку вывучэньня гледача, у выніку чаго мы маем вопыт падагульваньня ўздыму інтарэсаў усёй савецкай грамадзкасьці (культурны фронт), але запатрабаваньні рознастайных груп

наведвальнікаў ня высьветлены. Аб гэтым добра гаворыць наступныя лічбы.

Табліца 4.

**Напрамак інтарэсаў наведальнікаў у музэі Ленінграду.**

| №№ | Характар экскурсій | 1926-27 (груп) | 1927-28 (груп) | % павялічэн. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Грамадаведных. . . | 15265 альбо 66% | 21365,5 | 39,7% | Вучні школ 1-2 ст. у падлік не ўвайшлі. |
| 2 | Прыродазнаўчых . . | 4774 альбо 21% | 5148 | 8% | |
| 3 | Вытворча-тэхнічных . | 2943 альбо 13% | 3159 | 8% | |

Яшчэ больш няпрыемна адзначаць хібы самога музэю, які і ня зьбіраецца будавацца на новай глебе. Перашкод гэтаму шукаць глыбока не патрэбна і мы іх лёгка знаходзім у фальшывай музэйнай вучонасьці. Яе аўтэнтычны адбітак складае ўвесь твар музэйнага будаўніцтва, пачынаючы з набыцьця музэйных матар'ялаў і канчаючы экспозыцыяй, але гэта асаблівае пытаньне і аб ім будзем гаварыць у другі раз. Пакуль што нам хацелася-б зьвярнуць увагу маладых музэйных, асабліва краязнаўчых, ячэек на вялікія недахопы нашых музэяў. Тут патрэбна заўсёды памятаць, што мы ніколі ня зьбіраліся будаваць толькі крамы старасьветчыны, што мінулае нам патрэбна для разуменьня сучаснага і будаўніцтва будучыны і бяз гэтай асноўнай мэты ўся справа траціць свой сэнс.

Напрамак усёй музэйнай будаўнічай працы ня можа ісьці асобным шляхам ад проблем сучаснасьці, змаганьня за новага чалавека. Ён павінен быць падпарадкаваны мэтам разгорнутага масыву ўсёй савецкай грамадзкасьці, аб'яднанай аднэй думкай, адным жаданьнем, дзе музэй не знайшоў сабе адпаведнага месца і не заўсёды, праўда, толькі па сваёй консэрватыўнасьці. Так, напрыклад, большасьць краязнаўчых музэяў не ўяўляла належна сваіх задач па непадрыхтаванасьці працаўнікаў-аматараў, для якіх гэта было справай дзесятага парадку. Усё-ж было-б памылкаю абвінавачваць толькі музэйных работнікаў і маўчаць аб хібах нашых Політасьветаў нават у буйных акруговых цэнтрах. За ўвесь час вывучэньня некаторых музэяў БССР мне ня прышлося сустрэцца з фактам правільнага скарыстаньня Політасьветаю музэйных скарбаў, гэтага магутнага фактару ў барацьбе за новы сьветапагляд. Наадварот, на мясцох часта скардзяцца на няўважлівыя адносіны і адсутнасьць кіраўніцтва. Болей таго, у апошнія часы паступаюць весткі аб ліквідацыі музэяў „за ненадобностью" і Ленінградзкая Акадэмія Гісторыі Матар'яльнай Культуры змагла-б скласьці досыць доўгі сьпіс гарадоў, дзе яны згорнуты.

Так ісьці далей мы ня можам. Пытаньне аб музэях павінна стаць чарговым, але ня з мэтаю абароны архаічных сховішч старасьветчыны, а ў парадку змаганьня за новы музэй, за яго належнае месца і адпаведную дзейнасьць у дзяржаве працоўных.

С. Зыкаў.

# Фаўна сасновага пня *).

Вывучэньне энтомофаўны шкоднікаў лесу для Беларусі, у якой шмат лясоў, неабходна, а між тым толькі праца Старка В. И. „К фауне корредов Витебской губ.“ больш-менш дэталёва высьвятляе гэтае пытаньне. Ахова-ж і паляпшэньне лясной гаспадаркі патрабуе больш дасканалага вывучэньня біолёгіі шкодных і карысных шасьціножак, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі.

Жыцьцё шасьціножак, у прыватнасьці жукоў, даволі living разнастайна, трэба без пераўвялічэньня сказаць, што жукоў магчыма знайсьці ўсюды, куды ні паглядзіш. Сярод шматлікіх лясных шасьціножак, якія пасяляюцца на сьцяблох і галінках хваёвых дрэў, найбольшае значэньне па сваіх шкодных якасьцях маюць караеды.

Жывуць яны пад тоўстай карой сьцяблоў, сьвежых пнёў, альбо пад тонкай—верхавінных галін, радзей у самай драўніне. У большасьці выпадкаў яны выбіраюць адну якую-небудзь дрэўную пароду. Жывяцца дарослыя жукі і іх чарва сокам дрэў і іх тканкамі. Нападаюць яны спачатку на хворыя, альбо аслабленыя чым-небудзь дрэвы, напр., пажарам, чужаедным грыбком, пасьля аб‘яданьня хвоі чарвою матыля-манашанкі, сасновай папрадухі і інш. матылёў. Караеды зьяўляюцца часьцей паўторнымі шкоднікамі. Калі-ж яны дасягаюць максымуму размнажэньня, і не знаходзяць для сябе ў дастатковай колькасьці адпаведнага матар‘ялу дзеля адкладкі яечак, караеды і лубаеды нападаюць і на здаровыя, стаячыя на корані, елкі і сосны (Яцентковский А. В.).

У здаровых дрэвах караедам цяжка рабіць свае ходы, таму, што іх заліваюць сокі, якіх шмат у здаровых тканках. Але-ж сваім гвалтоўным урываньнем яны ўсё-ж такі аслабляюць дрэвы і падрыхтоўваюць добрую глебу для наступнай партыі. Dendroctomus micans нападае часьцей на здаровыя дрэвы (Р.-Корсаков).

Дрэвы, у якіх караеды заснавалі свае гнёзды, засыхаюць абавязкова, у чым і выяўляецца шкода, якую наносяць гэтыя жукі. Караеды

---

*) Энтомофаўна Беларусі да апошняга часу даволі кепска вывучана. Першыя грунтоўныя весткі, прысьвечаныя энтомофаўне Беларусі, мы знаходзім у працы Арнольда „Каталог насекомых Могилевской губ.“, якая вышла ў 1901 г.

2) Иванов А. В. „Список дневных и сумеречных бабочек“. Работы зоологического кабинета Горецкого Сельско-Хозяйственного Института за 1925 г.

3) Бируля А. А. „Материалы для фауны Hymenoptera Европейской России II“. Перечень видов семейства Specidae окр. г. Витебска.

4) Бируля А. А. мат. для фауны Европ. Рос. IV“. Перечень видов семейств Vespidae Окр. г. Витебска.

5) Русское Энтомологическое обозрение за 1925 і 26 і 28 год.

6) Дабратворскі М. „Матар‘ялы да пазнаньня фаўны чмялёў Беларусі“. І шэраг іншых больш дробных артыкулаў.

З працы „Русского энтомологического обозрения“ толькі праца „Старка, В. И.“ мае непасрэдныя адносіны да маёй тэмы, якая высьвятляе больш-менш энтомофаўну паўночнай часткі Беларусі, асабліва былой Віцебскай губ.

Праца-ж Арнольда дае матар‘ял толькі па был. Магілеўскай губ. Да працы Арнольда мы зараз можам дадаць 48 відаў шасьціножак, неапісаных ім для былой Магілеўскай губ., якія належаць да 2 атрадаў 19 см. 38 родаў і 48 відаў.

Што-ж датычыцца Менскай акругі, то ніякай літаратуры па Колеоптэрофаўне няма. Шасьціножкі маіх збораў на тэрыторыі Менскай акругі разьмяркоўваюцца па 3 атрадах 20 сям. 47 родах і 59 відах.

размнажаюцца ў некаторыя гады ў даволі значнай колькасьці, зьнішчаюць вялізныя плошчы лясоў у лясных краінах, якой зьяўляецца і Беларусь. Сотні тысяч яловых і сасновых дрэў засыхаюць штогод у выніку нападу караедаў.

Няправільнае кіраўніцтва лясной гаспадаркай у працягу шэрагу гадоў зьявілася вынікам масавага размнажэньня ў лясох СССР караедаў.

Караедаў вядома к сучаснаму моманту каля паўтары тысячы відаў (Шарп). Вышэйсказанае ў сваю чаргу, зрабіла неабходным правядзеньне дасьледваньняў мясцовасьцяй, заражоных караедамі і арганізацыю барацьбы з імі на вялізных плошчах.

Пазнаёміўшыся ў кароткіх рысах з некаторымі біолёгічнымі асаблівасьцямі караедаў, адзначым далей некаторыя шляхі барацьбы з імі.

Галоўным спосабам барацьбы з караедамі зьяўляецца правільнае вядзеньне лясной гаспадаркі, якое заключаецца ў ачыстцы ад буралому, ветравалу, сухастою, выкарчоўваньні пнёў, абчыстцы кары з пнёў. Ачыстка з пнёў кары ў сучасны момант зьяўляецца абавязковай. Неабкораныя пні і ў асаблівасьці сьвежыя, зьяўляюцца добрым месцам жыцьця для караедаў і лубаедаў. Пры адсутнасьці хворых дрэў, пні зьяўляюцца амаль што адзіным месцам жыцьця караедаў.

Шкоднасьць ад неабкораных пнёў (я ўжо не гавару аб выкарчоўваньні) пакажуць мае невялікія зборы караедаў і лубаедаў у сасновых пнёх па Менскай і Магілеўскай акругах.

У працягу збораў сустракаліся наступныя формы:

1. Sps sexdentatus Boern (пад карою выварота 2 metr. даўжынёю).
2. Neotomicus Laricis Fobr.
3. Neotomicus proximus chc.
4. Neotomicus suturolis Fyll.
5. Hylastes ater Payc.
6. Xyloterus lineatus aliv.
7. Blastophagus piniperda L.
8. Hylurgus ligniperda Fabr.
9. Sitona lineatus L.
10. Hylaster ater Payk.
11. Hylaster cunicularis Er.
12. Hylastes opacus Er.

Пражыўшы некаторы час у пнёх і адклаўшы яечкі (Сасновы доўганосік таксама кладзе яечкі ў кару сьвежых пнёў), а часам і пеpaзімаваўшы, караеды нападаюць на вакольныя дрэвы як ляжачыя, так і стаячыя на корані. Такім чынам да шляхоў барацьбы з караедамі магчыма аднесьці і лоўчыя дрэвы, галоўным чынам, ляжачыя. Усякае паваленае дрэва ахвотна наведваецца караедамі (Р.-Корсаков).

Мая праца ня можа прэтэндаваць на глыбокае і поўнае высьвятленьне пытаньняў, зьвязаных з лясной гаспадаркай, але ўсё-ж такі дае шэраг цікавых матар'ялаў.

Гэта праца напісана на падставе матар'ялаў, сабраных мною на тэрыторыі БССР у працягу 1926, 27 і часткова 28 г. у сасновых пнёх наступных мясцовасьцяй:

1) Тэрыторыя ваколіц г. Менску.

2) Тэрыторыя ваколіц: м. Журавіч, в. Прудка і г. Чэрыкава, Магілеўскай акругі. Матар'ял даволі рознастайны, а таму апрацаваць увесь, пры маіх вельмі дрэнных умовах, ня было ніякай магчымасьці

(адсутнасьць літаратуры і неабходных прылад) таму ў сваёй працы я абмежаваўся апрацоўкай, галоўным чынам, жукоў за выключэньнем аднаго сям. Stophulinidae, якіх таксама не апрацаваў, дзякуючы адсутнасьці неабходных оптычных прылад. Пры сваім дасьледваньні я сустрэўся з вялікай разнастайнасьцю і стракатасьцю разьмеркаваньня фаўны, ня толькі ад пары году і географічнага палажэньня, але-ж—ад стану пня. Дзеля прастаты і даступнасьці вывучэньня гэтага пытаньня, я падзяліў усе сасновыя пні на тры катэгорыі:

1) Сьвежы сасновы пень.
2) Крэпкі сасновы пень.
3) Стары сасновы пень.

Увага: 1) Сьвежы пень—пень, які сустракае першы летні пэрыод.
2) Крэпкі пень—пень, з якога лёгка зьдзіраецца кара, але-ж драўніна яшчэ крэпкая.
3) Стары пень—кара адстала альбо абвалілася, драўніна гнілая, альбо зусім трухлявая.

Усяго за паказаны вышэй пэрыод часу мною агледжана 1428 сасновых пнёў, зроблена 45 экскурсій, сабрана 983 экз. шасьціножак, галоўным чынам жукоў, якія належаць да 6 атрадаў 37 сям. 109 родаў, 147 відаў.

Апрача таго сабрана:

| | | |
|---|---|---|
| 20 | экз. | камароў |
| 18 | „ | розных мух |
| 55 | „ | чарвы |
| 244 | „ | чарвы розных шасьціножак |
| 12 | „ | трытонаў |
| 55 | „ | сьлімакоў |
| 95 | „ | шматножак |
| 8 | „ | макрух |
| 15 | „ | псэўдоскарпіёнаў |
| 25 | „ | дажджавых чарвей |

А ўсяго сабрана 1713 экз. розных прадстаўнікоў сасновага пня як у стадыі чарвы, так і ў стадыі дарослых (imago).

Увесь сабраны матар'ял магчыма сыстэматызаваць наступным чынам:

| | | экск. | | Агледжана пнёў. | | Знойдзена экзэмпляраў. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Менск | 1926 г. | 16 | | 508 | | 447 |
| м. Журавічы | 1926 г. | 6 | 11 | 137 | 286 | 449 |
| | 1927 г. | 5 | | 149 | | |
| в. Прудок | 1926 г. | 3 | 7 | 110 | 272 | 408 |
| | 1927 г. | 4 | | 162 | | |
| г. Чэрыкаў | 1927 г. | 5 | 11 | 141 | 362 | 409 |
| | 1928 г. | 6 | | 221 | | |
| | | 45 | | 1428 | | 1713 |

Лічу неабходным адзначыць, што пры абглядзе пнёў я не карыстаўся ніякімі прыладамі, за выключэньнем тапорыка і таму мог прапусьціць частку дробных форм, некаторыя экзэмпляры і ўцякалі.

Часта бывалі і такія выпадкі, калі расьсякаеш пень і акрамя мурашак нічога не знаходзіш. Асабліва незаселенымі аказваліся больш тонкія пні, але-ж і сярод тоўстых нярэдкі выпадкі незаселенасьці. Вучот агледжаных пнёў вёўся агульны без падзелу на тоўстыя, сярэднія і тонкія, заселеныя і незаселеныя, сухія і вільготныя.

На тэрыторыі Менскай і Магілеўскай акруг за 1926/27 і часткова 1928 г. агледжана пнёў:

| Крас. | Май | Чэрв. | Ліп. | Жнів. | Верас. | Кастр. | Лістап. | Сьнеж. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 141 | 215 | 147 | 149 | 308 | 64 | 146 | 243 | 15 |

Таму няма нічога дзіўнага, калі ў сярэднім на кожны пень ня прыходзіцца па 2 экзэмпляры.

Дзякуючы поўнай няяснасьці відавога складу, я ня лічыў магчымым пры зборах, выключыць што-небудзь з маіх знаходак, нават такога напэўна выпадковага характару, як напр. прадстаўнікоў родаў Agelastica, Malachius і інш. Каб паўней высьветліць энтомофаўну сасновага пня, я вёў падлік ня толькі відавога складу, але-ж і колькасьці экзэмпляраў, якія знахадзіліся мною.

Морфолёгія пня, паказаная мною вышэй, зьяўляецца не настолькі простай, як можа паказацца на першы погляд. Няма ніякай мажлівасьці паказаць дакладна мяжу хаця-б паміж крэпкім і старым пнём. Але практыка 2-х гадовай працы дала магчымасьць мне лёгка ў гэтым орыентавацца.

Наколькі зьнішчаецца мяжа пераходу аднэй катэгорыі пня ў другую, настолькі не яскрава і абрысоўка біоцэнозаў аднаго пня ў параўнаньні з другім.

147 відаў агульнага насельніцтва шасьціножак сасновага пня разьмеркаваліся згодна вышэйпаказаным катэгорыям (паводле атрыманых мною даных) наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| 82 віды | — 59,9% | прыходзіцца выключна на стары пень. |
| 28 „ | — 19% | „ „ „ крэпкі пень. |
| 12 „ | — 8, 2% | „ „ „ на сьвежы сасновы пень |
| 3 „ | — 2% | ва ўсіх трох катэгорыях п'ня (Cerylon histeroides, Platysome oblongum F) і г. д. |
| 18 відаў | —12,2% | агульны стараму і крэпкаму Spondylis buprestoides L. |
| 4 віды | — 2,7% | агульны крэпкаму і сьвежаму, напрыклад, некаторыя Criocephalus rusticus і інш. |

Пры зьбіраньні матар'ялу я не абмяжоўваўся толькі надворным аглядам пнёў, а расьсякаў іх тапорыкам да шчэнту, акрамя сьвежых і крэпкіх пнёў, з якіх зьдзіраў толькі кару і расьсякаў па колькі было магчыма.

На працягу 1926 году збор матар'ялу праводзіўся больш-менш рэгулярна праз кожныя 7—10 дзён, незалежна ад тэрыторыі. У 1927-1928 годзе рэгулярнасьць збору матар'ялу парушалася, што не дало магчымасьці больш глыбока і поўна высьветліць гэта пытаньне.

Мэтод працы, выбраны мною, адкрывае шмат цікавага ў жыцьці насельнікаў, галоўным чынам шасьціножак, сасновага пня:

1. Кідаецца ў вочы разьмеркаваньне жывёл у залежнасьці ад стану пня.

2. Зональнасьць ў разьмеркаваньні насельніцтва пня (адны пад карою, другія ў драўніне).

Трэба адзначыць, што разьмеркаваньне прадстаўнікоў паводле зонаў пня з біолёгічнага боку зьяўляецца вельмі сур'ёзным пытаньнем, які патрабуе шматгадовай працы. Цэлы шэраг прадстаўнікоў, напрыклад, Cerylon histeroides F; Uloma culinaris L., Paromalis parallelopipedus Hbst. і інш. адначасова сустракаліся, пры маіх зборах, у падкорнай і драўніннай часьці дня, дзеля гэтага маё разьмеркаваньне шасьціножак, галоўным чынам жукоў, па зонах пня зьяўляецца толькі орыентовачным.

Усю энтомофаўну сасновага пня магчыма падзяліць на наступныя катэгорыі:

1 гр. Сталыя насельнікі пня,—насельнікі, якія жывяцца тканкамі пня, альбо тут-жа паядаюць яечкі, чарву ці капшучкі інш. жыхароў пня (Clerus formicarius паядае яечкі караедаў).

Да гэтай групы я адношу: караедаў, вусачоў, златак, шчаўкуноў, Asilidae, Colydiidae, Scophidiidee, Слонікаў, Tenebrionidae і інш. Tenebrionidae напр. Corticeus longulus Gyll жукі і чарва вядуць сябе па рознаму, у той час як жукі зьнішчаюць яечкі караедаў і толькі выпадкова ядуць мёртвую чарву і капшучкі, чарва іх зьяўляецца сапраўднымі драпежнікамі і зьнішчае чарву караедаў (Hypophlaeus linearis F. як у стадыі чарвы, так і дарослага жука, вядзе барацьбу з чарвою і капшучкамі караедаў (Гусев В. И.).

Што-ж датычацца слонікаў асабліва (Hylobius obietes) сасновага, то самка кладзе яечкі ў карэньнях пнёў, адміраючых сьцяблоў і г. д. Глыбокай восеньню і раньняй вясной магчыма знайсьці дарослых доўганосікаў у шчылінах кары дрэў і пад карою пнёў.

2 гр. Да другой групы я адношу тых насельнікаў пня, для якіх пень зьяўляецца месцам сталага „обитания", напрыклад, Мурашкі, Многаножкі, Цьвіркуны (Myrmecophile acervorum Panz) — сімбіонт мурашак, пчаліныя osmia ruta L.) harctatus L. Eumenes.

3 гр., для якой пень зьяўляецца месцам часовага прытулку. Гэтую групу я лічу мэтазгодным падзяліць на дзьве падгрупы.

а) зімуюць масамі ў пнёх. Кароўкі божыя (зязюлька сямікропкавая), Coc. anthononus, Papilionidae (Самахвал жалобнік) зімуюць у дуплах дрэў, пад карою пнёў, прычым у працягу зімы афарбоўка іх сьвятлее.

б) мажліва аднесьці формы зусім не характэрныя, для сасновых пнёў—формы выпадковыя, напрыклад Cantharididae, лістаеды і інш. З самай вясны і да восені Cantharididae і Chrysomelidae мажліва знаходзіць ў пнёх і ў шчылінах кары пнёў.

Страва шасьціножак вельмі featureнастайна. На гэтай падставе шасьціножкі могуць быць падзелены на:

1. Мясажэрныя (Loophaga альбо Cornivora) жужалкі Colydiidae, Stasphylinidae, Cleridae, Coccinellidae напр. Clerus rormicarius. На працягу свайго жыцьця ў ходах караедаў і іншых шкоднікаў лесу, чарва Clerus formicarius зьнішчае вялікую колькасьць чарвы і капшучкоў караедаў, чым прыносіць значную карысьць (Гусев В. И.). Наогул усе і Cleridae драпежнікі і маюць даволі рухомую чарву, якая палюе спэцыяльна за шасьціножкамі, якія ўтачваюцца ў дрэва, так, напрыклад, чарва Tulus elongatus забіраецца ў ходы Ptilinus pectinicarnis, дзе і зьядае чарву апошніх (Шарп) таксама і Colydiidae, напрыклад, Cerylon histeroides як дарослы жук, так і яго чарва драпежнікі, яны зьнішчаюць чарву і капшучкі караедаў (Гусев В. И.).

2. Расьлінаядныя Phytophaga Buprestidae, Curculionidae, Cerambycidae, а таксама і большая частка Eloteridae. Што-ж датычыцца значнай часткі Tenebrionidae—стравай іх звычайна зьяўляюцца матэрыі расьліннага пахаджэньня і, як відаць, галоўным чынам, у самым сухім выглядзе (Шарп).

А большая частка вусачэй (Cerambycidae) жыве ў стадыі чарвы ў драўніне альбо пад карою сьцяблоў. Жукі ўсе жывуць за кошт тканак (Шарп).

3. Сапрофагі, якія харчуюцца матэрыямі, што гніюць (Saprophaga insecten.) частка шчаўкуноў і некаторыя іншыя.

Так напр., многія шасьціножкі жывяцца драўнінай і карою хворых альбо сухіх дрэў, чым яны і спрыяюць у вышэйшай ступені іх гніцьцю і ператварэньню ў перагной. Выступаючы вясной на пнях, расьлінны сок прываблівае вялізную колькасьць жукоў і двукрылых, якія ня толькі ядуць сок, але тут-жа адкладваюць яечкі на драўніну і кару, так што патомства іх даканчвае пачатае імі зьнішчэньне. Пракладваючы свае ходы часткова пад карою часткова ў забалані альбо драўніне, чарва жукоў адчыняе шлях атмосфэрным ападкам, якія з свайго боку дапамагаюць гніцьцю. (Кеппен).

4) Падлаеды Silphidae, Histeridae, Nitidulidae частка Stophylinid‘ (Кеппен). Хаця адносна Histeridae Шарп гаворыць наступнае: раней лічылі, што Histeridae харчуюцца выключна тымі гніючымі матэрыямі, у якіх іх знаходзяць, але-ж цяпер высьветлілася, пасьля дасканалых нагляданьняў, што яны характэрныя драпежнікі як у стадыі чарвы, так і ў стадыі дарослых, і паядаюць галоўным чынам чарву мух, якія водзяцца ў падалі, гноі і г. д.

Склад кожнай фаўны, бязумоўна, падлягае на працягу году законамерна пэрыодычным зьменам, такія зьмены наглядаюцца і ў фаўне сасновага пня.

З надыходам зімы наглядаецца ня рэдка вялікі рух паміж шасьціножкамі, галоўным чынам, жукамі, якія шукаюць свае зімовыя кватэры; адныя робяць гэта перасяленьне раней, другія пазьней: так, напр., божыя кароўкі (Coccinellidae), лясныя клапы і мухі хаваюцца толькі пры надыходзе маразоў; большаю-ж часткаю паказаныя перасяленьні робяцца цэлымі масамі. Паводле нагляданьняў (Кібры) дзеля гэтага выбіраюцца самыя цёплыя васеньнія дні (Кеппен—Вредные насекомые. Том I. 1881 г.).

Збор матар‘ялаў, як я паказаў, пачаўся мною ў 1926 годзе. Першая экскурсія 5/IV-1926 г. ў ваколіцах гор. Менску была зроблена, калі зямля была яшчэ пакрыта бадай усюды прынамсі ў лесе, сьнегавым насьцілам.

1927 г. у вак. м. Журавіч Магілеўскай акругі першая раньневеснавая экскурсія 3/IV—1927 г. была зроблена пры вялікай колькасьці сьнегу ня толькі ў лесе, але-ж і ў полі.

Экскурсія 1928 г. не захапіла сьнежнага акрыцьця 21/IV-28 г., Фаўна раньне-вясновага збору вельмі бедная. Знойдзена некалькі экзэмпляраў жужалак, слонікаў і божых каровак (усе нярухомы альбо слаба рухомы). далейшыя зборы бальш багаты featured розностайнасьцю відаў і колькасьцю экзэмпляраў.

З матар‘ялу сабранага ў працягу першага месяца раньне-веснавых экскурсій самым багатым зьяўляецца—жужалкі потым Tenebrio-

nidae, прычым шчаўкуны ў маі месяцы далі максымум збору, па колькасьці відаў і экзэмпляраў, у той час як жужалкі наадварот мінімум, а Tenebrionid чамусьці да ліпня мес. сталі рэдка пападацца. Tenebrionidae харчуюцца галоўным чынам яечкамі чарвы караедаў (Гусев В. И.), магчыма, дзякуючы недахопу стравы, яны і павінны былі пакідаць пні, іншыя прычыны мною ня выяўлены. Затое ў васеньні пэрыод атрымалася наадварот, жужалкі пападаліся ў маіх зборах з самай раньняй вясны, хаця час зьяўленьня як чарвы, так і дарослых шасьціножак у большасьці выпадкаў залежыць ад мэтэоролёгічных умоў. На працягу мая месяца жужалкі сталі менш пападацца ў маіх зборах. Далей-жа на працягу ўсяго лета, за выключэньнем жніўня (далі зноў мінімум), да самага кастрычніка жужалкі пападаліся даволі часта і ў значнай колькасьці. У гэтыя часы для такіх драпежнікаў як жужалкі дастаткова ў пнёх чарвы і розных шасьціножак. Хаця ў летні пэрыод жужалкі можна знаходзіць і ня толькі ў пнёх (пад лісьцямі, сярод травы і г. д.).

У кастрычніку і сьнежні мес. заўважваецца даволі значнае павялічэньне жужалак у пнёх (збор на зімовыя кватэры, якімі для значнай часткі ня толькі жужалак, але-ж і інш. шасьціножак зьяўляюцца сасновыя пні). Ня кожны пень ахвотна выбіраецца шасьціножкамі пад зімовыя кватэры; лепшымі, паводле маіх нагляданьняў, з пнёў для зімоўкі шасьціножак зьяўляюцца пні старыя і крэпкія, але-ж толькі ня трухлявыя. Прычым у пнёх часьцей і гусьцей засяляецца ніжняя прыкаранёвая частка, а верхняя слабей. Магчыма тэмпэратурныя ваганьні і яшчэ якія-небудзь умовы ня спрыяюць засяленьню верхняй часткі пня. Глыбокай восеньню і ўзімку ў верхняй частцы пня калі і пападаюцца, дык часьцей чарва, а дарослыя шасьціножкі выпадкова. Гэта яшчэ раз пацьвярджае няспрыяючыя ўмовы ў верхняй частцы пнёў для зімоўкі ня толькі чарвы, але-ж і дарослых шасьціножак. Паніжэньне крывой жужалак у лістападзе я тлумачу галоўным чынам тым, што ў гэты пэрыод мне, мажліва, больш пападалася пнёў, якія не абраны імі пад зімовыя кватэры, бо, як я вышэй казаў, ня кожны пень аднолькава засяляецца, асабліва ў васеньні пэрыод, ды і ня ў кожным пні я знаходзіў розных жукоў і ў прыватнасьці жужалак.

Характэрна тое, што некаторыя сямейства, як, напр., вусачэй шчаўкуноў і частка Tenebrionidae на працягу ўсяго летняга пэрыоду, даючы скачкі, усё-ж такі знаходзіліся ў пнёх.

У той час як лістаеды і божыя кароўкі для сасновага пня не характэрны, і аднесены мною да 3-й групы прадстаўнікоў, таму, што зьвязаны з жывымі расьлінамі, чэрвецамі і тлямі, якія жывуць на іх, Божыя кароўкі на працягу ўсяго летняга пэрыоду давалі досыць характэрныя зборы.

У красавіку м-цы божыя кароўкі пападаліся ў пнёх больш чым у інш. месяцы, бо частка з іх там зімавала напр. (зязюлька сямікропкавая і г. д. пападалася пад карою пнёў раньняю вясною).

К чэрвеню месяцу божыя кароўкі сталі ў пнёх зьнікаць (выхадзіць з пнёў) і перасяляцца на розныя расьліны. Што датычыцца Лістаедаў, якія часьцей пападаліся ў шчылінах кары, то яны давалі вельмі нясталыя зборы.

У прыродзе божыя кароўкі зьяўляюцца аднachасова з абуджэньнем жыцьця, адны віды раней, другія пазьней, у залежнасьці ад размнажэньня тлей і чэрвяцоў, якімі яны харчуюцца (Парчынскі).

У маіх зборах божыя кароўкі пападаліся ў пнёх з першай паловы красавіка:

10/IV. 1927 г. Журавічы Coc. septempunetata L.
10/IV. 1927 г. Журавічы Coc. decempunetata L.
13/IV. 1926 г. Менск Coc. vigintidiopunctata L.
10/IV. 1927 г. Журавічы Chilocorus bipustulatus L.

У гэтыя часы яны часьцей сустракаліся на асьвятленых сонцам пнёх, асабліва гэта характэрна для Chilocorus bepustulotus і некаторых іншых.

Трохі пазьней можна было знаходзіць шмат караедаў і лубаедаў; караеды зьявіліся ў маі ў даволі значнай колькасьці, чэрвені пачалі ўжо выходзіць з пнёў. 6/VI і 16/VI—26 г. г. Менск—прыкмячалася шмат аддушын і сьлядоў прабываньня іх. Даныя гавораць аб тым, што караеды пачалі ўточвацца ў пні яшчэ раней. У жніўні (30/VIII.28) у вак. Журавічы—зноў караедаў пападалася шмат, але-ж спорадычна, а к 2/X—27 г. (г. Чэрыкаў) ужо вельмі і вельмі рэдка. Кастрычнік месяц зьяўляецца даволі багатым, як паводле багацьця форм, так і па колькасьці экз., напр. вусачы, жужалкі і частка шчаўкуноў і г. д. у гэты месяц давалі самы багаты збор.

На працягу ўсяго жніўня, асабліва другой паловы (26/27. VII. 28 г. Чэрыкаў), сустракалася шмат трытонаў пад карою старых пнёў. Бывалі такія выпадкі,—адварачваеш кару пня і іх 3-4 малых, радзей пападаліся вялікія. Знахадкі трытонаў мелі месца недалёка ад балот ці іншых вадазбораў. Затое двукрыльныя ў кастрычніку ў пнёх сталі павялічвацца (зьбірацца на зімоўку пад кару і драўніну, у гатовыя ходы і шчыліны).

Вусачы ў чэрвені дасягнулі максымуму выхаду, а далей сталі сустракацца радзей, акрамя жніўня, дзе зноў далі рэзкі скачок уверх. У маі заўважана рэзкае памяншэньне чарвы шчаўкуноў і павялічэньне дарослых (Imago) даволі рэзкае ў параўнаньні з ранейшымі і пазьнейшымі зборамі.

25/VII-26 г. в. Прудок у старых і радзей крэпкіх, за адстаўшаю карою, пнёх, знаходзіў сьлімакоў з яечкамі.

Месяцам раней у першы раз заўважана шмат чахлоў ад выхаду Imago Laphria. Чахлы як сьвечкі тарчалі зьверху пнёў, а калі ён быў без кары, то з бакоў. 16/VI-26 г. Менск—выхад Imago Laphria, значна павялічыўся. Часта можна было знаходзіць зусім сьвежыя чахлы, альбо наглядаць выхад з чахлоў. Некаторыя выходзілі з чахлоў даволі хутка 7—10 хвілін і папаўзьлі, а быў такі выпадак, калі я захапіў пачатак выхаду з чахла, які тырчаў уверх з пня, і вось на працягу 15 хвілін муха не магла вылезьці, так была і ўзята. З кукалак, якія я зьмяшчаў у садкі, выходзілі Imago праз 7—12 дзён. З чарвы ня прыходзілася вывадзіць.

На працягу чэрвеня і ліпня можна было наглядаць лётаючых па прагалінах і сонцапёках (любімыя месцы) Laphria. Адзін раз капуляцыя паміж Laphria цягнулася 15 хвілін і я, не дачакаўшыся канца, забраў іх. Прыходзілася наглядаць як муха высмактвала злоўленага жука, седзячы на пні. У ліпні заўважана рэзкае памяншэньне Imago Laphria. 13/VIII-26 г. Менск—знаходзіў шмат, пад карою і радзей ў драўніне Imago шчыкаўкі (Forficulidae), якія да гэтага часу пападаліся адзінкамі. Павукі пападаліся пачынаючы з красавіка на працягу ўсяго летняга пэрыоду. 10/X-27 г. Журавічы—знаходзіў ужо шмат

„закоконаваўшыхся“ (былі пакрыты тонкім слоем павуціньня) на зіму, галоўным чынам, пад карою старых пнёў і радзей у драўніне. Зімовыя коконы пападаліся часьцей бліжэй да глебы і выпадкова ў верхніх частках пня. Мурашкі пападаліся ў 90% пнёх, вельмі любяць старыя пні, з якіх неабвалілася кара. На раньне-веснавых экскурсіях прыходзілася часта знаходзіць пад карою і ў драўніне напоўрухомых осабей. 30/V-26 г. Менск—Журавічы заўважана ў іх шмат кукалак. 27/VI-26 г. Менск—зьявіліся першыя крылатыя формы ў даволі значнай колькасьці, прыблізна ў 20% пнёў. У жніўні 1926 г. дасягнулі максымуму акрыленьня. Асобныя экзэмпляры крылатых пападаліся 10—17/X-26 г.

Наогул трэба адзначыць, што ў кастрычніку фаўна пня павялічылася даволі значна ў параўнаньні з іншымі месяцамі году. (Збор на зімоўку).

Мая праца закранае толькі ў кароткіх рысах некаторыя пытаньні з гэтай шырокай тэмы, дзякуючы адсутнасьці літаратуры па гэтаму пытаньню, магчымы і некаторыя памылкі як з мэтодычнага, так і з іншых бакоў. Але-ж трэба адзначыць, што вывучэньне фаўны ня толькі сасновага пня, а і наогул пня, вельмі карысна. Прычым, у далейшым трэба прыняць пад увагу ня толькі дзяленьне сасновага пня на тры катэгорыі (сьвежыя, крэпкія і старыя), але-ж і далейшае: 2) тоўстыя, сярэднія і тонкія, 3) сухія і вільготныя, 4) заселеныя і незаселеныя, 5) лічыцца з рэльефам мясцовасьці і згуртаваньнем (сообществом), сярод якіх знаходзяцца пні.

Такім чынам на падставе вышэйсказанага, мы прыходзім да наступных вывадаў: 1. Пні, якія застаюцца ў лесе неабкоранымі, зьяўляюцца месцам размнажэньня шкоднікаў лесу—(караедаў, вусачэй, слонікаў і інш.), якія з пнёў перасяляюцца на стаячыя дрэвы, дзе ідзе ўжо далейшае павялічэньне іх колькасьці, дзякуючы чаму лясной гаспадарцы наносяцца вялікія страты.

2. На абкораных пнёх ня могуць разьвівацца галоўныя шкоднікі, а таму, мерапрыемства, якое ўжываецца ў лясной гаспадарцы, зьяўляецца вельмі рацыянальным.

---

Л. Балкавец.

# Павітуха дзяцелінная (Cuscuta trifolii Bigt.).

Павітуха дзяцелінная належыць да найбольш небясьпечнага пустазельля, якое прыносіць сялянскай гаспадарцы вялікую шкоду. Гэта расьліна-чужаед належыць да сям'і павойных (Convolvulaceae) і паходзіць, мабыць, з Ост -Індыі[1]), але занесеная ў Эўропу зусім добра акліматызавалася і распаўсюдзілася як і іншыя пустазельлі, як, напр., Купалка Канадзкая (Erigeron Canadensis), якая паходзіць з Канады (у Паўн. Амэрыцы), а распаўсюдзілася па ўсіх дзяржавах Эўропы не абмінуўшы і СССР. Павітуха мае многа гатункаў (відаў), якія адрозьніваюцца адзін ад аднаго як узростам самой расьліны, гэтак і формай і памерам зерняці насеньня, але галоўным чынам сваімі т. зв. „гаспа-

[1]) Карельщиков, С. Луговые и сорные травы. Сел. хоз. и лес. 1865, т. I, ст. 327

дарамі" г. зн. расьлінамі, на якіх яны жывуць, высмактваючы з іх увесь сок, фактычна перарабляючы „гаспадара" на нявольніка...

Уся расьліна складаецца з жоўтых, часамі чырванаватых нітак, з дробнымі купкамі белых, часамі ружаватых кветак, падобнымі да ячных круп зьлепленых у камкі. Плодзіцца яна насеньнем, дужа дробным, шурпаценькім, як-бы абсыпаным дробным пылком. Простым вокам разглядзець зерняты трудна. Сьпелае зерне, папаўшы ў зямлю, спачатку ўкараняецца каранчыкам тоўсьценькім на канцы і цягнецца растком угору, шукаючы падпоры. Малады расток, як заўважылі дасьледчыкі[2]), ніколі не абвіваецца вакол сухой галінкі, але заўсёды каля зялёнай, пакуль не зачэпіць тую расьліну, на якой будзе жыць. У Беларусі часта сустракаецца павітуха эўропейская (Cuscuta europaea L.), якая жыве на крапіве, хмялі і інш. расьлінах, што растуць па нізінах каля рэк, часамі і ў гародзе, але мы тутака спынімся толькі на дзяцеліннай павітусе.

Знайшоўшы „гаспадара", г. з. каліва канюшыны, дзяцеліны, расток абкручваецца на ім некалькі разоў і, умацаваўшыся гэткім спосабам, выпушчае з сябе дробненькія сысочкі — гаўсторыі, якія злучаюцца з праводнымі вязкамі канюшыны і такім чынам высасваюць сок, які па гэтых жылках ідзе для жыўленьня „гаспадара". Разам з гэтым вырастаюць новыя галінкі-ніткі, якія навокала захапляюць усё большы і больш лік каліў дзяцеліны, якую густа абкручваюць і пераплятаюць да самага верху, творачы круг. Карэнчыкі павітухі, якая ўжо замацавалася на сваім „гаспадары" адсыхаюць і ад зямлі яна ўжо адлучаецца—усё жыцьцё яе цяпер праходзіць „на карку" дзяцеліны, якая скора заміраe, засыхае, увесь круг выправае, а жоўтыя ніткі павітухі шырацца і круцяцца ўсё далей і далей, на сьвежых калівах дзяцеліны. Дзяцеліннае поле, засьмечанае павітухай, можна пазнаць здалёк, бо на яскравай зяляніве ясна выдзяляюцца жаўтаватыя ад нітак павітухі плехі. У канцы ліпня, або ў пачатку жніўня павітуха пачынае цьвесьці і тыдні праз 2—3 высьпявае насеньне. Насеньне дужа стойкае: марозу не баіцца, а калі скаціна зьесьць—то не пераварваецца ў жываце, але выходзіць цалкам і трапіўшы з гноем ў поле добра прарастае. Усходлівасьць насеньня трымае 4-5 год. Кожнае каліва павітухі можа даць да 3000 зернят. На зіму павітуха захоўвае свае ніткі пры самай шыйцы кораня дзяцеліны ў зямлі і перазімаваўшы скора і моцна разрастаецца, а калі насеньне высьпела і высеялася ўвосені, то плехі ад павітухі захапляюць вялікія вучасткі, зьліваюцца адна з аднэй і гэткім чынам дзяцеліннае поле гіне на другі год дачыста.

Ужо з гэтага кароткага агляду зразумела, якую вялікую шкоду можа прынесьці павітуха сялянскай гаспадарцы, а калі дадаць яшчэ, што скаціна, зьеўшы павітуху ў сене, хварэе на жывот, то зусім ясна стане патрэба рашучай барацьбы з гэтым ворагам-пустазельлем.

У Заходняй Эўропе ўжо даўно зразумелі гэта, і ў розных дзяржавах вялося змаганьне з гэтай травой: накладалі штрафы на гандляроў, якія прадавалі насеньне канюшыны (дзяцеліны) не ачышчанае ад павітухі, контрольныя станцыі правяралі засевы і прымушалі гаспадароў нішчыць павітуху там, дзе яна аказвалася, а ў Румыніі ў 1909 г. закон забараніў увозіць з іншых краін насеньне канюшыны, люцэрны

---

[1]) Каменский. К. В. Клеверные повилики. Тр. Прикл. по Бот. Генетике и Селекц. т. XVIII, в. I, ст. 221.

і інш., у якім пры аналізе было знойдзена ня толькі адзінае зерне сьпелай павітухі, але нават драбінка ад яго або луска.

Засьмечанасьць канюшыны павітухай у СССР вельмі вялікая, асабліва ў Паўднёва-Заходняй частцы, дзе месцамі (у Кіеўск. губ.) засьмечанасьць у 1925-26 г. даходзіла да 100%. Дзеля гэтага кожны гаспадар, які сее канюшыну павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу на павітуху. У ваколіцах Менску летась я заўважыла павітуху на хутары Казіміраўка Папярнянскага с. с. (17 вёрст ад Менску) і ў бліжэйшай да хутара вёсцы. Я мела магчымасьць назіраць як на працягу 8 дзён плехі, зацягнутыя як павучыньнем ніткамі павітухі, разрасьліся ў два разы больш.

Прасьцейшая барацьба з павітухай пачынаецца з ачысткі насеньня спэцыяльнымі машынамі. Насеньне трэба правяраць на насенных станцыях. Калі-ж на полі заўважыцца прысутнасьць павітухі, то неадкладна кожную плеху трэба абкапаць і зрэзаўшы ці выкасіўшы зяляньнё, выпаліць месца, накідаўшы на плешыну дробнай саломы, ці гальля і паліўшы газай. На полі, якое было засьмечана павітухай, ня сеюць канюшыны 5 год.

---

## ЛІТАРАТУРА.


1. Душечкин, О. Насінныя червоної конюшыны за дослідами Кієвської Краевої Контрольної Нас. Станции вр. 1924-25. „Бюллетень Киевской Областной С. Х. Оп. Ст.“ № 11, 1925, стр. 25.
2. Фролов, И. Очередное в клеверном деле. „Вестн. С. Х.“ № 12, 1925, ст. 266.
3. Каменский, К. Методы анализа и способы контроля над посевным материалом заграницей. Записки Ст. Исп. Семян, т. I, в. 2, стр. 10.
4. Каменский, К. Оффициальная пломбировка, как гарантия определенного качества семян. Труды Обл. Съезда по Селекции и Семеноводству, 1912 г. в Ленингр. т. III.
5. Павлов, И. Клеверный вопрос. Москва. 1924. Изд. М. Зем. Отд. стр. 26—29.
6. Стебут, И. Сорные травы и их истребление. „Сел. Хоз. и Лесоводство“ 1867, т. I.
7. Каменский, К. В. Клеверные повилики. Труды по Прикладной Ботанике, Генетике и Селекции. Т. XVIII, в. 1 (1927-28).
8. Карельщиков, С. Луговые и сорные травы. Сел. Хоз. и Лес. 1865, т. I ст. 327.
9. Семиполовский, А. Повилика и способы ее истребления. Сельское Хоз. и Лесоводство № 5. 1903, ст. 364.
10. Ларионов, Д. Главнейшие виды русских повилик и меры борьбы с ними. Записки Ст. Испытания семян при Ботан. Саде. Т. I в. 4.
11. Мальцев, А. О нахождении в России Cuscuta racemosa Mart и Cuscuta arvensis Beyr. Тр. Бюро по прикл. Ботанике 1915 ст. 273.
12. Барабошкин, Н. Повилика и меры борьбы с нею. Сообщ. № 26, Сем. Контр. ст. Харьков., Общ. Сел. Хоз. Харьков. 1911.
13. Кеспер, М. Опасность, грозящая Пермскому клеверному семенному хозяйству. Вестник Сел.-Хоз-ва. № 2, 1914.
14. Кулешов, Н. Международные конгресы по контрольно-семенному делу. Тр. по пр. Бот. и Сел. т. XV, 1925, в. 5, стр. 376.
15. Исаченко, Б. К вопросу о распространении в России клеверной повилики. Тр. Совещания по вредителям клевера. 27-29, III 1915, в г. Туле.
16. Ландау-Тылкина, Н. Засоренность семян клевера и тимофеевки Московского рынка. „Вестн. Сел. Хоз. № 24, 1916.
17. . . . . . Труды Совещания специалистов и инструкторов по культуре кормовых растений 1913-14 г. г. созв. в Москве, Туле и Минске. Петроград 1915. Изд. Деп. Земл. Доклад Л. А. Панасюка: „Обследование возделывания клевера на семена во Владимирской Губ. в 1913 г.“.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Д. Васілеўскі.

## Рыбнае багацьце Аршаншчыны.

У старадаўныя часы рыбная гаспадарка служыла прадметам пільнага клопату розных мясцовых урадаў. Літоўская мэтрыка захоўвае поўнае апісаньне рыбных запасаў розных вялікакняскіх замкаў: сушаная і вялая рыба абавязковы прадмет „сьпіжаваньня“ замку.

Апісваючы вялікакняскія „добры“, інвэнтары замкаў, старанна пералічваюць розныя „замкавыя“ вазёры. Інвэнтар Аршанскага замку ад 1560 году пералічвае належачыя да замку вазёры і колькі тоней рыбы дае кожнае з іх. Шырыня і прыбытковасьць возера вызначаецца ў апісаньнях колькасьцю рыбных тоней: „азяро Бабіна — 25 тоней, а індзе невод ня ходзіць, другая азяро Дзевіна тоней 10, а індзе невад незаходзіць, трэцьцяе возера Прыхоны—тоней 3, чацьвёртае азяро Карасіна тоні 2, вазеры Пераналочня, Лічына—па 2 тоні, сёмае азяро—Ардзяшова—тоні 4“ (Док. М. А. М. Ю., т., ст. 126). Сем вазёр, якія згуртаваны каля Асінаўскае электрастанцыі імя тав. Сталіна, давалі 40 тоней у год. Звычайна тоняй завецца ўвесь абшар возера даўжынёй ад 250 да 300 саж., шырынёй ад 150 да 180 саж., на якім затануў невад. Адна тоня дае ад 50 да 80 пудоў рыбы. Раней у тоню пападала да 100 пудоў рыбы.

Невадам ловяць рыбу галоўным чынам толькі зімой. Такім чынам, замак атрымоўваў з сямі вазёр ад 2 да 4 тысяч пудоў рыбы ў год. Летам забаранялася лавіць рыбу невадам: „а індзе невад ня ходзіць“. Вялікакняскі ўрад цікавіўся станам сваёй рыбнай гаспадаркі і прымаў хаця прымітыўныя меры для яе рэгуляваньня. Урад цікавіўся толькі вялікімі вазёрамі. Дробныя возёры не ўваходзілі ў кола аховы замкавага ўраду. Каля Арахоўскага возера (Бабіна паводле інвэнтару) раскінулася шмат дробных вазёр: Зялёнае, Сьвятое, Белае, Ямлычына, Якараўшчына, Волахава, Красная Вочка, Равеннае, агульная іх плошча дасягае 80 га, але інвентарысты замку зусім пра іх нічога ня піша: дробязь ня цікавіла дзяржаўны скарб. Гэткія вазёркі не аплачвалі затрат на невад. Карчыстае, камяністае дно вазёр вельмі шкодна для цэласьці неваду. Невад, самае большае, пры добрым даглядзе служыць 2-3 гады. Карма неваду вяжацца даўжынёй 25 сажняў, а крыльлі ад 50 да 135 сажняў. К канцу кожнага крыла прывязваецца кій каля 1 мэтра даўжыні. Верх і ніз крыльляў і кармы зьбіраецца на вяроўкі, канцы іх прывязаны да кіёў крыльляў. Да верхняй вяроўкі

прывязваюцца праз кожныя 2 сажні дошчатыя паплаўкі, а да ніжняй на такой-жа адлегласьці прывязаны „грузілы“, камені абмотаныя лыкамі. Да сярэдзіны кожнага кія прывязаны вяроўкі па 120 саж. даўжыні.

Раней мясцовыя рыбакі самі пралі сеткі з пянькі, але ў другой палове XIX ст. гэты промысел заняпаў.

17-18 стагодзьдзі дрэнна адбіліся на стане рыбнай гаспадаркі; абкручанае па руках і нагах прыгоннымі абавязкамі сялянства стала варожа адносіцца да ўсяго панскага дабра. Рыбныя вазёры паны пастараліся выкарыстоўваць у першую чаргу. Арэнда вазёр зьяўлялася звычайным сродкам панскага прыбытку. Безгаспадарная драпежніцкая эксплёатацыя рыбных багацьцяў з боку шляхты давяла да паступовага спусташэньня іх. Ужо к пачатку 19 ст. рыбы ловіцца мала ня толькі ў рэках, але і вазёрах Аршаншчыны, а попыт на рыбу расьце. Гэта прымушае некаторых паноў капаць у маёнтках глыбокія сажалкі, і разводзіць у іх рыбу. Сьляды такіх мерапрыемстваў паноў сустракаюцца ў шмат якіх маёнтках. У самым горадзе Воршы, па Комсамольскай вуліцы, у сучаснай акруговай больніцы імя т. Сямашкі супраць базарнае плошчы, на левым беразе р. Аршыцы, ёсьць тры вялізныя заплыўшыя сажалкі—сьляды рыбнай гаспадаркі бэрнардынскага кляштару першай паловы XIX стагодзьдзя. Манахі вельмі ўдала скарысталі для сваёй гаспадаркі воды рэчкі Аршыцы. Водны рэжым сажалак нічым не адрозьніваўся ад вады Аршыцы. Хутка будзе 100 год ад зачыненьня манастыра ў 1831 г., а ўсе патугі аршанцаў засыпаць сажалкі розным сьмяцьцём не далі ніякіх вынікаў: сажалкі глыбокія, у кожную з іх вясной заходзіць вада з Аршыцы. Пры невялікай затраце працы сажалкі маглі даваць значны прыбытак.

У 1878 г. была пабудована рыбная гаспадарка ў панскім двары Смальляны. Каля рэчкі былі вырыты тры вялікія сажалкі для разьвядзеньня карпаў і карасёў. Уся плошча гэтых сажалак займала 25 га. На земляныя і тэхнічныя работы было затрачана больш 12 тысяч рублёў. Смальлянская рыбная гаспадарка давала пану значны прыбытак. Рыбам хапала натуральнага харчу, падкармліваць яе не патрэбна было; выраслі карпы да 15 ф. вагой. Для сажалак былі скарыстаны балацяныя лугі вакол руін Смальлянскага замку.

Але Смальлянская рыбная гаспадарка была выключэньнем сярод панскіх гаспадарак. Дзе-ні-дзе па маёнтак былі запаведныя пруды, а то і невялічкія глыбокія сажалкі з карасямі, лінямі, на якіх навакольнае сялянства вайстрыла галодныя зубы. З правядзеньнем чыгунак па Аршанскім павеце пачалася шалёная лавітва рыбы ў панскіх вазёрах. Рыбу сталі экспартаваць у Маскву, Варшаву, Вільню, Пецярбург. Буйныя арандатары наладзілі збыт і лоў рыбы вялікімі масамі. Рыбалоўства нічым не рэглямэнтавалася, рыбалоўныя ўгодзьзі нікім не ахоўваліся. Галоўны лоў рыбы быў у часы нерасту. Пан дбаў толькі аб сваечасовым атрыманьні арэнды за свае вазёры, а што на іх рабілі арандатары—мала яго цікавіла. Дзякуючы такому бязмозгламу гаспадараньню, зьменшылася карысная плошча вадаёмаў, зьніклі каштоўныя пароды рыб, павялічыліся запасы некаштоўнай рыбы.

Рэволюцыя 1917 г. разбурыла ўсю панскую рыбную гаспадарку, але грамадзянская вайна не давала мажлівасьці вясьці плянавага рыбацтва. Селянін часткова спагнаў на рыбе сваю злосьць на пана. Рыбу лавілі ўсякімі спосабамі і ва ўсякую пару году, лавілі ўсе, каму была ахвота. Волсаветы і сельсаветы зусім ня ўлічвалі ў свой бюджэт

прыбыткаў ад рыбнага лову. Арандаваліся вазёры за надзвычайна малыя сумы, грошы і рыба расьцякаліся па людзях бяз жаднай карысьці. Падала прыбытковасьць вазёр і колькасьць рыбнага ўлову.

З 1923 г. Наркамзем Беларусі ўзяўся за плянавае аднаўленьне рыбнай гаспадаркі. Былі закладзены рыбаводныя заводы. У межах Аршаншчыны былі заснаваны: Лукамскі рыбзавод для разьвядзеньня селявы, ляшча, судака і сіга, адпушчаны сродкі на аднаўленьне Смальлянскай карпаразводнай фэрмы. Але ўсе пляны работ праводзіліся вузка ведамсьцьвеным шляхам. Шырокія колы насельніцтва ня былі азнаёмлены з плянамі Наркамзему, затым большасьць плянаў засталася на паперы. У Смальлянах тры гады атрымоўваў пэнсыю загадчык рыбнага гадавальніку, а да тэхнічнага аднаўленьня ўсяе трудавое сыстэмы ня прыступлена. Згодна пляну гэта гаспадарка яшчэ ў 1927/28 г. павінна была даць 100 тысяч карпаў-сегалеткаў, а к 1930 году 260 тысяч малькоў з гэтае гаспадаркі меркавалася перасяліць у вазёры і пруды БССР.

Кіраўніцтва з боку Наркамзему рыбаводзтвам праводзілася без праверкі выкананьня плянаў, а таму здараліся зусім непажаданыя для справы аднаўленьня рыбнага багацьця зьявы.

Па самай прыродзе сваёй рыбалоўства колектыўна, індывід, асобная гаспадарка нічога тут ня зробяць. Для гэтага ўся праца Наркамзему, якая кіравалася на індывідуальную сялянскую гаспадарку, загадзя была асуджана на правал. Поўнага падліку вазёр, ставоў, сажалак няма да гэтага часу. Плян мерапрыемстваў па аднаўленьні рыбнай гаспадаркі Беларусі ўлічыў на Аршаншчыне ўсяго 37 вазёр з плошчай 860 дзесяцін, 3 сажалкі на плошчы 12 дзесяцін і 2650 вёрст рэк і рэчак з прытокамі. Наколькі мала гэты падлік адпавядаў рэчаіснасьці, паказвае той факт, што вядомыя Наркамзему сажалкі ў м. Смальляны займалі плошчу 25 дзесяцін, а даўжыня рэк, рэчак акругі ў два разы больш. Бяз поўнага падліку годнае для разводу рыбы воднай плошчы нельга складаць жыцьцёвых плянаў. Вось чаму Белрыбе, кустпромкоопэрацыі неабходна правесьці дасканалы падлік плошчы вазёр, рэк, рэчак, ручаёў, ставоў, сажалак, балот, выпарак, у якіх можна з посьпехам разводзіць рыбу. У нас вельмі многа вазёр сярод амшар, балот, рыба ў іх добра разводзіцца, і сярод іх ёсьць такія, дзе ні разу ня быў аматар-рыбак, а ня толькі рыбацкая арцель. У такіх вазёрах разводзіцца карась, лін, піскун. Індывідуальная гаспадарка не магла адужыць такіх вазёр, вытравіць хібы іх вадзянога рэжыму, аздаравіць яго. Шырокая мэліорацыя балотных масываў, колектывізацыя сельскай гаспадаркі карэнным чынам мяняе ўмовы жыцьця гэтых вадаёмаў, дазваляе наладзіць належную эксплёатацыю іх рыбнага насельніцтва. Асушэньне балот затрымае заплываньне возера торпам, дасьць мажлівасьць падраўняць, падправіць іх берагавую лінію.

Да вучоту і апісаньня вазёр трэба прыцягнуць краязнаўчыя організацыі. Спроба Аршанскга Акруговага Т-ва Краязнаўтва падлічыць плошчу вазёр акругі дала іншы малюнак, чым падлік Наркамзему. Цяжка толькі падлічыць, колькі штогодна ловіцца рыбы ў кожным возеры. Такога падліку стала не вялося, дзеля гэтага нашы падлікі далёкі ад дакладнасьці.

Паводле ліку вазёрнай плошчы і ўлову рыбы раёны Аршанскай акругі выяўляюцца ў такім выглядзе:

Аршанскі раён:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) возера Арахоўскае . . | 227 га, | улоў | 148 п. у год. |
| 2) Прыхоны . . . . | 14 га, | „ | 24 п. у год. |
| 3) Пераналочна . . . | 14 га, | „ | 24 п. |
| 4) Зялёнае . . . . | 5 га, | „ | 6 п. |
| 5) Сьвятое . . . . | 2 га, | „ | вестак няма. |
| 6) Белае . . . . | 3 га, | „ | — |
| 7) Ямлычына . . . | 2 га, | „ | — |
| 8) Якараўшчына . . . | 3 га, | „ | — |
| 9) Равеннае . : . . | 2 га, | „ | — |
| 10) Волахава . . . . | 4 га, | „ | — |
| 11) Краснае Вочка . . | 3 га, | „ | — |

Багушэўскі раён:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 12) Дзевіна . . . . | 211 га, | улоў | 150 пудоў. |
| 13) Ардышэўскае . . . | 40 га, | „ | 50 п. |
| 14) Карасіна . . . . | 13 га, | „ | 20 п. |
| 15) Лічына . . . . | 10 га, | „ | 12 п. |

Намі падлічана толькі чыстая, не бузяная ці карчаватая плошча вазёр, дзе сьмела можна лавіць рыбу сеткамі. Гэта група вазёр згуртавана каля Арахоўскага возера, на беразе якога стаіць Асінаўская раённая электрастанцыя, на абшары 10—12 кілёмэтраў па крузе. Гэтая група вазёр у даўныя часы была галоўнай рыбнай базай гарадоў Воршы, Дуброўны. Паводле прыродных умоў да гэтай групы вазёр можна далучыць сетку вазёр сярод балот поўначы Дубровенскага раёну і тры вазёры па рэчцы Вярхіта. Верхняе, Шэкінскае і Азерацкае з агульнай плошчай каля 25 га, уключаючы сюды вазяркі каля вёскі Новая Зямля.

Ва ўсіх гэтых вазёрах ловіцца: шчупак, акунь, плотка, лінь, карась, падлешчык. Усе гэтыя вазёры пры належнай эксплёатацыі лёгка могуць даваць 500 пудоў рыбы ў год.

Багушэўскі раён багат вазёрамі ў сваёй паўночнай частцы: тут раскінуліся рыбныя вазёры:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 16) Кічына . . . . | 218 га, | улоў | 150 пудоў. |
| 17) Серакаратнянскае . | 191 га, | „ | 100 п. |
| 18) Стрэшына . . . | 15 га, | „ | 10 п. |
| 21) Нерэйшанскія I, II, III 22, 10, | 11 га, | „ | 30 п. |
| 22) Рабцаўскае . . . | 5 га, | „ | 4 п. |

У гэтых вазёрах водзяцца: лешч, ёрш, шчупак, плотка, карась, налім, рак.

На поўдзень ад р. Дняпра Аршаншчына бедна на вазёры. На тэрыторыі Ляднянскага, Горацкага, Расьнянскага, Копыскага, паўдзённай часткі Аршанскага, Дубровецкага раёнаў вазёр намі не зарэгістравана, але ёсьць досыць вялікія стаўкі на рэчках, каля млыноў. У Дрыбінскім раёне вазёры Дрыбіна, Мураванка, у якім жывуць бабры. У Мсьціслаўскім раёне Сьвятое возера, у Коханаўскім—Галошаўскае—прамысловага значэньня ня маюць, але ва ўмовах колгасаў могуць быць выкарыстаны для разьвядзеньня прамысловых гатункаў рыб, якіх можна разводзіць у замкнутых вадаёмах.

Круглянскі раён мае возера: Навіка—20 га, Язёры—10 га, Талочынскі раён багаты на вазёры сярод балот—Усьвейскае, Серкавіцкае, Зубаўскае, плошчай ад 2 да 5 га; Крупскі раён—Ухвальскае, Ялонкаўскае возера з агульнай плошчай каля 40 га. У гэтым раёне ёсьць многа нявывучаных вазёр. Такім вывучэньнем павінны займацца краязнаўцы. Найбольш багаты на вазёры Чарэйскі раён: Лукомскае возера—3500 га, Селява—580 га, Чарэйскае—430 га, Радца—300 га, Ямка—130—га, Рыдэмля—90 га, Сьледзічанскае, Аўсяніцкае—па 68 га, Квеціна—66 га; Абіда—45 га, Азярэцкае, Бельняцкае—па 22 га, Глыбокае, Сабанскае—па 12 га; Сабачына, Вечына—па 4 га; Чэрненскае, Кабыльшчанскае—12 га, Сарачынскае, Залеціна—па 17 га; Сьвятокі—23 га, Мошнае, Ратнянскае—па 52 га; Чорнае—46 га, Галаўня –43 га, Балюта—36 га.

Уся плошча вазёр акругі перавышае 8000 га, сюды можна дадаць каля 4000 га сажалак, ставоў, прудоў, выгарак, у якіх з посьпехам можна разводзіць карасей, піскуноў. Ва ўсіх маёнтках ёсьць старыя, часта зарослыя сажалкі, пруды, іх спусьцілі ў свой час, каб вылавіць рыбу, але аднавіць іх вадаёмы вельмі лёгка, без вялікіх затрат, сродкі акупяцца хутка.

У масе сваёй насельніцтва вельмі мала знаёма з тымі пародамі рыб, якія насяляюць нашы вадаёмы. Аматараў рыбаводзтва знойдзецца колькі трэба. Белрыбе і прамысловай коопэрацыі трэба перанесьці цяжар працы ў сельска-гаспадарчую арцель, саўгас, правесьці шырокае азнаямленьне насельніцтва з сваімі плянамі аднаўленьня, выкарыстаньня рыбнага багацьця.

У нас знойдзецца ў рэчках, вазёрах шмат яшчэ чаго не дасьледванага навукова-дасьледчымі ўстановамі, Белрыбе трэба цясьней зьвязацца з краязнаўчымі організацыямі, колектыўнымі гаспадаркамі. Трэба бліжэй азнаёміцца з мажлівым прамысловым значэньнем некаторых парод нашых рыб. Дагэтуль Наркамзем лічыў об'ектамі рыбаводзтва селяву, ліна, ляшча, галаўня, карпа, судака, сіга, угорыча. Карасі ў вялікай колькасьці заведзены сялянамі ў сваіх сажалках здаўна, яго разьвядзеньне прышчапілася на вёсцы. Тут коопэрацыі прыдзецца контрактаваць ў колгасах пастаўку карася ў вызначаныя тэрміны, даць крыху грошай на аднаўленьне прудоў—і прасачыць за выкананьнем умовы, дапамагчы набыць малькоў карася.

Трэба наладзіць консэрваваньне больш лепшых гатункаў нашых рыб, як стынка—(сьняток, селява ў в. Саро, Віцеб. акругі). Мне думаецца, што для гэтае мэты вельмі прыгодны ўюн Палесься, які на Віцебшчыне, Магілеўшчыне завецца піскуном (Cobilis Sossilis Gml). Па сваёй трываласьці піскун перавышае карася, жыве па ўсіх выгарках, топкіх балотах; мне самому даводзілася вылаўліваць іх даўжынёй у 2 чэцьверці, смажанае мяса піскуна нагадвае смак міногі, якую мы купляем у консэрвах з Адэскай фабрыкі. Яго лягчэй разводзіць, чым угорыча, які ў З. Дзьвіне малым, маладым не пападаецца. Трэба больш дасканала вывучыць жыцьцё ўюноў-піскуноў, гэта такая рыба, якую ўсюды можна разводзіць. Піскуна часта не адрозьніваюць ад „піскіжа“ Магілеўшчыны, расійскага пескара, які любіць чыстую ваду, пяшчанае дно, а піскун любіць балацяную бузу. Праўда, беларус Віцебшчыны грэбуе піскуном, ён крыху нагадвае па выгляду вужаку.

Новыя ўмовы колектывізаванае сельскае гаспадаркі па-новаму разьвязваюць рыбную проблему.

В. Самцэвіч.

# Халопеніцкі раён па шляху да суцэльнай колектывізацыі[1]).

## III. Праца мясцовых організацый і ўстаноў у справе колектывізацыі раёну.

Політычная і культурная адсталасьць насельніцтва раёну, слабая організаванасьць бядняцкіх і серадняцкіх мас, недахоп партыйных і культурных сіл, слабая коопэраванасьць насельніцтва і стаўка зямельных органаў (у мінулым) на ўзмацненьне індывідуальнай гаспадаркі пры адсутнасьці спроб разьвіцьця колектыўных гаспадарак былі прычынай таго, што колгасны рух у раёне распачаўся толькі ў канцы 1929 г., пасьля катэгорычных пастаноў XII зьезду КП(б)Б і XVI партконфэрэнцыі ЎсеКП(б) аб узмацненьні колгаснага будаўніцтва і рашучым павароце зямельнай політыкі ў бок разьвіцьця колектыўных форм сялянскай гаспадаркі.

У той час калі ў шэрагу раёнаў БССР мы мелі ўжо масавы колгасны рух, у Халопеніцкім раёне справа колектывізацыі толькі распачалася. Колгаснае будаўніцтва ў раёне яшчэ ня было популярызавана сярод шырокіх бядняцкіх і серадняцкіх мас: мясцовыя організацыі справай колектывізацыі належным чынам не займаліся да таго часу, пакуль у раён не зьявіліся рабочыя брыгады. Каб не адстаць ад іншых раёнаў БССР у справе колектывізацыі, раённыя ўстановы рашылі ў 3-4 месяцы правесьці суцэльную колектывізацыю і ў сваім раёне. Без сыстэматычнай плянавай штодзённай растлумачальнай і выхаваўчай працы, пасьля 1-2 офіцыйных дакладаў на сходах беднякоў і серадпякоў тае ці іншае вёскі часта рабіліся запісы ў колгасы, прычым, зразумела, не заўсёды атрымоўваліся тыя вынікі, якія-б маглі быць пры добра організаванай працы. Рэгістраваліся колгасы, якія яшчэ фактычна не існавалі, дзе ня былі абагулены сродкі вытворчасьці, рабочая і продукцыйная жывёла, насеньне. Нярэдка мелі месца выпадкі і адміністрацыйнага падыходу да справы, пагрозы адабраньня маемасьці і перасяленьня на „балоты“, у Сібір.

Вялікай перашкодай у справе колектывізацыі зьяўлялася недастатковая популярызацыя сярод батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас самай сутнасьці колгаснага будаўніцтва і перавагі колектыўнае працы і буйнае колектыўнае гаспадаркі перад дробнай сялянскай гаспадаркай. Раней ужо было адзначана, што ў раёне ня было ніводнага больш-менш організаванага колгасу, які-б мог зьявіцца прыкладам для беднякоў і серадпякоў. Гаспадарка і організацыя працы ў адзіным у раёне саўгасе „Чырвоны Молат“ да самага апошняга часу мелі шэраг буйных недахопаў. Бядняк і серадняк без конкрэтных прыкладаў мог толькі выабражаць сабе, наколькі буйная колектыўная гаспадарка выгадней за дробную індывідуальную. На паказе сялянам перавагі аграмаджанай, колектыўнай, тварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі ў раёне ў свой час ня было зьвернута належнай увагі. І гэта

[1]) Гл. „Н. К.“ № 5-6.

быў адзін з вялікіх недахопаў у падрыхтоўцы бядняцка-серадняцкай масы да масавай і суцэльнай колектывізацыі. Адчувалася гэта ў выказваньнях беднякоў і серадíякоў (часта жанчын) на сходах, калі ставіліся пытаньні аб організацыі колгасаў.

На справе колектывізацыі ня была своечасова завострана ўвага партыйных і комсамольскіх ячэек у вёсцы. У раённай газэце „За колектывізацыю" № 2 (ад 20 лютага 1929 г.) сакратар Райкому т. Вайновіч адзначае, што „работа сярод батрацтва і беднаты пастаўлена дрэнна і што партячэйкі дырэктывы аб організацыі груп беднаты пры сельсаветах, СКУ і праўленьнях колгасаў ня выконваюць. Зусім невыстарчальны быў удзел у колгасным будаўніцтве комсамольскай раённай організацыі. Комсамольская організацыя... не зьяўлялася ініцыятарам у справе організацыі колгасаў. Мы ня маем ніводнага выпадку, калі-б па ініцыятыве ячэйкі ў тэй ці іншай мясцовасьці нашага раёну організаваўся колгас... Ня была дастаткова сконцэнтравана ўвага комсамольскай організацыі вакол генэральнай лініі партыі па пытаньню зьнішчэньня кулацтва, як клясы". („За Колектывізацыю" № 3 ад 23/II-1930 г., арт. „Патрэбен пералом у працы"). Аб тым-жа невыстарчальным удзеле і недастатковай увазе колектывізацыі з боку партыйных і комсамольскіх ячэек сьведчаць і заявы рабочых брыгад, якія працавалі ў раёне; гэта адчувалася і ў часе правядзеньня непасрэднай працы па абагульненьню рабочай і продукцыйнай жывёлы і насеньня. У колектывізацыі актыўны ўдзел прымалі паасобныя партыйцы і комсамольцы, але не адчувалася сталай організаванай і плянавай працы ячэек. Гэта тлумачыцца ў значнай меры слабасьцю партыйных і комсамольскіх ячэек і недастатковай падрыхтаванасьцю іх членаў да практычнай працы па ажыцьцяўленьні лініі партыі ў справе рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. У раёне ёсьць яшчэ [1]) цэлыя сельсаветы, дзе няма партыйных ячеек (Траянаўскі, Замошаскі, Узнацкі сельсаветы), а некаторыя існуючыя сельсавецкія ячэйкі (партыйныя і комсамольскія) складаюцца з 5-8 членаў. З такімі сіламі, бязумоўна, разгарнуць належную працу досыць цяжка, асабліва, калі прыняць пад увагу, што многія члены нядаўна ўступілі ў організацыі і ня маюць належнай партыйнай падрыхтоўкі.

Савецкія ўстановы і грамадзкія організацыі ў раёне не змаглі перабудаваць і зьмяніць мэтоды сваёй працы, якія-б найлепш дапамагалі справе колектывізацыі і правядзеньню пасеўкампаніі. Узяць хаця-б такія факты. Нідзе—ні ў памяшканьні РВК, ні ў сельсаветах, у якіх нам прыходзілася быць, ні ў школах, ні ў нардоме ня было ніводнага лёзунгу, які-б заклікаў да організацыі буйных колектыўных гаспадарак, да зьнішчэньня кулацтва, як клясы, да падрыхтоўкі да пасеўкампаніі і г. д. Першыя падобныя лёзунгі зьявіліся ў нардоме ў дзень прыезду з Менску брыгады друкароў. У школах праводзілася звычайная вучоба па старых програмах і падручніках, дзе амаль нічога не гаварылася аб колектывізацыі, аб клясавай барацьбе ў вёсцы і амаль не закраналіся, а тым больш ня прымаўся практычны ўдзел у вырашэньні пытаньняў бурнага хвалюючага жыцьця сёнешняга і заўтрашняга дня. А якое-б гэта мела вялікае выхаваўча-політычнае значэньне для падрастаючай моладзі! І які вялікі ўплыў школа магла-б зрабіць праз вучняў на іх бацькоў! Настаўнікі, політасьветныя пра-

---

[1]) Маецца на ўвазе месяць люты г. г.

цаўнікі прымалі і досыць актыўны ўдзел у колектывізацыі і правядзеньні пасеўкампаніі, але гэты ўдзел меў пэрсанальны характар; асьветнікі працавалі як культурныя працаўнікі пад кіраўніцтвам партыйных організацый, але яны не скарысталі школы, клюбы і хаты-чытальні як установы і трыбуны для популярызацыі колгаснага будаўніцтва. Значная доля віны ў гэтым павінна легчы на акруговую і раённую інспэктуру нарасьветы, якая не змагла організаваць справу і даць належных конкрэтных указаньняў. Значна большую ўвагу на справу колектывізацыі і пасеўкампаніі зьвяртаў мясцком працасьветы па сваёй саюзнай лініі.

Пашырэньне колгаснага руху ў раёне ў значнай меры зьвязана з працай рабочых брыгад фабрыкі „Чырвоная Бярэзіна“ (Барысаў) і саюзу друкароў (Менск). Надзвычайна вялікае значэньне ў справе колектывізацыі мела раённая газэта „За Колектывізацыю“—орган РК КП(б)Б, РВК і рабочых друкароў г. Менску. Першы-ж нумар друкаванай шматтыражнай газэты, папаўшы ў самыя глухія вёскі раёну, ускалыхнуў усю бядняцка-серадняцкую масу. З усіх сельсаветаў у газэту зразу-ж пасыпаліся лісты аб ходзе колгаснага будаўніцтва, аб посьпехах і недахопах у працы колгасаў і сельсаветаў, аб падрыхтоўцы да веснавой пасеўкампаніі, аб кулацкай агітацыі і г. д. і г. д. Газэта стала люстрам грамадзкага жыцьця раёну; яна вяла барацьбу з прарывамі на фронце колектывізацыі, пасеўкампаніі, лесазагатовак, выяўляла скрыўленьні партыйнай лініі на мясцох і давала напрамак далейшай працы. Трэба толькі адзначыць, што газэта ўсё-ж больш выяўляла недахопы і адмоўныя бакі і недастаткова давала практычных парад, як трэба будаваць колгасы, як там трэба організаваць працу і г. д. А ў гэтых практычных парадах вельмі былі зацікаўлены нізавыя працаўнікі сельсаветаў і колгасаў, дзе ня было ў той час ніякай колгаснай літаратуры.

Сельсаветы ў большасьці сваёй прымалі досыць слабы ўдзел у колектывізацыі сельскае гаспадаркі і не стаялі на чале колгаснага руху ў сельсаветах. Працавалі паасобныя члены сельсаветаў, але сельсаветы, як савецкія ўстановы, як органы пролетарскай дыктатуры ў вёсцы не змаглі належным чынам актывізаваць і організаваць беднату, аб чым ужо гаварылася вышэй, і наладзіць кіраўніцтва і будаўніцтва колгасаў. Былі выпадкі, калі сельсаветы ня ведалі, дзе і ў якім стане знаходзяцца колгасы, як там праходзяць процэсы абагульненьня, які соцыяльны склад колгасаў і як ідзе організацыя працы ў колгасах (Жартайскі, Траянаўскі с/с. і інш.). Такімі адносінамі з боку сельсаветаў тлумачыцца тое, што ў колгасы часта праходзілі кулакі і вядомыя варожыя да Савецкай улады элемэнты, якія шкодзілі і падрывалі працу колгасаў. Раскулачваньне кулакоў не заўсёды праводзілася цьвёрда і энэргічна. У некаторых сельсаветах раскулачваньне ішло міма сельсаветаў; сельсаветы толькі рэгістравалі факты раскулачваньня кулакоў, якое праводзілася беднатой пры ўдзеле і кіраўніцтве рабочых брыгад.

Аб адносінах некаторых сельсаветаў і паасобных іх членаў да справы колектывізацыі мы можам даведацца з лістоў брыгадыраў і колгасьнікаў-корэспондэнтаў у раённую газэту „За Колектывізацыю“. Так, напр., у № 1 памянёнай газэты аб Кашчынскім сельсавеце, дзе справа колектывізацыі была пастаўлена найлепш, у параўнаньні з іншымі сельсаветамі мы чытаем: „Да прыезду брыгады ў раён сельсавету, тут ня было ніводнага колгасу. Сельсавет гэтай справай не займаўся і не займаецца. Ня ўсе працаўнікі сельсавету ўступілі ў колгас“.

„Замошаскі с/савет праспаў пытаньне пасеўкампаніі і колектывізацыі... Абагульненьне насеньня і інвэнтару ня зроблена. Практычнай працы па колектывізацыі ніякай не вядзецца і не аддаецца належнай увагі вясеньняй пасяўной кампаніі“ („За колектывізацыю“ № 4).

Аб працы Траянаўскага с/с. чытаем: „Актыў сельсавету не зразумеў тых задач, якія стаяць перад вёскай у сувязі з колектывізацыяй. Частка членаў сельсавету ня ўступілі ў колгасы (Верамёў Парамон з в. Шамкі). Ёсьць і такі выпадак: член колгасу, член РВК Леус Хаім (вёска Шамкі) вядзе агітацыю супроць абагульненьня насеньня і коняй, яму падпяваюць—Левін Залман і Каждан Нота“. („За Колектывізацыю“).

Было ня мала выпадкаў, калі паасобныя члены сельсаветаў ня толькі самі ня ішлі ў колгас, але яшчэ агітавалі сярод другіх супроць колгасаў і абаранялі інтарэсы кулакоў. Селькор з в. Мхерына у № 1 газэты „За Колектывізацыю“ піша: „Калі загадаюць Марцінкевічу, як члену сельсавету, склікаць агульны сход, ён склікае выключна тых, хто варожа настроены да колгасаў, а другіх нікога ня склікае. Кулакі зьяўляюцца на сход і звычайна зрываюць пытаньне колектывізацыі. Апошнія дні ўвесь час Марцінкевіч пагражае, што ён падпаліць колгас. Б'ем трывогу! забараняйце колгас ад кулакоў і падкулачнікаў“.

Прыкладаў, калі члены сельсаветаў выступалі супроць колектывізацыі, можна прывесьці шмат, але на іх мы спыняцца ня будзем. Адзначым толькі, што неразуменьне сельсаветамі сваіх задач у справе колектывізацыі, непадрыхтаванасьць працаўнікоў да організацыйнае працы і адкрытыя выступленьні супроць колектывізацыі некаторых паасобных членаў сельсаветаў значна стрымлівалі і перашкаджалі пашырэньню колгаснага руху ў раёне і яго замацаваньню.

Вялікай перашкодай у колгасным будаўніцтве было і тое, што на месцы ня было клясава вытрыманых і падрыхтаваных кіраўнікоў колгасаў. Пытаньне кадраў організатараў буйных гаспадарак у час вострай клясавай барацьбы было адным з найгалоўнейшых пытаньняў. У гэты час колгасьнікамі чула ўспрыймалася ўсякае цьвёрдае ўпэўненае слова, а яшчэ большае ўражаньне рабіла выяўленьне організацыйных здольнасьцяй таго ці іншага члена колгасу. Бедната і сераднякі, якія ўступілі ў колгас, хацелі бачыць цьвёрдых і здольных організатараў і кіраўнікоў сваёй колектыўнай гаспадаркі і аб гэтым часта ставілі пытаньне на сходах. Аднак, ня гледзячы на слабасьць працы сельсаветаў і недахоп організатараў колектыўных гаспадарак, яны вытрымлівалі шалёныя напады ўсіх ворагаў колгаснага будаўніцтва дзякуючы таму, што бедната і сераднякі адчувалі ўсю жыцьцёвасьць колгаснага руху, бачылі ў колгасах выхад з цяжкага матар'яльнага становішча вёскі і адзіны сродак пабудовы новага жыцьця. Беднякі і сераднякі ішлі ў колгасы, хаця і з аглядкай, таму, што бачылі падтрыманьне з боку партыі, рабочай клясы і Савецкай улады.

## IV. Рост колгаснага руху.

Да верасьня-кастрычніка месяца мінулага году колгасаў—с.-г. арцеляй і комун—у раёне ня было. Існавала толькі з 1928 г. два таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі (в. в. Пасынкі і Гольдзбэрг), прычым аб аднэй з іх у газэце „За Колектывізацыю“ (№ 2 ад 20/II) падаюцца наступныя весткі: „У вёсцы Гольдзбэрг жыве былы поп, зараз член арцелі, Самсонаў Івасей, які меў 18 дзесяцін зямлі, 3 коняй, 6 кароў, наймовую сілу. У 1928 г., сабраўшы вакол сябе сваякоў, ар-

ганізаваў лжэтаварыства „Серп“ і да гэтага часу Самсонаў выдаіў з касы сельска-гаспадарчага т-ва 3.000 руб., якія ўклаў у сваю гаспадарку“.

Колгасны рух у раёне разгарнуўся толькі ў канцы 1929 г. і ўжо ў студзені і лютым месяцы 1929 г. стаў масавым рухам бядняцкіх і серадняцкіх мас, ня гледзячы на слабую папярэднюю падрыхтоўчую і практычна-выхаваўчую працу. У райвыканкоме нам не ўдалося атрымаць больш-менш дакладныя весткі аб росьце колгасаў па месяцах; гэтых вестак у РВК няма. На 11 лютага, па ня зусім дакладных вестках, у раёне ўжо было організавана 37 колгасаў, якія аб‘ядналі ў сабе 2115 гаспадарак альбо 32,1% усіх гаспадарак раёну. Вестак аб соцыяльным складзе колгасаў ня было ні ў РВК, ні ў сельсаветах. Аграмаджаная плошча зямлі складала каля 51,2%; жывёла была абагулена на 25%. На 21 лютага мы маем ужо наступны рост колгасаў (па сельсаветах):

Табліца 1.

| Назва сельсаветаў | Лік колгасаў | | Лік колектывізаваных гаспадарак | | Усіх гаспадарак | Плошча яр. кл. на 21/II (га) | Плошча ўсёй пахаці (га) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | на 11/II | на 21/II | на 11/II | на 21/II | | | |
| Бараньскі . . . | 2 | 3 | 16 | 24 | 371 | ня было зьвест. | 1585 |
| Замошаскі . . | 1 | — | 26 | 17 | 343 | " | 1684 |
| Жартайскі . . . | 1 | 1 | 40 | 15 | 457 | " | 2005 |
| Латыгаліцкі . . | 3 | 3 | 88 | 97 | 457 | 710 | 1885 |
| Траянаўскі. . . | 2 | 3 | 103 | 72 | 686 | 240 | 3334 |
| Красналуцкі . . | 6 | 4 | 190 | 205 | 766 | 1250 | 3028 |
| Кашчынскі. . . | 7 | 11 | 465 | 427 | 785 | 1536(?) | 3421 |
| Грыцкавіцкі . . | 3 | 3 | 236 | 212 | 556 | 726 | 2431 |
| Кацюхоўскі . . | 3 | 2 | 420 | 240 | 726 | 950 | 3214 |
| Узнацкі. . . . | 4 | 4 | 199 | 153 | 458 | 860 | 2411 |
| Халопеніцкі с/с . | 4 | 4 | 172 | 96 | 452 | 620 | 2201 |
| Халопеніцкі м/с . | 1 | 1 | 160 | 135 | 188 | 360 | ? |
| Разам . . | 37 | 39 | 2115 | 1693 | 6275 | — | — |

Увага. Колектывізаваная плошча па ўсіх сельсаветах на 21/II у РВК вылічвалася ў 60%.

Прыведзеная табліца, зложаная на падставе даных зямельнай часткі Халопеніцкага РВК, паказвае, што лік колгасаў у раёне за другую дэкаду лютага месяца павялічыўся на два, але ў некаторых сельсаветах (Красналуцкі, Хацюхоўскі) лік колгасаў паменшыўся. Калі-ж мы зьвернем увагу на лік колектывізаваных гаспадарак, дык у большасьці сельсаветаў мы бачым памяншэньне іх і ў некаторых сельсаветах досыць значнае, усяго па раёне на 422 гаспадаркі. У чым тут справа? А справа ў тым, што спачатку колгасы ў раёне організоўваліся некаторымі працаўнікамі, што называецца, на хаду: зьбіраўся сход, ставіўся даклад і рабіўся запіс. Ніякага афармленьня колгасаў не ра-

білася, а тым больш не праводзілася абагульненьня. Вось чаму некаторыя колгасы аказаліся толькі папяровымі колгасамі і ня мелі нават сталага ядра. Гэтыя „мёртвыя душы“ зразу-ж і выбылі з колгасаў, як толькі было прыступлена да організацыі колектыўнае гаспадаркі і працы. У другія колгасы папалі варожыя элемэнты, якія ў колгасы запісаліся з провокацыйнай мэтай; яны таксама хутка выбылі з колгасаў ды яшчэ пацягнулі за сабой і тых, якія хісталіся.

Такім чынам, мы і назіраем такі процэс: з аднаго боку нараджаюцца новыя колгасы, а з другога боку з раённай статыстыкі выкрэсьліваюцца неіснаваўшыя папяровыя колгасы і „мёртвыя душы“.

На 21/II паказаны ўжо той лік колгасаў, якія хоць пачалі абагульненьне насеньня і жывёлы. Далей процэс трохі зьмяняецца: сетка колгасаў ужо не паніжаецца, яна нават расьце, але павялічваецца выхад з колгасаў; рост колгасаў у значнай меры заціхае. Тым ня менш, у раёне на 21/III ужо лічылася абагуленай 70% зямельнай плошчы.

Гэтая лічба, аднак, зьяўляецца значна перавялічанай, бо ў гэтыя 70% увайшла ўся зямля тых вёсак, якія організаваліся ў колгасы, хаця-б у іх і не ўвайшлі ўсе гаспадаркі гэтых вёсак. Напрыклад, калі ў тэй ці іншай вёсцы організоўваўся колгас (хаця-б і з 20% усіх гаспадарак), дык ужо ўся зямля вёскі лічылася пад колгасам. Так рабілася ў Жартайскім, Халопеніцкім, Узнацкім і інш. сельсаветах. Паўстае пытаньне: а як-жа вырашалася пытаньне з індывідуальнымі гаспадаркамі, якія ў колгасы яшчэ не ўвайшлі? Лічылі, што ўсе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, калі яшчэ і не ўвайшлі, дык увойдуць у колгасы, бо куды-ж ім будзе дзявацца! Мясцовыя працаўнікі сур'ёзна гаварылі аб перасяленьні „на балоты“, у Сібір і г. д. усіх, хто ня пойдзе ў колгасы. Аб тым, як вылічваліся проценты аграмаджанай зямлі, досыць яскрава гаворыць і вышэй прыведзеная табліца (№ 1). Там, напр., мы бачым, што ў Грыцкавіцкім сельсавеце ў колектывы ўвайшло 38,1% усіх гаспадарак, у Хацюхоўскім 33%, у Узнацкім 33,5%, а плошча яравога кліну па тых-жа сельсаветах адпаведна складае 30, 30 і 35,5 проц. (прыблізна) усёй пахаці, г. зн. пад колгасы залічана амаль уся частка пахаці, што прыпадае пад ярыну на ўвесь сельсавет[1]). (Пры трохпалёвай сыстэме прыблізна 30-35% пахаці ідзе пад яравыя засевы ў залежнасьці ад „зьмены“). І зусім зразумела, што паказаная 70-ці процантная аграмаджанасьць зямельнае плошчы не характарызуе сапраўднага становішча справы колектывізацыі ў раёне. Было-б вельмі добра, калі-б сапраўднае аграмаджаньне (а не папяровае) пахаці дасягнула 70% да пачатку веснавой сяўбы.

Калі зьвярнуць увагу на процант колектывізаваных гаспадарак па сельсаветах (карт. № 8), што дае найбольш яскравы малюнак пашыранасьці колгаснага руху ў раёне, дык мы заўважым, што найбольшы процант колектывізаваных гаспадарак у паўн.-ўсходняй і паўдн.-ўсходняй частках раёну: Кашчынскім, Грыцкавіцкім, Кацюхоўскім і Узнацкім сельсаветах; сярэдняя паласа сельсаветаў (Халопеніцкі, Краснalуцкі, Латыгаліцкі і Траянаўскі) займаюць другое месца і на апошнім месцы стаяць сельсаветы заходняй часткі раёну (Замошаскі, Жартайскі, Бараньскі).

Наогул-жа можна сказаць, што колектывізацыя ў даны момант свайго разьвіцьця (люты-сакавік) найбольш пашырана ў усходняй частцы

[1]) Прыведзеныя лічбы трэба лічыць толькі прыблізнымі, бо яны і ў РВК запісваліся са слоў куставых агрономаў і працаўнікоў сельсаветаў.

і потым зьніжаецца ў кірунку на захад. Такая карціна markdown-rozнай колектывізацыі раёну залежыць ад цэлага шэрагу прычын соцыяльна-эканомічнага і культурна-бытавога парадку, а таксама і ад характару працы мясцовых працаўнікоў па правядзеньню колектывізацыі. Пашыранасьць колектывізаваных гаспадарак у значнай меры знаходзіцца ў залежнасьці ад гушчыні насельніцтва і эканомічнага становішча сялян. У найбольш густа заселеных частках раёну наогул наглядаецца і большае імкненьне бядняцка-серадняцкіх мас да колектывізацыі (Кашчынскі, Красналуцкі, Кацюхоўскі сельсаветы). Заўважаецца таксама, што найбольш колектывізаванымі зьяўляюцца сельсаветы, у якіх гаспадарка вядзецца найбольш інтэнсыўна. Некаторым выключэньнем зьяўляюцца толькі Траянаўскі і часткова Халопеніцкі сельсаветы.

Бязумоўна, што пашырэньне колгаснага руху ў значнай меры залежала ад кіраўніцтва і мэтодаў працы ў кожным сельсавеце. Там, дзе ня было належнае працы і кіраўніцтва, колгасны рух быў вельмі слабы. Гэта можна сказаць у поўнай меры адносна Замошаскага і Жартайскага сельсаветаў і да некаторай ступені адносна Бараньскага і Траянаўскага сельсаветаў. Праца рабочых брыгад да гэтага часу праводзілася галоўным чынам у Кашчынскім, Красналуцкім, Грыцкаўскім і Хацюхоўскім сельсаветах. У Халопеніцкім і Ўзнацкім сельсаветах найбольш працавалі работнікі раённых устаноў і організацый.

### V. Процэсы і мэтоды абагульненьня.

У разьвіцьці колгаснага руху ў раёне неабходна адзначыць наступныя моманты: спачатку, прыблізна да 10/II, у раёне ідзе популярызацыя і пропаганда колгаснага будаўніцтва і зьбіраньне, рэгістрацыя бядняцка-серадняцкага актыву вёскі, які ішоў і мог ісьці ў колгасы, прычым сталага афармленьня колгасаў, а тым больш організацыі гаспадаркі яшчэ амаль не праводзілася; далей ідзе момант уцягненьня беднаты і серадпякоў у колгасы, прычым стаўка бярэцца на колектывізацыю цэлых вёсак і адначасова пачынае праводзіцца абагульненьне ня толькі сродкаў вытворчасьці і насеннага матар'ялу, але і кароў, сьвіней, авечак, пачалося раскулачваньне кулакоў; у далейшым разьвіцьці колгаснага будаўніцтва наглядаецца адсеў і адліў з колгасаў і асабліва завастраецца клясавая барацьба; артыкул т. Сталіна і ўвядзеньне ў жыцьцё новага статуту с.-г. арцелі накіроўваюць колгаснае будаўніцтва ў раёне на правільны шлях і ставяць колгасы на цьвёрды і рэальны грунт.

Прыблізна да 10/II увага РВК, раённых організацый і працаўнікоў, якія працавалі па колектывізацыі, была зьвернута пераважна на колькасны рост колгасаў, на процантнае ахапленьне плошчы і двароў, бо раённым установам і працоўнікам хацелася, калі не перагнаць, дык ва ўсякім разе не адстаць ад іншых раёнаў, зрабіўшых ужо пэўныя посьпехі ў справе колектывізацыі. А тое, што раён вельмі позна падышоў да колектывізацыі, што ідэя колектывізацыі тут яшчэ належным чынам ня была популярызавана і ўсьвядомлена бядняцкай і серадняцкай масай, што бедната ня была організавана і насельніцтва раёну зьяўлялася найбольш адсталым як эканомічна, так і культурна (у параўнаньні з іншымі раёнамі)—гэта ня было належным чынам улічана і прынята пад увагу. А газэты прыносілі ўсё новыя і новыя весткі аб посьпехах масавай колектывізацыі ў цэлых раёнах і акругах БССР. Мясцовыя працаўнікі, вылучаныя для працы па колектывізацыі, і по-

тым прыбылая рабочая брыгада з Барысава вельмі шчыра працавала ў справе пашырэньня колгаснага руху, і бядняцка-серадняцкія масы вёскі ў пераважнай большасьці запісваліся ў колгасы, але зразу ня было зьвернута належнае ўвагі на організацыю колектыўных гаспадарак, на абагульненьне сродкаў вытворчасьці.

Да 10/II у РВК не вялося нават падліку, дзе існуюць колгасы, як там ідзе справа абагульненьня і організацыі колектыўных гаспадарак. Першыя, праўда, ня зусім дакладныя, весткі аб становішчы колгасаў у раёне былі сабраны каля 15 лютага па становішчы колектывізацыі на 11/II. З гэтых і пазьнейшых вестак (гл. таб. 2) мы можам бачыць, як у раёне ішоў процэс колектывізацыі і абагульненьня.

Табліца 2.

| Час | Лік організ. колгас. | У якой колькасьці колгасаў было абагулена | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Коні | Каровы | Сьвіньні | Авечкі | Інвэнт. | Насеньне |
| 11/II | 37 | 15 | 10 | — | — | — | 26 |
| 21/II | 39 | 37 | 34 | 30 | 29 | 28 | 37 |

Ужо з прыведзенай табліцы відаць, што да 11/II абагульненьне значна адставала ад росту колгасаў, пры гэтым характэрна адзначыць, што спачатку абагульняецца перш за ўсё насенны матар'ял і рабочая жывёла, і толькі ў 27% колгасаў прыступлена да абагульненьня кароў. Гэты процант яшчэ паменшыцца, калі прыняць пад увагу, што ў некаторых колгасах у ліку абагуленых кароў былі толькі каровы з раскулачаных кулацкіх гаспадарак. Але ўжо ў другую дэкаду лютага месяца мы бачым у пераважнай большасьці колгасаў абагульненьне і дробнай жывёлы — сьвіней, авечак. Колькасны рост колгасаў затрымаўся; за дэкаду лік колгасаў павялічыўся толькі на два, прычым у многіх колгасах раёну ўжо пачаўся выхад з колгасаў у досыць значных разьмерах. (Гэта-ж самае прыблізна адбывалася і ў суседніх раёнах).

У чым тут справа? У чым прычына таго факту, што колгасы спачатку растуць колькасна (па ліку і колькасьці членаў), а потым затрымліваюцца ў сваім разьвіцьці і нават пачынаюць развальвацца?

Агульныя прычыны гэтых зьяў вельмі добра высьветлены ў артыкуле т. Сталіна „Галавакружэньне ад посьпехаў“ і ў яго „Адказах таварышам колгасьнікам“; мы-ж спынімся толькі на высьвятленьні іх у пэўных лёкальных умовах і на некаторай іх дэталізацыі.

Чаму спачатку беднякі і серадняки досыць ахвотна сталі запісвацца ў колгасы? Таму што яны колгасы зразумелі іменна як с.-г. арцелі, як аб'яднаньні для організацыі грамадзянай гаспадаркі, організаванай на грунце дабрахвотнасьці. Беднякі і серадняки спачатку досыць ахвотна ішлі на грамадзяньне зямлі, насеньня і рабочай жывёлы. Пытаньне аб абагульненьні ўсіх кароў, дробнай жывёлы і нават птушак ня ставілася. Такая пастаноўка пытаньня зьявілася пазьней і зразу-ж сустрэла цэлы шэраг перашкод пры сваім ажыцьцяўленьні. Першыя посьпехі ў раёне ў справе колектывізацыі акрылілі надзеі мясцовых працаўнікоў на хуткую стопроцантную колектывізацыю ўсяго раёну. Былі часта выпадкі, калі колгасы не організоўваліся таму толькі, што ў колгас ня ішла яшчэ большасьць вёсак (Жартайскі, Халопеніцкі,

Траянаўскі і інш. сельсаветы). Далей зразу-ж досыць раптоўна ў раёне перайшлі да абагульненьня ўсёй жывёлы, што выклікала шэраг непаразуменьняў, асабліва сярод жанчын. На сходах сталі выказвацца думкі, што для кароў няма яшчэ агульных хлявоў, што пасьля абагульненьня кароў для дзяцей нельга будзе своечасова атрымаць малака і г. д. Такія выказваньні зусім зразумелы, калі прыняць пад увагу адсутнасьць дадатных прыкладаў і вопыту. Узмацнілася кулацкая агітацыя, пачалося зьнішчэньне і разбазарваньне жывёлы, тэмп пашырэньня колгаснага руху значна затрымаўся, пачаліся колектыўныя выхады з колгасаў, хаця разам з гэтым у колгасы ўваходзілі і новыя члены. Асабліва вялікія выхады да 60—66% мы бачым у сельсаветах: Халопеніцкім (в. в. Дуброўка, Галькі), Узнацкім (Узнацк), Жартайскім (Крашавіца); найменшы процант выхаду наглядаўся ў Кашчынскім і Красналуцкім сельсаветах.

У мэтах затрыманьня выхаду з колгасаў беднякоў і серадняков пашырана была растлумачальная кампанія, узмоцнена барацьба з кулакамі, але разам з тым пускаліся ў ход пагрозы бедняком і серадняком, якія не хацелі ісьці ў колгасы, мотывуючы сваё нежаданьне стэрыотыпнай заявай: „я яшчэ не сазнаў“, альбо—„я нічога, але жонка супроць, не хачу ісьці ў разрэз“. Каб спыніць выхад з колгасаў быў ужыты і такі спосаб як забарона праўленьням колгасаў прымаць заявы аб выхадзе, але, бязумоўна, такі спосаб не дасягаў мэты: той ці іншы бядняк альбо серадняк на паперы лічыўся ў колгасе, а фактычна ён ужо быў па-за колгасам. Спробы затрыманьня ў колгасе ўжо ўнесенай маемасьці адмоўна агітавалі на неўвайшоўшых яшчэ ў колгасы, на тых, хто хістаўся. А што асабліва абурала беднякоў і серадняков, дык гэта пагрозы высяленьня „на балоты“, у Сібір і інш. усіх, хто ня пойдзе ў колгасы. На сходах сяляне ў такіх выпадках вельмі часта гіранічна ставілі пытаньне: „скажыце, калі ласка, уваход у колгас справа дабрахвотная, ці не?“ А ў выступленьнях зазначалі: „Калі ў колгасы ўсе мусяць ісьці, дык аб гэтым трэба выдаць загад па ўсім Саюзе“.

Вялікае зьдзіўленьне, непакойства і некаторае парушэньне ў ходзе гаспадарчага жыцьця вёскі было ўнесена пастаноўкай справы аграмаджаньня зямлі. Спачатку пад колгасы ўмоўна адводзілася тая зямельная плошча, якая прыходзілася на ўсе гаспадаркі, што ўваходзілі ў колектыў, з дадаткам зямель запаснага фонду, утоеных ад падатку і аднятых у кулакоў. Але ў другой дэкадзе лютага месяца, як ужо было зазначана вышэй, пад колгасы сталі адводзіць ужо ўсю зямлю, якая лічылася за цэлай вёскай, у якой організаваўся колгас, хаця-б у яго ўваходзіла і нязначная колькасьць гаспадарак. Гэта давала, бязумоўна, пэўны процантны эфэкт, але не дапамагала колгаснаму будаўніцтву. На запытаньні працаўнікоў на месцы, чаму гэта так робіцца, земляўпарадчыкі адказвалі, што яны маюць такі загад. У земчасьці РВК быў такі-ж адказ. Але кім быў выданы такі загад, ніхто так і не даведаўся. Ва ўсякім разе такі загад альбо закон, здаецца, нідзе ня быў надрукаваны.

— „Куды-ж вы нас дзенеце?“—пыталіся на сходах зьдзіўленыя беднякі і серадиякі не колгасьнікі, калі ім прачытвалі акт аб правядзеньні землеўпарадкаваньня ў колгасе.

— Вы ўсе да вясны ўвойдзеце ў колгас—адказвалі ім.

— А калі не?—пыталіся зноў.

— Тады прыдзецца вам пакінуць сваю вёску.

— Ці-ж дзяржава пойдзе на гэта? Мы-ж ня ворагі Савецкай улады. Мы толькі хочам падумаць, паглядзець як будуць жыць у колгасе, і калі там будзе добра, дык мы і самі пойдзем у колгас,—аргумэнтавалі жанчыны.

А ім адказ:

— Досыць вам ужо гаварылі аб колгасах. Вы ўсе добра ведаеце, што Савецкая ўлада організуе колгасы для вашай карысьці, а вы супроць. Кулакоў слухаеце... Кулаком падпяваеце.

А кулакі і саўпраўды пачыналі яшчэ больш агітаваць сярод беднаты і серадтякоў, гаварыць аб гвалце, аб тым, што ўсьлед за кулацкімі стануць ліквідаваць і серадняцкія гаспадаркі і г. д.

Прынцып дабрахвотнасьці ў калгасным будаўніцтве быў парушаны; ініцыятыва саміх бядняцка-серадняцкіх мас у многіх мясцох была падменена формальнымі і вельмі ўпрошчанымі адносінамі да справы перабудовы ўсяго жыцьця вёскі з боку мясцовых працаўнікоў. Ня былі ўлічаны традыцыі, экономічныя ўмовы, адсутнасьць падрыхтаваных для організацыі гаспадаркі колгасаў кадраў і інш.

У выніку дапушчаных памылак і скрыўленьня лініі партыі адносна дабрахвотнасьці ўступленьня ў колгасы беднякоў і серадня-коу, а таксама з прычыны дапушчаных памылак раскулачваньня серадняков частка серадняков і беднякоў (не бяз уплыву кулакоў) стала выступаць на сходах спачатку супроць абагульненьня кароў, сьвіней і авечак, а потым нават і супроць колектывізацыі наогул, паколькі ў паняцьце колгасу ўкладалася і разуменьне амаль поўнага абагульненьня ўсёй маемасьці. Актыўнасьць ад мужчын перайшла да жанчын. Жанчыны на сходах сталі выступаць досыць актыўна і ў большасьці хорам, робячы часамі розныя спробы зрыву сходаў. Кулакі, зразумела, гэтаму толькі радаваліся і яшчэ больш стараліся выпукліць паасобныя хібы і памылкі ў працы па колектывізацыі.

Прывядзем некаторыя докумэнты, якія паказваюць да чаго прыводзілі памылкі з боку організатараў колгасаў. Вось адзін з такіх докумэнтаў.

*Начальніку міліцыі.*

Ад грамадзяніна Т. Рабцэвіча, які пражывае ў вёсцы „Рудная“.

З а я в а.

Я, грамадзянін вёскі „Рудная“ Латыгаліцкага с/с працую ў сваёй вёсцы актыўна і на мяне грамадзяне нашай вёскі хочуць зрабіць пакушэньне—забойства[1]). Гэта ад таго, што прыехаў інспэктар РВК з Халопеніч тав. Кандраценка, у якога быў у руках сьпіс заможных сялян і якія былі абкладзены індывідуальна, для выкачкі хлеба колгасу. І вось сяляне думаюць, што гэты сьпіс я падаў. 18/II-30 г. быў сход, на якім увайшлі ў колгас *заможныя ўсе, як адзін і некаторая бедната. Кулакі ўвайшлі з мэтай, каб іх не раскулачылі*[2]), але 19/II яны падрыхтавалі сваіх жонак, каб яны на сходзе крычалі: „ня трэба нам колгасу“. І вось жанчыны беднякоў і заможных элемэнтаў пад агітацыю заможных наладзілі бойку на сходзе, дзе ўсе рынуліся на мяне, г. зн. Тамаша Рабцэвіча з мэтай забіць. Але я бачу, што тут

[1]) Усюды падкрэсьлена мной (В. С.).
[2]) Стыль захаваны, а правапіс выпраўлены (В. С).

справа ня ладна і скарэй да стала, дзе была брыгада, і толькі чуў ад сялян: „наступайце на Тамаша,—ён адзін нас усіх закапаў... Мы яму пакажам“. Натраўляў сялян тав. Іван Рабцэвіч, які зьяўляецца *членам с/с.*, Камандзей Васіль і інш. і цяпер я баюся выходзіць на вёску, каб мяне не забілі, бо ў мяне ёсьць жонка і дзеці. Пагэтаму я прашу нач. міліцыі, каб яна (міліцыя) прыняла якія-небудзь меры для спыненьня гэтай справы. Усе яны настроены супроць Сав. улады і ждуць палякаў, а я, як сьвядомы грамадзянін, іду за ўладу і на ўсе мерапрыемствы і за гэта яны мяне ненавідзяць. Я першым уступіў у колгас. А таму прашу Райміліцыю ў выпадку забойства мяне весьці дазнаньне і не заставіць маю жонку.

20/II-30 г. Т. Рабцэвіч.

Грам. Т. Рабцэвіч, які прывёз сваю заяву ў Халопенічы, дадаў, што колгас, які *організаваў* у адзін вечар інспэктар РВК з сьпісам у руках усіх заможнікаў (у лік якіх увайшлі і некаторыя серадdespite серадзякі, прызначаныя да індывідуальнага ападаткаваньня), распаўся назаўтра-ж. Такія факты былі ня толькі ў вёсцы Рудня: колгасы організоўваліся, у іх уваходзіла спачатку шмат гаспадарак[1]), а праз дзень-два яны распадаліся; у колгасах засталася нязначная, пераважна бядняцкая частка гаспадарак. Адказам на пытаньне аб прычынах няўстойлівасьці і распаду ў колгасах зьяўляецца ліст брыгадыраў аб падзеях у колгасе тэй-жа вёскі Рудная. Брыгадыры пішуць: „у вёсцы Рудная 18/II інстрыктарам РВК быў організованы колгас у ліку 27 гаспадароў; было абрана праўленьне і прыступлена да працы; перапісалі насеньне; але-ж тут праз ноч на 19/II-30 г. зрабіўся пераварот: у колгас, які *быў з'організаваны Кондраценкам,* былі прыняты *9 заможнікаў,* якіх сельсавет прыцягваў да індывідуальнага ападаткаваньня, і якія, дзякуючы гэтаму, *сумысьля ўлезьлі ў колгас з мэтай падрыву знутры*[2]); так і было зроблена.

Брыгадай і каморнікам назаўтра быў склікаены сход жанчын колгасьніц, а вечарам сход колгасьнікаў. Колькі ні гаварылі, нічога не дапамагло. Падкулачнікі Гэуд Ігнат, Грыцэвіч Сьцепаніда пачалі драку на сходзе і сталі нападаць (пакушацца) на актыўнага сябра праўленьня Рабцэвіча Тамаша з мэтай падрыву колгасу, а ў гэты час пасыпаліся заявы аб выхадзе з колгасу. Заяў было падана 18—усімі заможнікамі; засталося толькі 9 беднякоў. Трэба падкрэсьліць, што інструктарам РВК была зроблена памылка. Трэба было раней абкласьці заможнікаў і ўбраць з дарогі падкулачнікаў. Зараз неабходна прыняць меры, каб с/савет абклаў усіх заможнікаў у індывідуальным парадку, ўбраць з дарогі кулакоў і падкулачнікаў і астатніх 9 гаспадароў прылучыць да Багданаўскага колгасу (2 км ад в. Рудная). Патрэбна больш рашучае наступленьне на кулака ў асаблівасьці ў в. Рудная. Паводле слоў беднаты, у гэтай вёсцы мелася шмат бандытаў у часе 1921-1922 г. і зараз ёсьць пагрозы забіць актывіста Рабцэвіча. Т. і іншых, якія засталіся ў колгасе. РВК і міліцыя, прыміце меры крокі, каб даць магчымасьць беднаце організаваць колгас“.

Брыгадыры (3 подпісы).

Прыведзеная заява гр. Рабцэвіча і ліст брыгадыраў вельмі характэрна адлюстроўваюць памылкі ў організацыі колгасаў у раёне і ха-

[1]) Аб клясавым складзе іх у пэрыод організацыі нідзе ніякіх вестак няма.
[2]) Усюды падкрэсьлена мной (В. С.).

рактар барацьбы навокал колгасаў. Аб чым сьведчаць гэтыя дакумэнты? Колгас у в. Руднае арганізаваны без належнай папярэдняй падрыхтоўкі, у адзін вечар. Бедната ня была арганізавана. У колгас прымаліся заможнікі, якіх с/с. унёс у сьпіс для індывідуальнага ападаткаваньня, і на соцыяльны склад колгасьнікаў ня было зьвернута належнай увагі. Мясцовыя працаўнікі (у тым ліку і некаторыя брыгадыры) лічылі, што ўсе перашкоды і няўдачы ў колгасным будаўніцтве толькі ў кулаках і падкулачніках і недаацэньвалі ўсёй важнасьці працы сярод беднаты і сераднякоў. Замест узмацненьня і наладжаньня працы зразу-ж ставіцца пытаньне аб далучэньні ядра, якое засталося ў колгасе, да суседняга колгасу.

## VI. Клясавае змаганьне.

У сувязі з разьвіцьцём і посьпехамі колгаснага будаўніцтва ў раёне разгортвалася і клясавае змаганьне. Асаблівай вастраты і размаху яно дасягнула тады, калі было прыступлена да раскулачваньня кулакоў і ліквідацыі іх, як клясы. Кулакі разгарнулі шалёную агітацыю супроць колгасаў, пусьцілі ў ход подкупы, пагрозы і інш. Агітацыя вялася сярод найбольш адсталай бядняцка-серадняцкай масы і галоўным чынам сярод жанчын, прычым для мужчын кулакі выкарыстоўвалі пераважна довады і аргумэнты экономічнага і палітычнага парадку, для жанчын, апрача таго, выдумляліся і розныя плёткі бытавога характару. Для сваёй агітацыі кулакі скарыстоўвалі абманутых і падкупленых імі беднякоў і бяднячак. Клясавы вораг колектывізацыі імкнуўся разьбіць сілы свайго супраціўніка яго-ж уласнымі рукамі. Вось адна з корэспондэнцый у газэту „За Колектывізацыю“ (№ 5, 1930 г.), якая гаворыць аб сродках і способах кулацкай агітацыі супроць колгасаў:

„У вёсцы Багданава, Латыгаліцкага с/с. заможнікі Усачонкі Янка, Якуб і Міхась навучаюць бяднячку колгасьніцу Галадок Алесю весьці шкодную агітацыю супроць колектывізацыі, у прыватнасьці супроць колгасу гэтай вёскі Чырвоны Молат. Праз Галадок яны распаўсюджваюць чуткі, што колгасьнікаў будуць кляйміць, што колгасьнікі будут галадаць і г. д. Яны асабліва падбухторваюць жанчын, каб апошнія змагаліся з сваімі муж‘ямі і не дапускалі іх уступаць у колгас. Галадок Алеся паддалася кулацкай агітацыі, выпісалася з колгасу і зараз на кулацкіх лейцах ходзіць з хаты да хаты і распаўсюджвае розныя чуткі, падгаварвае, каб ніхто ня ўступаў у колгас. Словам, Алеся зрабілася сапраўднай кулацкай хадзячай газэтай“.

Кулакі распускалі чуткі, што ў колгасах будуць абагульняць жанчын і дзяцей, што жанчыны ў колгасах будуць скарыстоўвацца „у плянавым парадку“ па нумарох, што старых жанчын будуць пераганяць на мыла і інш. І калі ў Халопенічы прыбыла з Менску друкарская машына для друкаваньня газэты, дык некаторыя цёмныя кабеты і сапраўды падумалі, што прывезьлі машыну кляйміць колгасьнікаў. Але калі машына запрацавала праз два дні ды сапраўды закляйміла ў газэтных друкаваных радкох усіх, хто падрываў працу па колектывізацыі, хто пагражаў падпаламі і г. д., дык аб машыне загаварылі зусім іначай: у рэдакцыю газэты несьлі сьпісы і матар‘ялы на тых, каго трэба было кляйміць у друку і давалі ў такіх моцных фарбах, якія цяжка было і змыць.

Калі кулакі ўбачылі, што плёткі ня маюць асаблівага ўплыву на бядняцка-серадняцкія масы, дык тады сталі пускацца ў ход розныя

пагрозы: пагражалі забойствамі, падпаламі, прыходам палякаў, вайной 9 дзяржаў і г. д. Але найбольш яны імкнуліся дэскрыдытаваць самыя колгасы, паказаць, што ў колгасах будзе горш жыць, чым у індывідуальных гаспадарках. Так, напр., калі ў в. Капачэўка бednякі арганізавалі колгас, дык на сьценках кулакі сталі вывешваць такія антыколгасныя лёзунгі, як:

„У колгасе добра жыць,
малаточкам вошы біць,
ваду есьці,
вецер піць“.

Сваю зьвярыную нянавісьць да колгасаў кулакі сталі выяўляць як у пісьмовай, так і ў вуснай „творчасьці“.

Вось, як прыклад, тыя бандыцка-кулацкія прыпеўкі, якія пашыраліся па раёне ў часе раскулачваньня кулакоў і арганізацыі колгасаў:

Калякціў, калякціў,
Што табе нада?
— Пуля ў лоб,
Цела ў гроб
Вот твая награда.
Калякціў, калякціў,
Што табе трэба?
— Кусок гліны
і мякіны
Й аўсянага хлеба.

Спачатку кулакі прабавалі прабірацца на сходы, калі не ў сваёй, дык у чужой вёсцы, дзе іх ніхто ня ведаў і рознымі спосабамі зрываць сходы, правальваць пастановы аб колектывізацыі. Калі склад сходаў сталі правяраць і кулакоў са сходаў выганяць, тады яны сталі наладжваць патайныя сходы з прыняцьцем усіх мер перасьцярогі супроць выкрыцьця іх: сходы гэтыя адбываліся ў глыбокія ночы ў зусім цёмных хатах без агню пры зачыненых вакяніцамі вокнах: на сходах захоўвалася цішыня, забаранялася курыць; прыходзілі і разыходзіліся па аднаму. На сходах абгаварваліся пытаньні, як захаваць ад раскулачваньня свае гаспадаркі і якім чынам перашкодзіць росту колектывізацыі, як пасварыць беднату з серадлякамі і перацягнуць на свой бок частку беднякоў, якія-б выступалі супроць колгасаў. Апрача такіх сходаў, кулакамі праводзілася і індывідуальная апрацоўка найбольш адсталых і няўстойлівых беднякоў і серадлякоў вёскі. Для антыколгаснай пропаганды скарыстаны былі ўсе сродкі і магчымасьці. Паміж іншым адзін час вельмі пашыраны быў орыгінальны мэтод „гасьцінства“: кулакі і падкулачнікі сталі разьяжджаць па ўсім раёне да знаёмых „у госьці“. Езьдзіўшыя „ў госьці“ знаёміліся, што і як робіцца ў іншых месцах раёну, перадавалі аб становішчы ў сваёй вёсцы ці сельсавеце, дагаварваліся аб мэтодах барацьбы і перавозілі для пераховаў больш каштоўныя рэчы. Шырака карысталіся кулакі і подкупамі беднаты. Так, напр., у газэце „За Колектывізацыю“ № 2 мы чытаем:

„У вёсцы Гальках заможнікі: Дзеравяга Іван Андрэеў, Дзеравяга Іван Васілёў, Пласконны Якім, Зазюн Мікалай і інш. вядуць падпольную агітацыю супроць колектывізацыі.

У гэтай бруднай справе ім дапамагаюць і сябры сельсавету: Асташка Харытон, Дзеравяга Алесь і Зуёнак Аўдакія.

Супольна з імі вядуць шкодную справу і падкулачнікі.

Кулак Дзеравяга Іван у часе раскулачваньня папрасіў падкулачніцу Дзірка Ганну захаваць у сябе некалькі мяхоў кулацкага збожжа, за што Дзеравяга паабяцаў даць 1 пуд жыта. Асташка Кузьма, гэта другі той, хто запісаўся ў колгас, а потым за дадзены кулаком кавалак сала вышаў з колгасу.

Трэцім кулацкім падпявалам зьяўляецца Асташка Зьмітро, які таксама быў запісаўся ў колгас, але за пляшку кулацкай гарэлкі выпісаўся з колгасу і цяпер ён не дае прайсьці па вуліцы дзецям колгасьнікаў.

„Колгасьнік".

Адным з самых небясьпечных сродкаў барацьбы кулакоў супроць колгасаў быў спосаб падрыву колгасаў знутры. Кулакі самі імкнуліся прабрацца ў колгасы, каб захаваць перш за ўсё сваю маемасьць і потым, каб разваліць колгасы, паказаць, што ў колгасах горш, як у індывідуальных гаспадарках. Аб гэтым досыць яскрава сьведчыць цэлы шэраг документаў, якія адбіваюць тую вострую барацьбу, што адбывалася навакол колгаснага будўніцтва.

Вось, што піша праўленьне колгасу Новая Зара (Кашчынскага с/с.) аб тым, як ворагі колгаснага будаўніцтва вялі падрыўную работу ў колгасах.

З першых часоў, як арганізаваўся колгас, уступіў у гэты колагас з сваёй сям'ёй Паус[1]). У яго сям'і ёсьць і комсамолец сын яго, Кузьма. Да абагульненьня коняй і інвэнтару вышэйпаказаны гр. не прыступіў... На работу вышэйпаказаны гр. ня выходзіць, называючы колгас бандай. Ён шкоднік колгасу і яго шкодныя справы можна даказаць наступным: 1) у 1922 г. опэравала ў нашай мясцовасьці банда Капусьціна. Паус сумесна з Капусьціным удзельнічаў у бандзе і захоўваў атамана банды Капусьціна ў сябе дома, пакуль гр. Ж... ня было заяўлена ў міліцыю пра гэтую банду; яна і была выяўлена Лукамльскай райміліцыяй; 2) у 1926 г. ён не адкрыў заставы ў млыне, і вада прарвала плаціну. Думка нашага колгасу была, што Паус перакsnаўся ў сваіх праступках і таму яго прынялі ў колгас. Але зараз, як відаць, Паус зноў пачынае падрываць карэньне новаму будаўніцтву. Думка нашага колгасу, што Паус з мэтай запісаўся ў колгас, каб падрываць карэньне колгасу".

Праўленьне колгасу (3 подпісы).

Падобных прыкладаў можна было-б прывесьці дзесяткі, але на гэтым мы спыняцца ня будзем. Адзначым толькі, што невыкананьне пастановы лістадапаўскага пленуму Усе КП(б) і студзенскага пленуму КП(б)Б аб недапушчэньні кулакоў у колгасы не заўсёды выконваліся ў раёне і гэта заўсёды прыводзіла да разбурэньня колгасаў і да падрыву іх працы.

## VII. У колгасах наладжваецца новае жыцьцё.

У той час, як у адных колгасах ішла вострая барацьба за існаваньне, калі некаторыя колгасы былі напярэдадні развалу, у іншых колгасах, дзе быў падабраны добры склад колгасьнікаў і дзе была

[1]) Стыль па магчымасьці захоўваецца. В. С.

праведзена належная растлумачальная праца і ўзяты правільны напрамак у організацыі колектыўнае гаспадаркі, зразу-ж пачало наладжвацца і новае жыцьцё.

Ня маючы часта ніякіх указаньняў і інструкцый, беднякі і серадвякі самі пачыналі знаходзіць формы і мэтоды організацыі працы: сталі выпрацоўваць унутраны распарадак працы, вызначаць людзей для выкананьня пэўных пастаянных абавязкаў, організоўваць колектыўную працу. І там, дзе былі адданыя справе людзі, энэргічныя і сьмелыя організатары новага жыцьця, работа ішла дружна, колгасьнікі бадзёра пачыналі новае жыцьцё. Вось, напр., што пісалі з колгасу „Перамога“ (Грыцкаўскі с/с.): „Настрой колгасьнікаў надзвычайна падняты. Вядзецца дружная работа і адчуваецца ўдарнасьць. Сябры праўленьня колгасу Чорны Максім і Загаловец Фёдар зьяўляюцца прыкладнымі працаўнікамі: гэта сапраўдныя энтузыясты і лепшыя кіраўнікі колгасу“ („За Колектывізацыю“ № 5). У корэспондэнцыі паданы лічбы аб значных посьпехах у справе абагульненьня насеньня, с/г. інвэнтару і рабочай жывёлы. Мне самому прышлося быць сьведкай, як колгасьнікі з в. Якімаўка, прыбыўшы організаваным колектывам у в. Крашавіцу для возкі дроў, зьявіліся там пропагандыстамі за організацыю колектыўнай гаспадаркі. Цьвёрдыя, упэўненыя, перадуманыя і відаць моцна перажытыя словы якімаўскіх колгасьнікаў рабілі найбольш моцнае ўражаньне на тых, якія хісталіся і выклікалі не протэсты, а абурэньне сярод варожа настроеных да колгасу.

Організаваўшыся ў колектывы, беднякі і серадвякі адчулі патрэбнасьць і ў організацыі вольнага часу, у наладжаньні культурнай працы. У колгасах, якія не дапусьцілі зразу ў свой склад варожых людзей, досыць хутка была організавана колектыўная праца ў гаспадарцы і распачата культурнае будаўніцтва: колгасы адчыняюць хатычытальні, чырвоныя куткі, організуюць бібліотэчкі, выпісваюць газэты (Комінтэрн, колгас імя газэты Зьвязда, у в. Слабодка і інш.). Пры чырвоных кутках і хатах-чытальнях пачалі організоўвацца такія грамадзкія організацыі, як ячэйкі Асоавіяхіму, Мопр‘у, Прэч няпісьменнасьць, Чырвонага Крыжу. У колгасе Комінтэрн пачынаюць працаваць гурткі—фізкультуры і прыродазнаўчы; у колгасе імя газэты Зьвязда — гурткі па паляводзтву, жывёлагадоўлі і пчалярству. Зразумела, для працы такіх гурткоў патрэбны падрыхтаваныя кіраўнікі.

Так у барацьбе з цемрай, экономічнай і культурнай адсталасьцю, праводзячы пад кіраўніцтвам партыі і рабочае клясы выкарчоўваньне карэньняў капіталізму ў вёсцы і ліквідуючы кулацтва, як клясу, бяднацка-серадняцкія масы Халопеніцкага раёну выходзяць на шлях новага жыцьця. Ня гледзячы на шэраг памылак і недахопаў у падрыхтоўцы і правядзеньні колгаснага будаўніцтва ў першыя месяцы, колгасны рух у раёне ўсё-ж стаў ужо моцным бядняцка-серадняцкім рухам. Можна быць упэўненым, што затрымка і зьніжэньне проценту колектывізаваных гаспадарак ёсьць часовае зьявішча і пасьля выпраўленьня зробленых памылак, пасьля ўвядзеньня ў жыцьцё новага статуту с.-г. арцелі і растлумачэньня правільнай політыкі партыі ў справе колектывізацыі, колгасны рух у раёне зноў узмацніцца і Халопеніцкі раён стане раёнам суцэльнай колектывізацыі.

Ф. Сушкевіч.

# Колгас Расьсьвет Пераможца.

*(Жлобінскі раён).*

Гэты колгас зорганізаваўся ў 1921 годзе на месцы былога панскага маёнтку Шапілава. 18 сем'яў, у большасьці чырвонаармейскіх, пачалі будаваць соцыялістычную гаспадарку. Кулакі варожа сустрэлі іх пачынаньне. Агнём хацелі сагнаць з былой панскай зямлі беднату. У 1922 годзе гарыць абора колгасу. Аднэй ноччу 1924 году колгас гарыць у другі раз. Да раніцы ад жылых будынкаў засталіся толькі голыя печы і абгарэлае бярвеньне. На пажарышчы валяліся абгарэлыя трупы 22 коняй, 8 дойных кароў. Усё згарэла. Колгасьнікі ледзь выскачылі з агню, які раптоўна ахапіў усе будынкі.

Але ня траціць надзеі колгасьнікі. Дзень за днём залечваюць раны, нанесеныя клясавым ворагам. У 1926 годзе да Расьсьвета Пераможцы далучаецца дробны калгас Раніца Комуны, у 1928 годзе— Хлебароб. А ўжо ў 1929 годзе бедMякі і серадзнякі вёскі Майскае парашылі назаўсёды заараць свае межы і далучыцца да колгасу Расьсьвет Пераможца. І вось колгас, які вырас у агні клясавага змаганьня, ня спыняе свайго росту за лік бедняты і серадзнякоў[1]).

Рэчка Ржаўка падзяляе колгас на дзьве часткі. На левым баку гэтай рэчкі, па ўзгорку пад лесам у два роўныя рады стаяць новыя колектыўныя хаты, на краёх сымэтрычна — два заводы: крухмальны і сыраварня. У мінулым годзе крухмальня дала даходу каля 25000 р., а сыраварня—15000 рублёў. Мэтраў на 100 у бок ад крухмальні красуецца вялікі фруктовы сад плошчай каля 22 гэктараў. Прыемнае ўражаньне атрымоўваецца ад добра дагледжанага саду. Ураджай з саду разьмяркоўваецца паміж колгасьнікамі і частка ідзе на продаж. У мінулым годзе сад даў прыбытку каля 17 тысяч рублёў, а кожны працоўны колгасу атрымаў па 10 пудоў яблык. Каля саду ёсьць гадавальнік плошчай каля 4 гэктараў, абгароджаны дашчатым частаколам і зьверху зацягнуты калючым дротам. За садам і гадавальнікам даглядае садоўнік, які разам з гэтым вядзе догляд і за пушчай, у якую можна папасьці з саду па шырокіх ліпавых і таполевых прысадах. Тут і пчалярства разьведзена. 35 рамачных і некалькі калодных вульляў складае пачатак пчалярскай гаспадаркі колгасу.

У колгасе ёсьць 706 чалавек (162 сям'і). З іх працоўных мужчын— 182, жанчын 180, дзяцей школьнага ўзросту больш 280 чалавек, старых непрацоўных каля—40 чалавек і іншых 24 чалавекі. Пай на працоўную адзінку—100 рублёў, уступны ўзнос—10 руб. Паі прымаліся ў выглядзе сродкаў вытворчасьці паасобнай гаспадаркі. Паявога капіталу на 1-ае студзеня 1930 г. складае 25784 рублі. Непадзельны капітал на гэты-ж тэрмін—17536 рублёў, ён складаецца з дзяржаўнай маемасьці, накапленьня колгасу ў суме 9675 рублёў, уступных ўзносаў—2640 рублёў, спэцыяльнага капіталу ў 2000 рублёў, які ідзе на пабудову дамоў, набыцьцё машын і інш., затым з амортызацыйнага капіталу ў 3500 рублёў, укладаў 29968 рублёў, пазыкі і даўгоў 58110 рублёў. Балянс такім чынам за год складае 264144 рублі.

---

[1]) Узята з „Беларускай вёскі“ за 1 мая 1930 г.

З кожным годам расьце заробак колгасьнікаў: у месяц за 1927 г. адна сям'я атрымлівала ў сярэднім 50 рублёў грашыма апрача прадуктаў. У 1928 годзе заробак павялічваецца да 60 рублёў, у 1929 годзе ён дасягнуў 70 рублёў аднымі грашыма. У 1930 годзе заробак перасягне 80 рублёў. Продукты разьмяркоўваюцца паводле ўзросту: рабочы ад 18 г. да 60 гадоў атрымлівае ўсе 100%. Звыш 60 гадоў—50%. Дзіця ад 1 году да 12 гадоў атрымлівае 25% нормы, ад 12 да 14—35%, ад 14—16 гадоў—50% і ад 16 да 18 год 75% нормы. Служачыя атрымліваюць роўна з рабочымі. З асноўных продуктаў кожны рабочы атрымаў у 1929 годзе па 20 пудоў хлеба, 100 пудоў бульбы, 5 пудоў грэчкі і 15 пудоў аўсу на год.

„Некалі пры пану, я сеяў на гэтай зямлі па 15 кап. у дзень. Але сеяў ня трактарам, не радавою сеялкай, як цяпер, а з лубка. Памятаю, душыў мяне гэты лубок. Набяру пуды два ды цягну па полі. А прыдзе пан, ды злуе што я мала яму сеяў. А цяпер шырокая лава жыта прэ ўгару шырокім чорна-зялёным пер'ем. Яго летась восеньню было высеяна ўроўную бяз межаў і вузкіх загонаў 100 гэктараў зямлі. Цяпер праежджыя паасобныя гаспадары дзівяцца з буйнай руні. Далёкія пытаюць у блізкіх: зямля ці гной падсабілі росту жыта. У былым паасобныя бедьнякі і серадьнякі, якія мелі на вузкіх палосках жабрацкія ўраджаі, кажуць, што гэта колгас дапамагае росту жыта, бо ў 1927 годзе зьбіралі з гэктара 11 цэнтнэраў зярна, у 28 годзе—12½, а ў 1928 годзе—трынаццаць з паловай цэнтнэраў. У гэтым годзе, як відаць, ураджай будзе большы. А бульба ў 1927 годзе дала 126 цэнтнэраў з гэктару, у 1928—133 цэнтнэры і ў 1929 годзе сабрана было 166 цэнтнэраў з 1 гэктара. Авёс таксама не адстае ў росьце: у 1928 годзе ён даў 12½ цэнтнэраў з гэктара, у 1929 годзе—13 цэнтнэраў"[1]).

Як-жа гэта колгас патрапіў так павялічыць ураджаі з сваіх палёў? На гэтае запытаньне дае адказ Фальянаў Паўлюк так: „Напярэдадні сяўбы мяне ня браў сон. Дзіва,- што першыя дні павінны паказаць ці здольны колгас вытрымаць экзамен бальшавіцкай сяўбы. Мне здавалася да самага апошняга часу, пакуль ня вышлі ў поле, што можа быць якая няспраўнасьць, хібы ў машынах. І толькі, калі сталёвыя коні сталі роўнымі скібамі адна за аднэй расьцілаць глебу па колгаснаму полю, тады я ўздыхнуў лягчэй".

У колгасе ёсьць 2 трактары Фордзон і Інтэрнацыянал. Першы каштаваў 2300 рублёў, другі—2700 р. Першы мае 20 конскіх сіл, другі—30 конскіх сіл. Ёсьць яшчэ 4 сеялкі, з іх адна для пасеву канюшыны. За 8 гадзін кожнай сеялкай засяваецца 4 гэктары поля. Трактарная сеялка за 8 гадзін засявае 6 гэктараў. На гэктар кожнай сеялкай высяваецца 9-10 пудоў насеньня. Фірма сеялак Красная Звезда. Радавыя сеялкі ўнесены ў маемасьць колгасу ў 1925 годзе, а для канюшыны ў 1929 годзе. Ёсьць 3 жнейкі, з іх адна снапавязалка, а дзьве іншыя самаскідкі. Снапавязалка каштавала 580 рублёў. Фірма снапавязалкі Харкаўскі Комунар. Кожная жнейка за 8 гадзін працы зжынае 4 гэктары. Снапавязалка ўнесена ў колгас у 1926 годзе. Жнейкі самаскідкі фірмы Дюрынг і каштавалі па 217 рублёў. Залічаны ў калгас у 1924 годзе. Ёсьць яшчэ вялікая, складаная машына малацілка-сортоўка фірмы Ланц, якая разам і малоціць і сартуе зярно. Каштавала яна 3500 рублёў. За 8 гадзін працы яна намалачвае 800 пудоў ачышчанага зярна. Занесена ў маемасьць колгасу ў 1929 г.

*) Узята з „Беларускай вёскі" 1/V-30 г.

Трыераў ёсьць два: адзін з іх для насеньня траў і каштаваў 318 руб., а зернавы каштаваў 270 руб. За 8 гадзін працы кожны трыер прачышчае 40 пудоў насеньня. Травяны трыер фірмы Гейда ўнесены ў маемасьць колгасу ў 1926 годзе, а зернавы, той-жа фірмы—у 1929 г. Далей ідуць 3 касілкі на 123 рублі кожная, фірмы „Красный Пахарь“, кожная за 8 гадзін працы скашвае 4 гэктары, 2 грабаркі па 105 рублёў з вытворчасьцю 4-5 гэктараў зграбленай травы за працоўны дзен, дыскавая барана фірмы Орыгінал, 1 бульбакапалка, якая каштуе 118 рублёў, 2 саламарэзкі на 95 рублёў кожная, 8 пружынных барон, 24 плугі, 34 вазы на жалезным хаду і нядаўна набылі грузавы аўтомобіль. Каштоўнасьць усіх машын, за выключэньнем аўтомобіля, каля 9000 рублёў. Пры колгасе ёсьць кузьня і сталярна-калёсная майстэрня.

Вось першая сіла, сіла індустрыяльная, якая дапамагае колгасу Расьсьвет Пераможца падвышаць ураджайнасьць сваіх палёў. Другой ня меней важнай сілай зьяўляецца ўгнойваньне глебы. Дзякуючы рацыянальна пастаўленай справе захаваньня гною на стайнях і хлявох, ёсьць магчымасьць даваць на кожны гэктар 80 і 100 вазоў гною, а там дзе не хапае гною, кладуць мінэральныя ўгнаеньні. Спачатку організацыі колгасу мінэральных угнаеньняў ня ўжывалі. З 1929 году супэрфасфаты, салетра, попел і вапна займаюць віднае месца ў справе паляпшэньня ўраджайнасьці. Глеба колгасу ня вельмі важная супяшчаная, падзолістая і суглінкавая, патрабуе добрага ўгнаеньня. Пахаці ёсьць каля 572 дзесяцін, сенажаці 70 дзес.: пад заліўным лугам—40 і сухадольным—30 дзесяцін, 100 га пад азімінай, 472 га яравога, з іх каля 200 га пад бульбай, аўсу каля 150 га, 10 га грэчкі, больш 20 га лёну, каля 20 га канюшыны, 10 га лубіну, буракоў, капусты і іншага. Шматпалёўка запанавала на колгасных палёх. Яшчэ адзін фактар мае ўплыў на падняцьце ўраджайнасьці ў колгасе Расьсьвет Пераможца — гэта бальшавіцкія мэтоды і тэмпы работы.

Расьсьвет Пераможца ўзяў на сябе рад безадкладных заданьняў па будаўніцтву соцыялістычнай гаспадаркі і выклікаў на соцыялістычнае спаборніцтва колгас Эрштэрмай Жлобінскага раёну. Трэба было выканаць абяцаньне. У дні „вялікадня“ ўсе, як адзін колгасьнікі высыпалі ў поле. „Як гэта я магу ў такі час і надвор'е ляжаць у хаце на баку“—казаў знаёмы нам поўнапраўны сябра колгасу Масеенка Піліп.—„Цяпер я сею сваё і ніхто мяне ня гоніць у шыю. Ня трэба нам дурных вялікодных сьвят. Наша сьвята — праца“. За першы і другі дзень вялікадня колгасьнікі ўзаралі 17 гэктараў, забаранавалі—29 і засеялі—24 гэктары. Працавалі і ноч пад „вялікдзень“. Як толькі бумкнулі званы ў 12 гадзін ночы ў царкве—загудзелі трактары ў колгасе. Колгасьнікі выехалі ў поле і, разлажыўшы агонь, распачалі звычайную працу. Вось чаму бальшавіцкую сяўбу колгас выканаў сваечасова.

Колгас мае 326 кароў і 97 коняй, 70 сьвіней і інш. Каровы яшчэ пакуль што мясцовай пароды, але з 160 маладняку большасьць ужо палепшанай пароды. Коні сялянскія слабыя, прышлося ў Слуцку купіць 24 штукі і заплаціць за кожнага каня па 300 рублёў.

Сьвінагадоўляй колгас пачаў займацца нядаўна, яшчэ году няма, але маленькая гаспадарка ўжо ёсьць. Завялі 3 вытворцаў іоркшыраў, 67 сьвіней мясцовай палепшанай пароды, 27 парасят і паставілі іх у належныя ўмовы. Дзякуючы добраму і сваечасоваму корму і догляду сьвіньні растуць хутка.

Пры колгасе ёсьць школа на 205 дзяцей. Школа мае 7 настаўнікаў. Загадчык школы — тав. Яраслаўцаў, ён-жа і адказны сакратар ячэйкі КПБ. Школа мае 5 клясаў, з будучага году адчыняецца 6-ая, а там 7-ая. У школе—130 піонэраў. Школа мае свой гарод больш за 2 гэктары. Засадзілі сіламі вучняў 20.000 штук памідораў, $^1/_2$ га агуркоў, $^1/_2$ га капусты, свая сілосная башня. Сабралі і вывезьлі на свой гарод больш як 180 вазоў гною і ўсё сваімі сіламі. Ачысьцілі ад гною і нячыстот усе двары,—атрымалі гной для гароду і прывялі ў санітарны парадак сваю вёску. Ліквідавалі толькі сіламі вучняў няпісьменнасьць 20 чалавек. Сабралі сыравіны больш за 100 пудоў. Правялі антырэлігійных вечароў, сіламі настаўнікаў і вучняў за навучальны год больш за 20, праводзілі працу па ўцягненьню бацькоў і насельніцтва ў колгас, шэфствавалі над Дзяніскаўскай і Антонаўскай школамі, выканалі плян спаборніцтва, заключаны школай, а таксама і агульна профэсійны, які заключыў мясцком Працасьветы і г. д. Настаўніцтва ўцягнута ў грамадзка-палітычную працу на ўсе 100%. Няма ніводнага дзіцяці ў вёсцы, якое-б ня вучылася ў школе. Уплыў школы на насельніцтва вялікі, але гэтай працы дапамагае колгас, гэта-ж ён даў 20.000 шт. памідорнай расады, ён даў коняй для возкі гною, ён бярэцца рэмантаваць будынак школы, ён дапамагае беднаце атрымаць абутак, вопратку, падручнікі і г. д.

Дзіцячыя ясьлі зьмяшчаюцца ў будынку клюбу. Памяшканьне ясьляў падзяляецца на 3 пакоі: ігральню, сталовую і спальню. Пакоі чыстыя, вялікія, сьветлыя. Ложкаў у спальні 30 штук. Дзяцей 70. Дзеці ў ясьлях ад 2 месяцаў да 5 год. Харчуюцца дзеці 3 разы. На кожны дзень страва мяняецца. Ясьлі адчыняюцца з 8 гадзіны раніцы і зачыняюцца а 7 гадзіне ўвечары. Колгасьніцы і колгасьнікі зацікаўлены працай ясьляў, прыходзяць часта наведаць дзяцей, дапамагчы ў працы. На год ясьлям адпушчана 2.000 рублёў. На лета пры ясьлях адчыняецца дзічяцая пляцоўка на 40 чалавек для дзяцей ад 5 да 8 год. У 1928 годзе ясьлі працавалі 3 месяцы і мелі 25 чалавек у 1929 г.— 12 месяцаў і 60 дзяцей.

Другая частка памяшканьня занята клюбам. Часта чытаюцца тут лекцыі, даклады. Заля клюбу можа ўмясьціць да 500 чалавек. Яна ўпрыгожана портрэтамі нашых правадыроў, малюнкамі, плякатамі, лёзунгамі і інш. Тут ставяцца спэктаклі драматычным гуртком, які налічвае больш 20 асоб. Гурток бягучай палітыкі мае 45 сяброў, лікпункт—каля 50 чалавек, пры ім працуе ячэйка Мопру—85 чал., Асоавіяхім—45 чалавек, Ваяўнічых бязбожнікаў—40 чал. Дэлегацкі пукт— 57 жанчын, брыгада газэты Беларуская Вёска—22 чал., О. Д. Н.— 30 чал. і інш. Тут-жа адбываюцца сходы партыйнай ячэйкі, якая налічвае 5 партыйцаў і 11 кандыдатаў і комсамольскай організацыі, акая мае 42 сяброў. Газэты для клюбу выпісваюцца наступныя: Беларуская Вёска—2 экз., Комсомольская Правда—1 экз., Рабочая газэта— 1 экз., Правда—1 экз., Пионерская Правда—1 экз., Піанэр Беларусі—1 экз., Чырвоная Зьмена—1 экз., Бедната—1 экз., На варце—2 экз., Савецкая Беларусь—1 экз., Красноармейская Правда— 1 экз., Крестьянская Правда—1 экз., Батрак—1 экз., Зьвязда— 2 экз., Сацыялістычные Земляробства—1 экз., Кооперативная Деревня — 1 экз., Экономическая Жизнь—1 экз., Общество Потребителей—1 экз., Сельско-хоз. рабочий—1 экз., Безбожник — 1 экземп. Комуніст — 1 экз. Выпісваецца яшчэ розных часопісаў 8 экз. Насьценная газэта выходзіць 2 разы ў месяц. Вольны час колгасьнікі право-

дзяць у клюбе за чыткай газэт, удзелу ў працы гурткоў ці арганізацый.

Удзел жанчын у грамадзкай працы недастатковы. У сельсавеце 3 жанчыны, у кіраўніцтва колгасу—2, у коопэрацыі—1.

Агульная сталоўка адчынілася 1 мая 1930 году. Яна абслугоўвае служачых, экскурсантаў і часткова тых колгасьнікаў, якія дома не сталуюцца.

Ёсьць агульная лазьня. Прачкарні агульнай няма, але аб ёй ужо думаюць. Ёсьць больніца, якая мае аптэку, прыёмную, перавязачную, і габінэт. Больніцу абслугоўвае 1 доктар, фэльдшар. Адчынілася яна 22/X-29 г. і да гэтага часу прапусьціла хворых 9455 чалавек. У дзень прыходзяць па 50—60 чалавек. Аднаго лякарства няма часу падрыхтаваць пры такім прыёме і таму пэрсоналу прыходзіцца працаваць і днём і вечарам і нават у выходныя дні.

Колгас Расьсьвет Пераможца сваім прыкладам будовы новага жыцьця, штурхае беднякоў і серадняков ваколіцы на організацыю колгасу. Расьсьвет Пераможца ня толькі сам расьце і разьвіваецца, але вызывае к жыцьцю іншыя колгасы. Пры актыўным удзеле усёй працоўнай масы сялян, пры дапамозе гарадзкіх шэфскіх організацый, Чырвонай арміі, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі расьце ў Жлобінскім раёне новы гігант сельскай гаспадаркі.

---

**Т. П. Кулакоў.**

# Калгас Прасьвет.

*Азарыцкі раён на Мазыршчыне.*

У пачатку ліпня бягучага году брыгада асьветнікаў у складзе 9 асоб выяжджала ў колгас Прасьвет на дапамогу ўборкі сенажаці. Брыгада прымала ўдзел у касьбе на працягу 2 дзён. За гэты час удалося азнаёміцца ў кароткіх рысах з жыцьцём і працаю ў колгасе. Вынікі азнаямленьня мне хочацца падаць у гэтым невялічкім артыкуле.

Колгас Прасьвет, заснаваны ў 1928 годзе на месцы былога маёнтку Вялікія Яўтушкавічы абшарніка Горвата. Тэрыторыя колгасу ўваходзіць у склад Людвінаўскага сельсавету Азарыцкага раёну. Ад м. Азарычы,—раённага цэнтру, колгас знаходзіцца на адлегласьці 23 км, ад бліжэйшай чыгуначнай станцыі Асташкавічы Зах. чыг.—6,5 км і ад бліжэйшай воднай прыстані Шацілкі на Бярозе—20 км. У 1,5 км ад колгасу на поўнач распалажана яўрэйскае паселішча Слабада Давыдаўка, у мінулым гандлёва-саматужна-рамесьніцкае асяродзьдзе. Там зараз ёсьць аддзяленьне Карпавіцкага спажывецкага т-ва, аддзяленьне Азарыцкага раённага паляводсаюзу і райкрэдытнага т-ва, а таксама невялічкі завод па перапрацоўцы малочных продуктаў.

Мясцовасьць колгасу прадстаўляе нізіну Палескага характару ў паўднёвай частцы, дзе працякае рэчка Іпа, з раскінутымі абапал яе берагоў мурожнымі сенажацямі. Паўночная частка мае рэзкае павышэньне ад рачное даліны з значнымі ўзгоркамі, якія лічацца самым вышэйшым месцам у раёне. У гэтай частцы на палёх сустракаецца шмат вялікага і малога каменьня. Гліна тут у некаторых мясцох выходзіць на паверхню і залягае досыць глыбока.

Лясы пераважна хваёвыя з прымешкаю бярозы, асіны і дубу сустракаюцца ў заходняй і ўсходняй частцы тэрыторыі.

Глеба пераважна супяшчаная на суглінкавым падсьціле ў паўночнай і ўсходняй частцы і падзолістая ў паўднёвай частцы, што бліжэй да рачное даліны р. Іпы. Пяскоў на тэрыторыі колгасу вельмі мала.

Колгас Прасьвет арганізаваны ў складзе 9 гаспадарак у 1928 годзе і зьяўляецца адным з першых па арганізацыі ў раёне. У суседзтве з імі ў той самы час былі арганізаваны калгас Колектывісты ў был. маёнтку Крупіца ў складзе 6 гаспадарак, колгас Новы Быт на надзельных землях в. Людвінаўкі і рэарганізаваны з арцелі Судзьба, яўрэйскі колгас Мясьнікова, які сваю гісторыю заснаваньня лічыць з 1922 году. Усе пералічаныя колгасы ў пачатку бягучага году злучаны і аб'яднаны пад аднэй назвай колгасу Прасьвет. Аб'яднаньне дробных калгасаў стварыла досыць буйны і моцны па арганізацыйнай структуры і экономіцы колгас Прасьвет, які яднае зараз 69 гаспадарак з 327 чал. насельніцтва. Па нацыянальнасьці насельніцтва падзяляецца: беларусаў 285 і яўрэяў 42. Працаздольных мужчын 85, жанчын 81, падросткаў 34, дзяцей 109 і старых непрацаздольных 18.

Соцыяльны склад сяброў колгасу: батракоў 6, беднякоў 96, серадняков 113 і служачых 9. Партыйцаў 8 і комсамольцаў 8 сярод колгасьнікаў.

Зямельная плошча колгасу раўняецца 959 га, якая па ўгодзьдзях разьмяркоўваецца так: ральлі 459, сенажаці 272, саду 15, гароду 10, выгану 90, лесу 75 і няўдобы 38. Частку выгану і падлеснай плошчы колгас мяркуе зьвярнуць у сенажаць, шляхам правядзеньня мэліорацыйных прац.

Пад засевамі колгасам занята плошча ў 388 га. Пад асобныя культуры занята:

| | |
|---|---|
| Жыта 140 | Проса 3 |
| Пшаніцы 3 | Лёну 7 |
| Ячменю 11 | Каноплі 1 |
| Аўсу 67 | Канюшыны 15 і падсеўнае пад авёс 25 |
| Бульбы 56 | Лубіну 25, з якіх 13 на ўгнаеньне |
| Грэчкі 50 | Гародніны 10 |

Віды на ўраджай здавальняючыя за выключэньнем ячменю і гародніны. Да ўборкі ўраджаю жыта ўжо прыступілі. Напрамак гаспадаркі колгасу земляробчы з жывёлагадоўчым ухілам.

Забясьпечаньне колгасу жывёлаю наступнае:

| | |
|---|---|
| Коняй рабочых 52 | Нецелей 14 |
| Маладняку 12 | Цялят 60 |
| Валоў 3 пары | Сьвіней 42 |
| Бугаёў 2 | Подсьвінкаў 10 |
| Бычкоў 11 | Парасят 24 |
| Кароў 161 | Авечкі не абагулены |

Коні пераважна мясцовай слабасільнай пароды, з палепшанай пароды ёсьць 1 жарабок—паўардэн і 5 матак-кабыл. З кароў ёсьць70 штук мясцовай палепшанай пароды. Ёсьць бугаёў-вытворцаў 3, з якіх 1 чысты мэтыс. Колгас мае 2 хракоў, 4 маткі ангельскай пароды. Уход за ўсімі відамі жывёлы значна палепшаны ў параўнаньні з індывіду-

альнымі гаспадаркамі. Корм зімою выдаецца па норме, хлявы для жывёлы ўцяплёны. Летам амаль уся жывёла на выпасе.

З сельска-гаспадарчых машын і інвэнтару колгас мае: сеялак радавых 3, жняярак 4, малатарань конных 3, льномялка 1, саламарэзак 2, драпачоў 3, барон зіг-заг 9, плугоў 40, барон 40, колаў на жалезным ходу 60, упражы 58 камплектаў і акучнікаў 5.

З прадпрыемстваў і майстэрань ёсьць:

1 паравы млын, абслугоўваецца 3 рабочымі, смалярня для вырабу: смалы, скіпідару і ворваню, 1 крупарушка, 1 алейня конная, кузьня-сьлясарня з 3 горнамі пры 6 сталых рабочых, сталярня і стальмашня пры 4 рабочых. Усе прадпрыемствы і майстэрні абслугоўваюцца самімі колгасьнікамі і трэба адзначыць, што сярод іх ёсьць досыць добрыя спэцыялістыя. Праца ў майстэрнях пастаўлена досыць добра: удзень сталярня, стальмашня і кузьня вырабляюць гатовы воз. Майстэрні колгасу абслугоўваюць ня толькі патрэбы калгасу, але і акалічныя індывідуальныя гаспадаркі. Рамонт нават складаных с.-г. машын робіцца на месцы ў сваіх майстэрнях. Наогул трэба адзначыць, што прадпрыемствы і майстэрні адыгрываюць досыць значную ролю ў экономіцы гаспадаркі колгасу.

Колгас разьмешчаны ў дзьвюх сялібах, адна ў б. маёнтку Вялікія Яўтушкавічы, дзе ёсьць рэшткі абшарніцкіх будынкаў і цагляны падвал—былага бровару і другая сяліба ў б. маёнтку Малыя, або старыя Яўтушкавічы, адлегласьць паміж сялібамі 2 км. У апошняй зьмяшчаўся да аб'яднаньня колгас Мясьнікова. У чэрвені м-цы злачынцамі падпалена сяліба колгасу (был. Мясьнікова) і ад пажару калгас меў страт да 2000 руб. Згарэў дом на 7 сем'яў, амбар, 5 кароў, хлявы і частка с.-г. інвэнтару. Зараз на гэтай сялібе зьмешчаны малочныя каровы і ў будучым мяркуецца організацыя тут малочнае гаспадаркі. Умовы для гэтага ёсьць: блізасьць пасьцьбішчаў. З будынкаў на першай сялібе ёсьць 11 дамоў, у якіх зьмяшчаецца да 17 сямей, хлявы, амбар, кузьня і памяшканьне для майстэрань. У бягучым годзе распачалі будаваць абору 84×10 мт на каменным падмурку. Будоўлю мяркуюць скончыць да восені—засталося толькі накрыць ды зрабіць патрэбнае абсталяваньне. Нядаўна перавезьлі 1 кулацкі дом 13×10 мт, у якім зараз зьмяшчаюцца ясьлі і дзіцячая пляцоўка. На другой сялібе засталося пасьля пажару гумно, частка хлявоў і хатка, у якой зьмяшчаецца пэрсонал, наглядаючы за каровамі.

Пасьля ўборкі ўраджаю мяркуецца перавозка на сялібу колгасу будынкаў колгасьнікаў, якія зараз знаходзяцца ў в. Людвінаўка на адлегласьці 1,5 км ад колгасу.

Органамі кіраўніцтва колгасу зьяўляецца праўленьне, рэвізійная камісія і агульныя сходы колгасьнікаў, якія адбываюцца ня менш 1 разу ў м-ц. Пачатак працы, перапынкі і канец абвяшчаецца званком, які вісіць пасярэдзіне двара колгасу. Для працы ўсе калгасьнікі разьмеркаваны на брыгады ад 10 да 15 чалавек на чале з кіраўніком—старшым брыгадзірам. Дысцыпліна сярод колгасьнікаў здавальняючая, прагулы і нядбайнасьць выносіцца на абгаварэньне агульных сходаў і аддаецца пад абстрэл самакрытыкі. На жаль трэба адзначыць, што мэтод соцспаборніцтва ў практыцы працы калгасу адсутнічае. Гутарка на гэтую тэму з кіраўнікамі колгасу падае надзею, што гэтае пытаньне ў іх зойме ў бліжэйшы час належнае месца. Да ўборкі ўраджаю колгас падрыхтаваўся своечасова. Ужо к прыезду брыгады асьветнікаў на касьбу былі падрыхтаваны косы, бабкі, малаткі і мэльташкі, таксама

агледжаны і змазаны жняяркі. Недахоп у працоўнай сіле на час уборкі адчуваецца да 50 чалавека-дзён, які мяркуецца папоўніць за рахунак 2-х асьветніцкіх брыгад і іншых арганізацый раёну, якія ў парадку дабраахвотнасьці прымацаваны для дапамогі колгасу на час уборкі ўраджаю.

Аплата працы колгасьнікаў разьбіваецца на 5 асноўных катэгорый: І—0,60 к. у дзень, ІІ—0,75, ІІІ—0,90, ІV—1 р. 05 і V—1 р. 20 к. і згодна пастановы агульнага сходу колгасьнікаў на час касьбы ўведзена VІ катэгорыя—1 р. 50 кап. касцу ў дзень. Разьлік з колгасьнікамі: 50% выдаецца штомесячна натураю (продукты і фабрыкаты), а часамі і грашыма, а рэштка зарплаты будзе выдана па сканчаньні гаспадарчага году—у кастрычніку.

Усімі відамі с.-г. продуктаў колгасьнікі з іх уласных слоў забясьпечаны зусім добра, слабей справа абстаіць з мануфактураю, вопраткаю і абуткам. На гэтай глебе бываюць спрэчкі паміж асобнымі колгасьнікамі, асабліва сярод жанчын, якія ў гэтай частцы хочуць пэўнай „ураўнілаўкі", адкінуўшы асобныя запатрабаваньні кожнага колгасьніка і клясавы прынцып. Да рэчы трэба сказаць, што мануфактураю і абуткам колгас параўнальна забясьпечваецца здавальняюча. У час нашага прабываньня колгас атрымаў мануфактуры, абутку і вопраткі на 1000 руб., што ў сярэднім на 1 душу складае 4 р. 85 к.

Узаемаадносіны колгасу з вакольным насельніцтвам нормальныя. Колгас аказвае дапамогу індывідуальным гаспадаркам сваімі машынамі, майстэрнямі, прадпрыемствамі, жарабцом, бугаём і хракам, прычым беднаце часткова і зусім бясплатна. Наладжанасьць працы ў колгасе, нормальныя ўзаемаадносіны з неколгасьнікамі ствараюць умовы да ўступленьня ў колгас новых сяброў. Зараз 20 гаспадарак з в. Людвінаўка падалі заявы аб прыёме ў колгас, так што ў хуткім будучым калгас Прасьвет мае стаць адным з буйнейшых колгасаў у раёне. Умовы для гэтага ёсьць досыць спрыяючыя: дастатковасьць зямельных угодзьдзяў, сенажаці і згуртаваньне іх у адным кавалку, наяўнасьць моцнага батрацка-бядняцкага і серадняцкага актыву, адданага справе колектывізацыі, забесьпячэньне партыйным кіраўніцтвам—ячэйка КПБ і ЛКСМ; усё гэта складае варункі для пасьпяховае працы і ўзмацненьня колгасу.

Застаецца сказаць пра культурна-асьветную працу ў колгасе. У гэтых адносінах колгас абслугоўваецца дзьвюма школамі: Яўтушкаўскаю і Давыдаўскаю яўр., абедзьве 2-комлектовыя. Першая з іх з будучага навучальнага году рэорганізуецца ў школу калгаснае моладзі 0,5. Дзеці колгасьнікаў былі ахоплены школамі на 100%. Зімою працаваў сэзонны лікпункт у колгасе, але па апавяданьню колгасьнікаў лікпункт належных вынікаў ня даў. „Дужа слабога ліквідатара даў нам Райінспэктар", казалі. Прасілі на будучы год такога не прысылаць. „У нас і свае старыкі печ зоймуць". Мусіць такі ліквідатар здорава кахаў печ!

Настаўніцтва разам з вучнямі прымалі ўдзел у культурна-асьветнай працы колгасу. Школьнікі Яўтушкаўскае школы агледзелі сад колгасу вясною і засадзілі 100 маладых дрэў. У колгасе зараз працуе дзіцячая пляцоўка з 35 дзяцьмі і ясьлі на 25 чал. З восені мяркуецца арганізаваць клюб у колгасе і правесьці на 100% ліквідацыю няпісьменных.

Рэлігійнасьці сярод колгасьнікаў як-бы і не назіраецца, кажуць, што ў царкву яны ня ходзяць, але вобраз „чудатворца Міколы, ды прысна-дзевы Марыі" красуецца чуць не ў канцылярыі колгасу і як на зло пад імі сьпіць сам старшыня Людвінаўскага сельсавету, якога аб-

вінаваціць у прыхільнасьці да чудатворца цяжка. Будзем спадзявацца, што пры наступным наведваньні колгасу „багоў“ на тым месцы бачыць ня прыдзецца. Праца грамадзкіх організацый у колгасе не адчуваецца. Неабходна кіраўнічым органам колгасу, ячэйкам КПБ і ЛКСМБ звярнуць увагу на гэты бок.

25/VII 1930 г.
м. Азарычы.

---

Д-р Н. А. Лосеў.

# Прычыны сьлепаты ў Мазырскай акрузе.

Сьлепата зьяўляецца паказальнікам ня толькі культурна-эканомічнага становішча, як гаварыў Rimpler, але-ж таксама паказвае на стан організацыі рацыянальнай мэдычнай дапамогі. Мы ня будзем разьбіраць пытаньне азначэньня слепаты як з навуковага боку, так і з боку мас наогул. Ня будзем разьбіраць таксама псыхолёгіі сьляпога. Аб гэтым дэтальна і многа раз пісалася ў расійскай і замежнай літаратуры.

Ставячы пытаньне вывучэньня сьлепаты ў акрузе, мы кіраваліся наступнымі пытаньнямі: 1) неабходна выявіць прычыны сьлепаты і магчымыя спосабы папярэджваньня сьлепаты; 2) умовы жыцьця сьляпых у нашай акрузе і роля грамадзкасьці ў клопатах аб сьляпых.

Простае зьбіраньне колькаснага матар‘ялу аб сьлепаце ня мае істотнага значэньня. Больш важна пытаньне прычын сьлепаты. У Мазырскай акрузе пытаньне аб сьлепаце, як і наогул аб хваробах вачэй, ніколі не разьбіралася да сучаснага моманту.

Як самы ўзьбярэжны павет у ранейшыя гады ён не вызываў зацікаўленасьці ў акулістых губэрні. Напрыклад, у дакладзе д-ра Камінскага на І-м зьезьдзе дактароў Менскае губэрні 1908 г. ня сказана ніводнага слова аб Мазыршчыне.

Як тыповы сельска-гаспадарчы раён, Мазыршчына мала адрозьніваецца ад іншых раёнаў Беларусі культурна-бытавымі ўмовамі сялянства. Натуральна было і думаць, што як колькасьць, так і прычыны сьлепаты прыблізна такія самыя, што і ў іншых акругах. Між іншым, пры азнаямленьні з сапраўдным матар‘ялам, як гэта відаць будзе далей, адзначаюцца асаблівасьці ў разьвіцьці сьлепаты ў Мазырскай акрузе.

Той матар‘ял, які мы зьбіралі два гады, мае тую каштоўнасьць, што ён зьбіраўся выключна акруговай амбуляторыяй. У цяжкай працы па дасьледваньні сьляпых нам значна дапамагло Праўленьне краязнаўчага таварыства.

Такім чынам, у сучасны момант мы маем матар‘ял, які ахапляе каля 45—50% усіх сьляпых акругі. Па нашай думцы гэтая колькасьць дастаткова для таго, каб мець уяўленьне і вывады аб сьлепаце на Мазыршчыне. Сьляпымі мы лічылі ўсіх асоб, якія мелі зрок менш, чым разьлічэньне рукі каля твару.

### Сьлепата на абодва вока.

Усяго зарэгістравана намі сьляпых на абодва вока 113 чал. Раскіданы сьляпыя па акрузе больш ці менш роўнамерна. Пры аналізе бытавых і культурных умоў нам не ўдалося знайсьці нічога спэцыфіч-

нага, што магло-б павялічваць разьвіцьцё слепаты ў адным ці ў другім раёне акругі. Па акрузе дасьледвана намі, прыкладам, каля 50% сьляпых на абодва вока. Засталося мала дасьледванай паласа ўсьцяж Заходняй мяжы. Падлік сьляпых па раёнах паказвае нам, што кольkасьць у кожным з іх амаль што аднолькавая. Гэта дазваляе нам думаць, што недасьледваны раён не адрозьніваецца ад дасьледванага па працанту сьляпых сярод сялянства. Мы дапушчаем, што ў сярэднім засталося без дасьледваньня ня больш 55% агульнага ліку сьляпых акругі.

Паводле полу сьляпыя падзяляюцца наступным парадкам: мужчын 63 і жанчын 50. Залежнасьць паміж полам і сьлепатою ў нашым матар'яле адзначыць нельга. Амаль што роўна сьлепнуць мужчыны і жанчыны ад адных і тых-жа прычын.

Пры адзначэньні ступені паказальніка сьлепаты на абодва вока мы знаходзім, што паказальнік будзе 3,2:10.000, а з папраўкай на пагранічны раён—6,4:10.000, у працантных адносінах гэта будзе складаць каля 0,06% агульнага ліку насельніцтва акругі. Такі нізкі паказальнік сьлепаты для Мазыршчыны вельмі цікавы наперакор дапушчэньню, што Мазырская акруга, як адсталая ў культурна-эканомічных адносінах, павінна была-б даць найбольшы працант сьлепаты, у сапраўднасьці зьяўляецца на апошнім месцы ў параўнаньні з іншымі раёнамі СССР і нават з іншымі раёнамі Беларусі. Дзеля параўнаньня дазволю сабе прывесьці паказальнік сьлепаты некаторых раёнаў Савецкага Саюзу і замежных дзяржаў.

**Сярэдні паказальнік сьлепаты.**

| | |
|---|---|
| Пермская губ. | 62:10000 |
| Варонеск. губ. | 26:10000 |
| Менская акр. | 9,6:10000 |
| Сярэдняя для был. Рас. Імп. | 20:10000 |
| Нямеччына | 8,1:10000 |
| Нідэрлянды | 4,5:10000 |

Як відаць з табліцы, нават паказальнік сьлепаты Заходніх дзяржаў больш, чым на Мазыршчыне. Праўда, замежны матар'ял стары, які характарызуе сабою канец XIX стагодзьдзя. Расійскія-ж лічбы зьяўляюцца апошнімі. На падставе нашага матар'ялу можна было-б думаць, што насельніцтва Мазырскае акругі сьлепне вельмі мала, няма на Мазыршчыне асаблівых умоў жыцьця, якія маглі-б штучна павялічваць сьлепату.

Паказальнік 6,4:10000 блізкі да прыроднай нормы, якую, напрыклад, Kerschbaumer адзначае 3:1000. Фактычна справа абстаіць зусім ня так. Ужо пры бягучым аглядзе ўмоў жыцьця сялянства, як беднасьць, малакультурнасьць, балоты і поўная адсутнасьць вочнае дапамогі на вёсцы, мы a priori павінны заключыць, што сьляпых у Мазырскаи акрузе значна больш.

Пры высьвятленьні гэтага пытаньня на месцы аказваецца, што амаль палова дарослай часьці сьляпых, асабліва якія асьлеплі ў маладыя гады, пайшлі з сваёй вёскі жабраваць. Сярод сялянства існуе даволі цьвёрды звычай прывучаць сьляпога жабраваць. Ахапіць гэтую частку сьляпых немагчыма. Другая асаблівасьць, якую трэба адзначыць, заключаецца ў тым, што сярод дзіцячага ўзросту (сьляпых) існуе вя-

лікая сьмяротнасьць. Праўда, статыстычных лічбаў няма, але назіраньне за сваімі пацыентамі і апавяданьні сялян пацьвярджаюць гэтую думку.

Такім чынам сапраўдныя лічбы сьляпых сярод сялянства значна больш тых, што намі сабраны. Рабіць дапушчэньне аб сапраўднай колькасьці сьляпых Мазыршчыны цяжка, ды гэта і ня трэба. Як статыстычны матар'ял нашы лічбы для Мазыршчыны даволі характэрны.

Дынаміка сьлепаты па акрузе паводле нашага матар'ялу таксама паказвае на значна большую колькасьць сьляпых у сучасны момант. Напрыклад, за два апошнія гады праз вочнае аддзяленьне прайшло 28 чал. страціўшых зрок на абодва вока. Пры ўмоўным дапушчэньні, што ў год сьлепне ў сярэднім 14 чал., то сярэдняя лічба сьляпых па акрузе (зусім магчымая) у сучасны момант будзе каля 300 чал., прымаючы за сярэднюю працягласьць жыцьця сьляпога 20 год. Паводле перапісу 1926 г. адзначана сьляпых па Мазырскай акрузе 337 чалавек, што адпавядае нашым вылічэньням. Зразумела, лічбы перапісу 1926 г. не адпавядаюць сапраўднасьці з прычыны таго, што перапішчыкі ня мелі аднолькавага крытэрыя для азначэньня сьлепаты. Сярод матар'ялу статыстычнага бюро сустракаюцца ўмоўныя сьляпыя, якіх можна вылячыць, напрыклад, катаракта і інш. Матар'ял перапісу трэба лічыць прыблізным.

Прымаючы пад увагу прыведзеныя намі папраўкі к нашаму матар'ялу, можна лічыць паказальнік сьлепаты па акрузе каля 8,3:10000. Такі нізкі процант сьлепаты залежыць ад ўмоў тыпова сельска-гаспадарчага раёну. З другога боку гэты паказальнік сьлепаты адпавядае разьвіцьцю ў акрузе цяжкіх хвароб вачэй, як трахома і г. д. Матар'ялямі расійскіх аўтараў даказана, што дзе больш трахомы, там і сьляпых больш. Напрыклад, па Пермскай губ. 42% агульнага ліку сьляпых асьлеплі ад трахомы. Пермскі край, як нам вядома, мае вялікую колькасьць трахомных хворых.

### Прычыны сьлепаты.

Вывучэньне прычын і ўмоў разьвіцьця сьлепаты мае вялікае значэньне для правільнай барацьбы з сьлепатой.

Таб. 1.

**Прычыны сьлепаты на абодва вока:**

| Назва хваробы | Лік сьляпых | % | Назва хваробы | Лік сьляпых | % |
|---|---|---|---|---|---|
| Глаўкома . . . . | 22 ч. | 19,4 | Трахома . . . . | 7 ч. | 6 |
| Траўма . . . . . | 15 „ | 13,3 | Сыфіліс вока. . . | 5 „ | 4,5 |
| Невядома ад чаго . | 13 „ | 11,5 | Тубэркулёз . . . | 4 „ | 3,6 |
| Залатуха . . . . | 11 „ | 9,7 | Адзёр . . . . . | 3 „ | 2,7 |
| Ulcus serpens. . . | 10 „ | 8,8 | Плямісты тыфус . | 1 „ | 0,9 |
| Myopia grav . . . | 2 „ | 1,8 | Пігмэнт. . . . . | 1 „ | 0,9 |
| Рэтроб нэвр. . . | 1 „ | 0,9 | Отслойка сетч. . . | 1 „ | 0,9 |
| Мэт. офт. . . . . | 1 „ | 0,9 | | | |

Найболш частай прычынай сьлепаты на абодва вока паводле нашага матар'ялу зьяўляецца глаўкома, якая дала 19,4% агульнага ліку сьляпых.

Такі вялікі процант сьлепаты ад глаўкомы залежыць па-першае ад таго, што дыягностыка і тэрмін накіроўваньня хворага прапушчаюцца і па-другое—самі хворыя доўга не зварочваюцца да доктара, а спачатку лечацца хатнімі сродкамі, шаптухамі. Аб гэтым яскрава сьведчыць наступны факт: з 22-х сьляпых ад глаўкомы ні разу ня зроблена опэрацыя, як лепшая лячэбная мера.

Другое месца, сярод прычын сьлепаты займае траўма вачэй: 13,3%. Раненьне вачэй носіць выпадковы характар і зьяўляецца часта вынікам някультурнасьці і хуліганства. Сярод прычын траўматызацыі трэба адзначыць: выбух капсул, пораху, бойка і інш. Раненьні ў большасьці бываюць вельмі цяжкія і безнадзейныя.

У значнай частцы сьляпых нам не ўдалося выявіць прычыну сьлепаты. Аднак, на падставе рубцоў рагавой абалочкі трэба лічыць, што сьлепата наступіла ад гнойных захворваньняў рагавой абалочкі, як Ulcus serpens, залатуха і г. д.

Побач з гэтым дакладна ўстаноўлена, што ад залатухі страцілі зрок 9,7% сьляпых, а ад Ulcus serpens 8,8%. Усе занядужаньні рагавой абалочкі даюць 30% агульнага ліку сьляпых. Хваробы рагавой абалочкі зьяўляюцца галоўнай прычынай сьлепаты і гэта сьведчыць аб тым, як важна ведаць раённаму мэдпэрсоналу спосабы лячэньня хвароб рагавой абалочкі. Затое вельмі прыемна бачыць, што ад трахомы сьляпых нямнога (6%). Колькасьць сьляпых ад трахомы падкрэсьлівае нам нашыя вывады аб тым, што трахома на Мазыршчыне пашырана значна менш, чым у іншых раёнах Беларусі і РСФСР. Паводле матар'ялу проф. Галавіна трахома зьявілася прычынай сьлепаты ў 21,4% агульнага ліку сьляпых; у Варонескай губ. 24% (Масьленікаў); у Менскай акрузе 23,4% (Лосеў).

Астатнія прычыны сьлепаты ня маюць такога істотнага значэньня для разьвіцьця сьлепаты ў акрузе. Усё гэта адзіночныя выпадкі.

**Нацыянальнасьць і социяльнае становішча сьляпых.** Таб. 2.

| Нацыян. | Кольк. | % % | Соц. стан. | Кольк. | % % | Пісьмен. | Кольк. | % % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусаў . | 102 | 9,2% | Сялян . . | 104 | 91,1 | Пісьм. . | 8 | 7% |
| Яурэяў . . | 11 | 9,8 | Рабочых . | 2 | 1,7 | Няпісьм. | 105 | 93% |
| | | | Іншых. . | 7 | 6,2 | | | |

Як відаць з табліцы, матар'ял тыповы для сялянскага раёну.

**Узрост сьляпых.** Таб. 3.

| Узрост | Кольк. | % | Узрост | Кольк. | % % |
|---|---|---|---|---|---|
| 1—10 год | 11 | 9,7% | 50—60 год | 22 | 18,4% |
| 10—20 " | 14 | 12,3% | 60—70 " | 21 | 18,6% |
| 20—30 " | 21 | 18,6% | | | |
| 30—40 " | 8 | 7% | | | |
| 40—50 " | 16 | 14% | | | |

Лік сьляпых дзіцячага і юнацкага ўзросту дасягае 22% і галоўнай прычынай сьлепаты сярод іх зьяўляюцца выключна хваробы рагавой абалочкі і інфэкцыйныя хваробы, як воспа, адзёр і інш. На матар'яле дзіцячага ўзросту яскрава відаць недахоп спэцыяльнай дапамогі. Залатуха ў дзяцей пры добрым лячэньні не павінна даваць сьляпых.

Вельмі цікавым пытаньнем зьяўляецца лячэньне нашых сьляпых. Аказваецца, што з 113 чал. 81% зусім не лячыліся ў акуліста. Зварочваньне хворых да доктара і іх культурнае разьвіцьцё знаходзяцца ў простай залежнасьці. Так, паводле нашага матар'ялу 93% сьляпых няпісьменныя.

Такім чынам, тут ёсьць усе акалічнасьці, якія спрыяюць разьвіцьцю сьлепаты: далечыня вёсак, беднасьць, някультурнасьць, вельмі рэдкае зварочваньне да акуліста і частае спазьненьне. Пры разглядзе гэтых умоў можна зрабіць вывад, што каля 33% агульнага ліку сьляпых можна было-б вылячыць, калі-б было сваечасовае зварочваньне да доктара.

### Слепата на адно вока.

Сьляпых на адно вока намі зарэгістравана 445 чал. Адзін з магутных фактараў разьвіцьця сьлепаты на адно вока зьяўляецца траўма, якая дала 35,5% агульнага ліку сьляпых на адно вока. Колькасьць траўматычнага пакалечаньня ў Мазырскай акрузе больш, чым у некаторых фабрычна-заводзкіх раёнах. Напрыклад, у Менскай акрузе, якая мае значна больш фабрык, траўма зьявілася ў 17,7% прычынай сьлепаты. Асаблівасьць Мазырскай акругі заключаецца ў лясных распрацоўках.

Таб. 4.

**Прычыны сьлепаты на адно вока.**

| №№ п/ч | Назва хваробы | Кольк. | %% | №№ п/ч | Назва хваробы | Кольк. | %% | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Траўма . . . . | 158 | 35,5 | 13 | Адзёр . . . . | 6 | 1,3 | |
| 2 | Ulcus serpens . . | 55 | 12,3 | 14 | Злок міопія . . | 5 | 1,1 | |
| 3 | Нявыясьн. прыч. | 35 | 8 | 15 | Дегенэрац. рагав. аб. . . . . | 2 | 0,47 | |
| 4 | Гнойн. язвы рагавіцы . . . | 31 | 7 | 16 | Адслойка сетчат. | 2 | 0,47 | |
| 5 | Воспа. . . . . | 28 | 6,3 | 17 | Ажог. . . . . | 2 | 0,47 | Правае вока—218 |
| 6 | Залатуха . . . | 24 | 5,4 | 18 | Пігмэнт. . . . . | 2 | 0,47 | |
| 7 | Трахома. . . . | 21 | 4,7 | 19 | Саркома . . . | 2 | 0,47 | |
| 8 | Глаўкома . . . | 17 | 3,8 | 20 | Укусы жывёлы . | 2 | 0,47 | Левае вока—227 |
| 9 | Сьлепата ад нарадж. . . . | 15 | 3,3 | 21 | Сіфіліс вока . . | 1 | 0,22 | |
| 10 | Занядуга вокавага нэрва . . | 12 | 2,7 | 22 | Кератоконус . . | 1 | 0,23 | |
| 11 | Тубэркулёз вока. | 11 | 2,4 | 23 | Інфлюэнцыя . . | 1 | 0,23 | |
| 12 | Памафтальміт. . | 7 | 1,5 | 24 | Шкарлятына . . | 1 | 0,23 | |
| | | | | 25 | Плямісты тыфус. | 1 | 0,23 | |
| | | | | 26 | Атручэньне газамі | 1 | 0,23 | |

Аказваецца, што лясныя распрацоўкі вызываюць вельмі часта траўматызацыю наогул і траўму вачэй у прыватнасьці. Раненьне вока

трэскай і інш. кавалкамі дрэва заўсёды вельмі цяжкае і безнадзейнае. Ніякіх прафіляктычных мер тут ня прымаецца. Траўматызацыі падпадаюць толькі мужчыны, чым і тлумачыцца такое прэваляваньне мужчын у агульнай масе сьляпых. Другое месца ў этыолёгіі сьлепаты на адно вока займаюць хваробы рагавой абалочкі (25%) і сярод іх на долю сэрпігінознай язвы прыходзіцца каля 50%. Нашы даныя значна перавышаюць процант сьлепаты ад занядужаньняў рагавой абалочкі, чым гэта значыцца паводле матар'ялу іншых аўтараў (па Галавіну 13,5%). Усе хворыя гэтай групы ў першыя дні і тыдні не зварочваліся да доктара, а спачатку лячыліся хатнімі сродкамі. Дасьледваныя сьляпыя заўсёды давалі адзін адказ: „думаў, што само пройдзе“. Наступнае месца займае воспа, як важны фактар сярод прычын сьлепаты. Для сучаснага моманту высокі процант сьляпых ад воспы гучыць вельмі някультурна. Атрымліваецца ўражаньне, што справа прышчэпліваньня воспы пастаўлена дрэнна. Сапраўды, нам прыходзілася адзначаць, што ў некаторых раёнах насельніцтва няпоўнасьцю ахоплена прышчэпліваньнем воспы. Галоўнай прычынай павышэньня сьлепаты ад воспы зьявілася грамадзянская вайна. Больш паловы з іх асьлепла ў 1918-19 г.г. Трахома, як прычына сьлепаты на адно вока, займае нязначнае месца. Глаўкома ў гэтай групе таксама мала вызвала сьлепату. Усе іншыя прычыны сьлепаты ня могуць характарызаваць сабою што-небудзь тыповае. Трэба толькі адзначыць што тубэркулёз вока, як прычына сьлепаты, значна пашырыўся; гэта пашырэньне адпавядае распаўсюджваньню тубэркулёзу на вёсцы.

Напасьледак трэба паказаць, як на кур'ёз, на 2 выпадкі сьлепаты ад поўнага зьнішчэньня вока пакусам сьвіньні. Абодвы выпадкі характарызуюць сабой поўную адсутнасьць дагляду над дзяцьмі ўлетку на вёсцы.

## Лячэньне сьляпых.

Пасьля дэтальнага апытаньня хворых выясьнілася, што за спэцыяльнай дапамогай акуліста зварочваліся толькі 24% хворых, прычым у гэтую лічбу уваходзяць, галоўным чынам, хворыя з траўмай вачэй. Потым 38,5% атрымалі мэдычную дапамогу ў раённага доктара, урэшце зусім не лячыліся 37,5%. Колькасьць асоб, якія зусім не лячылі вока пакуль асьлеплі, вельмі вялікая. Далечыня вёскі ад лячэбнай установы і бытавыя ўмовы селяніна зьяўляюцца галоўнымі прычынамі нелячэньня.

Таб. 5.

**Нацыянальнасьць, пол і пісьменнасьць.**

| Нацыян. | Кольк. | %% | Пол. | Кольк. | %% | Пісьмен. | Кольк. | %% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусаў . | 385 | 86,5% | Мужчын . | 281 | 63% | Пісьмен. . | 111 | 25% |
| Яўрэяў . . | 37 | 8,3% | Жанчын . | 164 | 37% | Няпісьм. . | 334 | 75% |
| Палякаў . . | 16 | 3,6% | | | | | | |
| Немцаў . . | 7 | 1,5% | | | | | | |

Таб. 6.

**Сьлепата і социяльнае становішча.**

| №№ п/ч. | Занятак | Кольк. | %% |
|---|---|---|---|
| 1 | Сялян . . . | 400 | 89,8% |
| 2 | Служачых . . | 22 | 5% |
| 3 | Рабочых . . | 18 | 4% |
| 4 | Гандляроў . . | 5 | 1,1% |

Аналізуючы ўзрост сьляпых, мы бачым, што 63% агульнага ліку сьляпых прыходзіцца на ўзрост ад 20 да 60 год. На жаль, нам не ўдалося дакладна вытлумачыць пытаньне аб узросьце, у якім сьляпыя страцілі зрок. Група дзяцей і юнакоў каля 25% агульнага ліку паказвае, што дзеці знаходзяцца ў няспрыяючых умовах у сэнсе атрыманьня спэцыяльнай мэдычнай дапамогі. На падставе прычын і ўмоў разьвіцьця сьлепаты можна сказаць, што процант папярэджваньня сьлепаты магчыма значна павысіць, калі паставіць акулістычную дапамогу насельніцтву на належную вышыню. Вылічэньне процанту магчымага папярэджваньня сьлепаты ня мае вялікага значэньня. Больш важна констатаваць моманты, якія спрыяюць разьвіцьцю сьлепаты. Да ліку гэтых момантаў, акрамя цемнаты сялян у пытаньні аховы органа зроку, трэба дадаць вельмі вялікую адлегласьць большасьці вёсак ад Мазыра; недастатковае знаёмства в вочнымі хваробамі раённага мэдпэрсоналу. Такім чынам, цемната, адлегласьць вёсак ад вочнай амбуляторыі і кепскае знаёмства раённага мэдпэрсоналу з вочнымі хваробамі маюць выключнае значэньне. Пры організацыі рацыянальнай акулістычнай дапамогі насельніцтву трэба мець на ўвазе якраз гэтыя тры моманты.

Таб. 7.

**Узрост сьляпых.**

| Узрост | Колькі | Узрост | Колькі |
|---|---|---|---|
| 1—10 г. | 44 | 50—60 | 71 |
| 10—20 „ | 57 | 60—70 | 61 |
| 20—30 „ | 81 | 70—80 | 12 |
| 30—40 „ | 66 | | |
| 40—50 „ | 63 | | |

У сучасных умовах у Мазырскай акрузе разьвіцьцё акулістычнай дапамогі магчыма весьці ў двух напрамках. Па-першае, надта патрэбна пашырыць вочнае аддзяленьне пры акруговай больніцы да 15 ложкаў. Па-другое, таксама неабходна і магчыма організаваць пэрыодычныя выезды акуліста ў раён для сумеснай працы з раённым мэдпэрсоналам. Другім момантам, які нас цікавіць у гэтай працы, зьяўляецца дзяржаўныя і грамадзкія клопаты аб сьляпых. Няма чалавека, які заслугоўваў-бы такую ўвагу, як сьляпы. Пазбаўлены магчымасці карыстацца зрокам, чалавек застаецца абсолютна пакінутым нават пры перасоў-

ваньні, а ня толькі пры працы. На абавязках грамадзтва ляжыць неабходнасьць паставіць сьляпога ў умовы, дзе ён мог-бы адчуваць сябе роўнапраўным грамадзянінам і адчуваў-бы здавальненьне сваёй працай. Як гэтая справа стаіць на Мазыршчыне? Наша дасьледваньне, якое ахапіла 113 выпадкаў, паказала, што сьляпыя знаходзяцца ў надзвычайна цяжкіх умовах. Калі мы возьмем самую маладую групу сьляпых да 20 год, то аказваецца, што большая частка з іх да пары, да часу жывуць у бацькоў. Дома, у сялянскай гаспадарцы, яны пакінуты самім сабе і ня могуць атрымаць якую-небудзь спэцыяльную працу-якая-б магла даць магчымасьць самастойна зарабляць сродкі для жыцьця. Іх трэба лічыць кандыдатамі ў другую групу сьляпых.

Другая група ахоплівае 53 чал., яны жывуць, як жабракі. Усім знаёмы малюнкі ля дзьвярэй царквы, на рынку, на шумлівых вуліцах, каля вакзалаў і г. д., 3-я група—6 чал. працуюць батракамі. Гэта трэцяя група больш рацыянальна скарыстоўваецца, як фізычная сіла, але не на карысьць сьляпому. Урэшце апошняя група ў 13 чал. знаходзіцца на ўтрыманьні сваіх дзяцей. Гэта найбольш шчасьлівая група.

У нашай акруге зусім нічога ня зроблена для аховы жыцьця, выхаваньня і адукацыі сьляпых. У цэнтры гэта справа таксама недастаткова разгорнута. Менская школа сьляпых вельмі мала ахоплівае сьляпых дзіцячага ўзросту. Школа запаўняецца дзяцьмі бліжэйшых раёнаў ці дзяцьмі, якія маюць магчымасьць паехаць у Менск і дабівацца прыёму ў школу. Па іншых акругах ні школ ні майстэрань няма.

Такім чынам, гэта жывейшае пытаньне патрабуе вялікае ўвагі з боку органаў аховы здароўя і іншых грамадзкіх організацый. Неабходна ўтварыць шэраг школ і майстэрань як для сьляпых дзяцей, так і для сьляпых дарослых.

---

А. Мацейчык.

# Аб расьліннасьці ў ваколіцах воз. Крывога Полацкае акр.

(*З прац Студ. Краязнаўчага Т-ва Б. Д. У.*).

Гэты артыкул зьмяшчае частку вынікаў абсьледваньня расьліннасьці Вульскага і Вушацкага раёнаў, якое было зроблена за час працы экспэдыцыі Краязнаўчага Т-ва Б. Д. У. на Полаччыну ўлетку 1928 г. Для агульнага экспэдыцыйнага абсьледваньня быў абраны Вушацкі раён, як найбольш тыповы для акругі ў сэнсе экономічным і культурным; ботанічная-ж частка экспэдыцыі, зрабіўшы двухдзённую экскурсію ў Плінскую дачу Вушацкага лясьніцтва, накіравалася ў Вульскі раён, а іменна ў ваколіцы воз. Крывога [1]). Возера Крывое было абрана дзеля differentiation розностайнасьці расьлінных згуртаваньняў, згрупаваных навакол яго на параўнальна невялікім абшары. Гэтая ўмова дазволіла нам за кароткі (2-тыднёвы) тэрмін працы экспэдыцыі скласьці даволі выразнае ўяўленьне аб агульным характары расьліннасьці на поўдні вазёрнае часткі Полаччыны.

[1]) У склад ботанічнае часткі экспэдыцыі ўваходзілі: кіраўнік М. А. Зьбіткоўскі, Г. Я. Зьбіткоўская, А. Мацейчык і Р. И. Гацко. Тав. Гацко яшчэ раней выехаў у Вульскі р., дзе далей і працаваў асобна, вывучаючы вядзяную расьліннасьць вазёр раёну.

Трэба агаварыцца ад самага пачатку, што прапанаваная заметка мае хутчэй флёрыстычны, чым геоботанічны характар, дзеля таго што для глыбейшай геоботанічнай працы экспэдыцыя ня мела часу. Трэба было выбіраць—альбо ахапіць як-мага шырэйшы раён, паступіўшыся пры гэтым дакладнасьцю і некаторым (неабходным пры геоботанічных досьледах) пэдантызмам, альбо, за кошт флёрыстычнай шырыні, пільнавацца геоботанічнае дакладнасьці. Бяручы пад увагу слабую яшчэ першую ступень вывучэньня расьліннасьці гэтай часткі Беларусі—флёрыстычную, мы абралі першы шлях, не праміналочы і ўсіх магчымасьцяй для зьбіраньня матар'ялаў геоботанічнага характару.

За час працы на воз. Крывым і ў яго ваколіцах[1]) было зроблена 12 экскурсій і сабраны зельнік, які ахапляе сабою звыш 300 відаў (каля 2000 гэрбарных экзэмпляраў). Сабраны матар'ял апрацаваны ў Ботанічным Габінэце БДУ, пад кіраўніцтвам М. А. Зьбіткоўскага.

——

Возера Крывое, параўнальна невялікае, знаходзіцца ў групе больш значных вазёр (Палувозера, Атолава, Бярозавае), якая ляжыць на поўдні Полаччыны, недалёка ад паўднёвай мяжы густой сеткі ледавіковых западзін занятых вазёрамі. Крывое зьяўляецца тыповым прыкладам тутэйшых вазёр, якія маюць пераважна лопасныя контуры берагоў і (за выключэньнем дробных вазёрцаў) слаба выражаныя працэсы зарастаньня. Апошняе лішні раз сьведчыць аб іх параўнальна маладым геолёгічным узросьце. Паводле паказаньняў мясцовых жыхароў адлегласьць ад воз. Крывога да м. Вулы—16 км (на паўднёвы захад), а да м. Вушачу—30 км (на ўсходні паўдн. ўсход)[2]).

Гэты куток Полаччыны ўяўляе сабою бадай што найбольш маляўнічы прыклад морэннага краявіду, „дзе хвалістыя ланцугі морэн захавалі на сваіх дзівосных формах рэльефу высокія яловыя лясы і чаргуюцца з чыстымі глыбокімі вазёрамі“ [3]). Праўда, што „высокіх яловых лясоў“ тут амаль не засталося, а найбольш высокія часткі рэльефу заняты хваёвым борам (што зусім ня шкодзіць маляўнічасьці). Агульны нахіл гэтая мясцовасьць мае з поўдня на поўнач. У гэтым кірунку цякуць рэчкі і канавы, якія злучаюць паміж сабою паасобныя вазёры: р. Ліпенка з воз. Ліпна ў воз. Атолава, р. Турасянка з воз. Турасы ў воз. Бярозавае, канавы паміж ваз. Палувозерам і Крывым (з усходу на захад), Крывым і Кароціцаю, Кароціцаю і р. Турасянкаю.

Пераважным тыпам пакрыўных парод, якія складаюць паверхню гэтай мясцовасьці, ёсьць буйна-пескавыя суглінкі, на якіх утварыліся моцна ападзоленыя глебы. Яны цягнуцца шырокаю паласою ўздоўж левага берагу Дзьвіны (прыблізна ад Бешанковіч да савецка-польскага рубяжу і далей) аддзеленыя ад яе стужкаю слабаападзоленых глыбокіх пяскоў[4]).

---

[1]) Ад 22-VIII. 1928 г.; першыя дні праца праводзілася пад непасрэдным кіраўніцтвам М. А. Зьбіткоўскага, а пасьля працягвалася Г. Я. Зьбіткоўскаю і аўтарам самастойна.

[2]) Літаратурных даных аб воз. Крывым знайсьці мне не ўдалося.

[3]) Я. Афанасьеў. Да пытаньня аб акрыцьцёвых пародах заходняй часткі СССР. Запіскі Аддз. Прыроды і Гаспадаркі І. Б. К., т. І. Менск 1928.

[4]). П. Рагавы. Схэматычная глебавая карта Беларусі пры артыкуле „Глебы Беларусі“—Працы Горы-Горацкага Навук. Т-ва, т. V. Горы-Горкі 1928., і „Схэматычная карта акрыцьцёвых парод зах. часткі СССР“ пры цытаваным вышэй арт. проф. Я. Афанасьева.

Гэтая агульная глебавая схэма, акая датычыць значных абшараў, у межах дробных вучасткаў, якім зьяўляецца і раён нашых дасьледваньняў, мае, вядома, больш складаны характар. На жаль, як кароткі тэрмін, у рамкі якога прымушана была ўкласьціся экспэдыцыя, так і адсутнасьць патрэбных матар'яльных ды тэхнічных сродкаў не дазволілі нам узяць спробы глеб для аналізу, альбо нават закладаць ямкі для апісаньня глебавых перарэзаў. Таму прыходзіцца абмежавацца толькі агульнымі заўвагамі. Вельмі няроўны морэнавы рэльеф зьяўляецца аднэю з галоўных прычын утварэньня змытых ды наносных глебаў, пескавых на вярхох узгоркаў і дробназемістых па паніжэньнях. У залежнасьці ад глебавых, у першую чаргу, чыньнікаў зьмяняецца і характар расьліннасьці. Бяручы агулам, гэтая зьмена ўкладаецца ў схэму даную В. Палянскай для Віцебскае акругі: „у лясох з узгоркавым рэльефам вышэйшыя пункты аказваюцца занятымі чыстымі хваёвымі барамі; ніжэй па схілах зьяўляецца хваёва-яловы лес, яшчэ ніжэй — чыста яловы. Урэшце, паніжаныя вучасткі з глеявата-балотнаю (мулавата-балотнаю. А. М.) глебаю аказваюцца занятымі мяшанымі дрэвастанамі з чорнай вольхі, бярозы і елкі" [1]).

Асаблівасьцю нашага раёну, які, паводле падзелу В. Палянскай, ляжыць у зоне мяшаных ялова-шыракаліставых лясоў усходня-эўропейскага тыпу (бяз грабу) [2]), зьяўляецца рознастайнасьць расьлінных формацый; ня лічачы інтразональных формацый, як хваёвыя бары, балотныя згуртаваньні рознага складу ды інш., асаблівай увагі заслугоўвае амаль чыстая (з нязначнаю і няроўнамернаю дамешкаю асіны па краёх) дуброва на вазерных адкладах паўднёва-ўсходняга берагу воз. Бярозавага ў вурочышчы Камова Старана (Мугірынская дача Вульскага лясьніцтва). У паўднёвай палове Віцебскай акругі дуб, паводле цытаванага ўжо артыкулу В. Палянскай, трапляецца толькі як рэдкая і адзінкавая дамешка ў яловых лясох. Тут-жа, на аднолькавай з сярэдняю часткаю Віцебшчыны геофафічнай шырыні, дуб расьце суцэльнаю масаю на плошчы звыш 200 гэктараў. Трэба думаць, што гэта адзін з найдалей высуненых на поўнач Беларусі вучасткаў выноснага (высокаствольнага) чыстага дубовага дрэвастану.

Апісаньне паасобных груп сухаземных і балотных расьлінных згуртаваньняў зьмешчана не ў хронолёгічным парадку, а паводле разьмяшчэньня іх у дасьледваным раёне—з поўначы на поўдзень. У канцы даецца апісаньне воднай расьліннасьці паводле матар'ялаў сабраных на воз. Крывым і некалькі кароткіх заўваг пра пустазельле.

I. 23. VII. 1928. Вурочышча Камова Старана. Ляжыць на роўным паўднёва-ўсходнім беразе возера Бярозавага і складаецца з дубовага лесу (202 дзес.) і балоцістай сенажаці. Нізкі паўднёва-заходні бераг воз. Бярозавага заняты бярозавым хмызьняком на травяным балоце. На ўсход ад рэчкі Турасянкі хмызьняк пераходзіць у нізкую сырую сенажаць, альшыну, і далей у дубовую, якая адным сваім бокам падыходзіць да самага возера, а з трох іншых бакоў абкружана лугамі і хмызьнякамі. Такім чынам дуброва займае ледзь прыкметна ўзьняты над агульным роўнем берагу зостраў, утвораны, як можна меркаваць, вазёрнымі наносамі і падасланы морэнаю. Плошча пад дубровою, калі параўнаць яе з суседнімі хмызьнякамі і сенажацяй, ёсьць

---

[1]) О. Полянская. Расьліннасьць Віцебскае акругі. Матар'ялы да вывуч. флёры і фаўны Беларусі, т. II, Менск 1928.

[2]) О. Полянская. Аб географічным разьмяшчэньні расьліннасьці Беларусі. Мат. да вывуч. флёры і фаўны Беларусі, т. II, Менск 1928.

найлепей дрэнаваная, і дзеля гэтага дуб адчувае сябе тут добра, творачы густы дрэвастан (стычнасьць карон 0,7—0,9), вышынёю да 20 мэтр.[1]) пры ўзросьце да 80—90 год. Сярэдняя таўшчыня дрэў 45—50 см у дыямэтры. Чысты ў масе дубовы лес месцамі прымае дамешку асіны (Populus tremula), асабліва значную па заходнім краі, дзе яна на некаторых вучастках дасягае да 50%.

Дрэвастан трохпаверхавы: два паверхі дубу (Quercus pedunculata) і падлесак, пераважна ляшчыновы. Звычайнаю ў падлеску зьяўляецца і шэрая альшына (Alnus incana), а на сьвятлейшых месцах бяроза (Betula verrucosa) ды асіна; радзей трапляецца брызьліна (Evonymus verrucosus). Зусім рэдка, адзінкавымі экзэмплярамі, можна заўважыць елку і ялавец (Juniperus communis). Дзьве шырокія прасекі, зробленыя праз увесь лес у шырынёвым кірунку (з усходу на захад), зарасьлі порасьцю шэрае вольхі, асіны, яблыні, ляшчыны. На беразе воз. Бярозавага, каля самае вады, у першым паверсе (роўна з дубамі) растуць нячастыя вольхі (Alnus glutinosa).

Дубовы падрост рэдкі і прыгнечаны — дубкоў вышэйшых за 10—15 см амаль што зусім няма. За адну з найважнейшых прычын гэтай зьявы трэба лічыць моцны выпас быдлам, што ня можа не адбівацца на стане як зельнага акрыцьця, так і маладога дубовага падросту. Месцамі трапляюцца палянкі, дзе глеба так здратавана быдлам, што засталася пазбаўленаю ўсялякага зельнага акрыцьця; толькі пад кустамі падлеску захаваліся мізэрныя рэшткі абкусаных расьлін. Гэта можа сьведчыць аб ступені выпасу. Ня можна не пашкадаваць, што мясцовыя ўмовы (недахват пашы) прымушаюць Вульскае лясьніцтва згадзіцца на скарыстаньне Камовае Стараны пад пашу, бо гэта выключае магчымасьць натуральнага ўзнаўленьня дубовага лесу, ня кажучы ўжо пра пашырэньне яго плошчы. А для пашырэньня былі-б усе даныя, як аб гэтым сьведчыць факт маладога дубовага самасею на сенажаці з паўночна-ўсходняга краю дубровы. Сенажаць належыць таксама да Вульскага лясьніцтва, якое, зважаючы на ўспомнены самасей, запусьціла яе пад дубняк. Але, на жаль, у гэтым годзе (1928) сенажаць была скошана разам з маладымі (2-3 гадовымі) дубкамі. На жаль, трэба паўтарыць яшчэ раз, бо ў паўночнай Беларусі наўрад ці ёсьць яшчэ дубовы дрэвастан такой якасьці і абшару як Камова Старана. Гэтае вурочышча, маючы гаспадарчае значэньне, павінна было-б разглядацца яшчэ і як помнік прыроды, а значыць і карыстацца адпаведнаю аховаю.

Зельнае акрыцьцё дзякуючы выпасу, а таксама і гушчыні дрэвастану, рэдкае. Даю тут два сьпісы яго, зробленыя ў розныя часы і пры розных умовах—пад выпасам (I) і нечапанага (II)[2]).

I.

Melampyrum nemorosum—Браўка гаёвая.
Ajuga reptans—Гарлянка паўзучая.
Carex goodenowii—Асака звычайная.
Ranunculus acer—Казялец востры.
Circaea alpina—

[1]) Вышыня, стычнасьць карон і г. д. тут (і далей) падаены навока.

[2]) Апісаньне нечапанага выпасам акрыцьця зроблена ўлетку 1926 году М. А. Зьбіткоўскім і зьмешчаны тут за яго ветлым дазволам.

Pimpinella saxifraga—Бядрынец каменяломнік.
Pedicularis palustris—Увярэднік балотны.
Mentha arvensis—Мята палявая.
Clinopodium vulgare—Вырачка звычайная.
Stachys silvatica—Чысьцік лесавы.
Stellaria nemorum—Зоркаўка гаёвая.
Campanula patula—Званкі лугавыя.
Festuca gigantea—Мурожніца вялікая.

II.

Glechoma hederacea—Плюшчык звычайны.
Asperula odorata—Дзерачка пахучая.
Stellaria Holostea—Зоркаўка вялікакветная.
Poa nemoralis—Мятлюжок гаёвы.
Trifolium sp.—Дзяцеліна.
Viola sp.—Браткі.
Mentha arvensis—Мята палявая.
Hypericum perforatum—Сьвятаяньнік дзіркаваты.
Paris quarifolia—Мудранка чатырохлістая.
Deschampsia caespitosa—Вострыца дзёрнавая.
Carex leporina—Асака заячая.

Агульныя для абодвух сьпісаў расьліны ёсьць: Брунэлька звычайная (Brunella vulgaris), суніца звычайная (Fragaria vesca), майнік двухлісьцёвы (Majanthemum bifolium), Пад'алешнік эўропейскі (Asarum europaeum), Пралеска Трыпадзельная (Hepatica triloba) Кісьліца звычайная (Oxalis Acetosella), трапечнік эўрапейскі (Sanicula europaea), крапіва рознапнёвая (Urtica dioica).

У невялікіх і плыткіх зьніжэньнях, якія маюць выгляд перасохлых лужынак, раскіданых зрэдзь па ўсім лесе, звычайна ў засені, растуць: Lycopus europaeus, незабудка балотная (Myosotis palustris), лагоўка сьцялуха (Lysimachia Nummularia) і, нават, Alisma Michaletii ды белакапытнік балотны (Calla palustris). У засені навакол гэтых лужын густыя плямы Phegopteris Dryopteris, зрэдка петрыкоўка жоўтая (Impatiens Noli tangere) і крапіва рознапнёвая (Urtica dioica). Па беразе воз. Бярозаўскага навакол карчоў альшыны нярэдка трапляецца гарыца вузлаватая (Sagina nodosa). Імшанае акрыцьцё прадстаўлена нячастымі плямамі Polytrichum strictum, Polytrichum commune і іншых зялёных імхоў, пераважна пры камлёх дрэваў.

Па тарфяністым нізкім лузе, які знаходзіцца перад дубровай каля пас. Малінаўкі, у кірунку ад в. Ягадкі на р. Турасянку праходзіць канава, моцна зарослая тваньню (цінаю) і балотнымі ды вадзянымі расьлінамі: шальнік Alisma Michaletii, белакапытнік балотны Calla palustris, хвошч Equisetum Heleocharis, балотнік Heleocharis palustris, плюшчэй просты Sparganium simplex, жабнік звычайны Hydrocharis Morsus ranae, казялец Ranunculus circinnatus, плывунец Utricularia intermedia, раска Lemna trisulca, Nitella sp.

На заходнім беразе дубовага лесу, на сенажаці і ў хмызьняку, складзеным з бярозы (Betulla pubescens, B. verrucosa) і некалькіх відаў лазы (Salix), перавітых дзе-ні-дзе хмелем ды пераплеценых ажынаю (Rubus caesius), зарэгістраваны: у хмызьняку—Scutellaria galericulata, геранія балотная Geranium palustre, зоркаўка балотная Stellaria pa-

lustris, маруна балотная Galium palustre, радзей дзядок звычайны Agrimonia Eupatoria, пылюшнік вузкалісьцёвы Thalictrum angustifolium, і на сенажаці — лісахвост каленкаваты, Alopecurus geniculatus, дрыжнік сярэдні Briza media, падвей шыракалісты Eriophorum latifolium, хвошч Equisetum palustre, валошка лугавая Centaurea Jacea, вятроўнік вязалісьцёвы Filipendula Ulmaria, мечнік Gladiolus imbricatus; на крыху ўзвышанай, ад самага лесу, мясьціне крываўнік звычайны— Achillea Millefolium, званец вялікі Alectorolophus major, іскаркі звычайныя Dianthus deltoides і травы (gramineae) ў вэгетацыйным стане.

II. 26. VII. 1928. Нізкі, мокры бераг воз. Крывога проці левага канца пас. Малінаўка, густа парослы нізкім (найвышэйшыя экз. да 2,5 м) куставатым бярэзьнікам. Кусты бярозы (Betula pubescens) растуць вельмі густа (стычнасьць ад 0,8 да 1,0), але трапляюцца і невялікія травяна-асаковыя скошаныя прагалы; ровень гэтых прагалаў звычайна яшчэ ніжэйшы за агульны. На меншых, няскошаных, прагалах—сьляды выпасу коньмі.

Як дамешка да асноўнае пароды сустракаецца бяроза гузаватая Betula verrucosa, нізкія (1 м) кусьцікі Alnus glutinosa, бяроза ніцая Betula humilis, некалькі відаў лазы (Salix rosmarinifolia, S. cinerea, S. triandra ды інш.). У самым бярэзьніку асабліва значная дамешка лазы, а паўзьбераг возера—алешыны. На рэдкіх вышэйшых мясьцінках, што маюць характар купін, разам з бярозаю трапляюцца адзінкавыя экзэмпляры елкі, хвойкі і нават ялаўцу. У зельным акрыцьці пераважаюць асокі (Carex panicea, C. goodenowii, C. flava, C. rostrata) і сіт (Iuncus lamprocarpus). Пад кустамі, дзе сушэй, растуць званкі аднабокія Campanula ranunculoides, хвошч лугавы Equisetum pratense, сьвятаяньнік чатырохбочны Hypericum quadrangulum, мята Mentha austriaca, мяжоўка цімафейка Phleum pratense, дуброўка лесавая Potentilla Tormentilla ды інш. На макрэйшых месцах, паміж кустамі,—бабок Menyanthes trifoliata, маруна багнавая Galium uliginosum, лотаць балотны Caltha palustris, Comarum palustre, хвошч Equisetum palustre, шальнік Alisma Michalettii, Lycopus europaeus, Scutellaria galericulata.

Імшанае акрыцьцё з вялікіх лапікаў і густых плям, а месцамі і суцэльнае, складзена з розных зялёных імхоў, пераважна Pleurozium Schreberi, Polytrichum strictum. У кірунку на поўдзень (уздоўж берагу возера), разам з павышэньнем рэльефу бярэзьнік пераходзіць у наступную групу згуртаваньняў.

III. 26-27. VII. 1928. Бераг возера Крывога проці пасёлку Малінаўка. Адхонны паўднёва-ўсходні схіл з роўным мікрарэльефам; месцамі, мэтры на 2 ад вады, крутыя мэтравыя (у вышыню) зрывы. Схіл гэты парос густым зарасьнікам, склад якога ў кірунку з поўначы на поўдзень мяняецца: спачатку ідзе маленькі вучастак амаль чыстае і вельмі густое ляшчыны (Corylus Avellana), а далей ляшчына паступова ўступае месца бярозе (Betula verrucosa) з моцнаю дамешкаю асіны, алешыны (Alnus glutinosa і A. incana), крушыны (Rhamnus Frangula). Дзе-ні-дзе, асабліва вышэй па схілу, раскіданы рэдкія пні ад сьсечаных елак і радзей дубоў. Даволі часта можна спаткаць дубкі і дубовую порасьць ад пнёў; трапляюцца хвойкі і елкі, заўважаны адзінкавыя клён і ялавец. Алешына і крушына трымаюцца ніжэй да берагу, а вышэй—хвойка, асіна.

Гушчыня зарасьніку 0,9—1,0. Вышыня 6-7 мэтр. Апроч асноўнага,— ніжэйшага дрэўнага паверху няма. У зельным акрыцьці можна ўстанавіць падзел на два, а месцамі і на тры паверхі: у І-м—Asplenium

Filix femina, салата дзікая Lactuca muralis, залозьніца вузлаватая Scrophularia nodosa, трапечнік эўропейскі Sanicula europaea, званок аднабокі Campanula ranunculoides, сьвятаяньнік чатырохбочны Hypericum quadrangulum, панікніца Geum rivale, званкі вялікакветныя Campanula persicifolia, маркоўнік лесавы Anthriscus siloestris, сьнітка звычайная Aegopodium Podagraria; II-і паверх—ключыкі лекавыя Primula officinalis, мудранка чатырохлісьцёвая Paris quadrifolia, лантуш майскі Convallaria majalis, майнік двохлісьцёвы Majanthemum bifolium, суніцы звычайныя Fragaria vesca, браткі Viola canina, гарлянка паўзучая Ajuga reptans, брунэлька звычайная Brunella vulgaris, рагавінка звычайная Cerastium triviale, адзінкавыя экз. чарніцы Vaccinium Myrtillus. На сьвятлейшых месцах—па прагалах, на краёх—дамешваецца значная колькасьць траў, напр., мятліца белая Agrostis alba (v. genuina), Agrostis vulgaris, пажарніца лесавая Calamagrostis arundinacea, цімафейка Phleum pratense (v. nodosum). У засені, асабліва пад ляшчынаю, зямлю густа акрывае пралеска трыпадзельная Hepatica triloba, творачы як-бы трэці паверх.

Імшанага акрыцьця суцэльнага няма, але плямамі і падушкамі, часам немалымі, трапляюцца розныя зялёныя імхі.

IV. 29. VII. 1928. Ягадзкі Барок. Хваёвы лес на паўвостраве, які шырокім рогам заходзіць у возера Крывое на яго паўночным беразе. Заходні бераг паўвостраву спачатку—ад самае вады—нізкі і заняты чорнаю алешынаю (Alnus glutinosa), далей ад вады да алешыны далучаецца і елка. Мікрарэльеф тут, як звычайна ў алешніках, няроўны: навакол камлёў вольхі ўтварыліся грудочкі занятыя Scutellaria galericulata, Lycopus europaeus, Equisetum sp.; асабліва шмат папараці—Phegopteris Dryopteris. Паміж вольхамі балотныя расьліны — Comarum palustre, бабок Menyanthes trifoliata, Scutellaria galericulata, незабудка балотная Myosotis palustris. Крыху вышэй, там дзе да альшыны дамешваецца елка, у зельным акрыцьці можна ўжо знайсьці такія расьліны як майнік двохлісьцёвы Majanthemum bifolium ды кісьліца звычайная Oxalis Acetosella.

Далей бераг параўнальна адхонна падымаецца на даволі значную вышыню і пераходзіць у роўнядзь, якая на ўсходзе крутым схілам падае ў возера. Абодва схілы і высокая роўнядзь заняты хваёвым лесам. Па заходнім схіле—хвоя вышынёю да 10—15 м з густым хваёвым-жа падростам, да якога дамешаны ялавец і рэдкія бярозкі. Верх роўны, з сухою пескавою глебаю, парослы хвойкаю да 20 м. вышыні. Стычнасьць 0,4-05. Зрэдка, адзінкамі, трапляецца елка. Падлеску няма, ёсьць толькі 2-3-гадовы падрост хвоі, ды рабінкі (Sorbus) вышынёю да 10 см. Зельнае акрыцьцё тут складзена з томкі пахучай Anthoxanthum odoratum, мятліцы звычайнай Agrostis vulgaris, сітніцы валасянай і палявой Luzula pilosa, Luzula campestris var. multiflora, агаткі Antennaria dioica, чабору Thymus Serpyllum var. angustifolium, верасу звычайнага Calluna vulgaris, суніц Fragaria vesca, вэронікі лекавай Veronica officinalis, чарніц Vaccinium Myrtillus, брусьніц V. Vitis idaea, парушэнца звычайнага Chimaphila umbellata. На палянках—рослыя папараці экз. Pteridium aquilinum. У імшаным абкрыцьці—Pleurozium Schreberi.

Па ўсходнім схіле расьце густы маладзы хвойнік, які спускаецца да самае вады. Зельнае акрыцьцё тут аднолькавае з тым што і на роўнядзі, толькі значна радзейшае. Ёсьць шмат лысін без аніякае

расьліннасьці, усланых апалымі голкамі. На самым версе схілу, на яго мяжы з роўнядзяй,—дробны густы хвайнячок з рэдкімі бярозкамі. Хвайнячок гэты займае толькі невялікую падоўжную пляму, прыблізна пасярэдзіне ўсходняга берагу паўвострава.

У напрамку на поўнач, у шырокім канцы рогу занятага Ягадзкім Барком трапляюцца асобныя паніжэньні рэльефу і западзіны, дзе над хвойкаю пачынае пераважаць елка. Тут зьяўляецца густы падлесак з елкі і шэрае алешыны. У зельным акрыцьці адбываюцца адпаведныя зьмены: адразу зьнікаюць такія, напр., компонэнты яго як брусьніцы і верас, а іншыя больш ці менш хутка адступаюць перад прадстаўнікамі ялова-мяшанага лесу (кісьлічкаю, чорнагалоўкаю, Veronica Chamaedrys і г. д.) і толькі нямногія як Veronica officinalis, Fragaria vesca, Vaccinium Myrtillus, разьмяшчаюцца незалежна ад рэльефу і з аднолькавым посьпехам займаюць месца ў абодвух згуртаваньнях. Апроч успомненых расьлін у зельным акрыцьці тут растуць: браткі Viola canina, майнік Majanthemum bifolium, зоркаўка гаёвая Stellaria nemorum, Viola mirabilis, Scutellaria galericulata, Polystichum cristatum, панікніца Geum rivale, трыпутнік вялікі Plantago major, крапіва рознапнёвая Urtica dioica.

Лес знаходзіцца пад выпасам.

V. 30. VII. 1928. Баранаўскі Бор. Ён займае абшар паміж вазёрамі Крывое, Палувозера, Ляшно і Жано. Паверхня абсьледванае намі часткі гэтага абшару ўяўляе сабою высокі груд у вялікай луцэ воз. Крывога на ўсходнім яго беразе, з даволі крутымі схіламі да воз. Крывога (на захад) і да воз. Палувозера (па паўдн. ўсход). Увесь груд па краёх парэзаны глыбокімі ярамі ў кірунку да вазёр, верх-жа больш-менш роўны, альбо мае слаба-ўзгоркавы рэльеф. Каля ўсходняга краю леса западзіна—відавочна працяг аднае з лопасьцяй воз. Крывога,—занятая азярцом Ласна. Трапляюцца і меншыя западзінкі, занятыя цяпер сфагнавымі імшарынкамі, што ўтварыліся тут, як відаць, на месцы дробных азярцоў. Лес на грудзе хваёвы, з рэдкімі экзэмплярамі елкі, моцна і няроўнамерна зрэджаны высечкаю. Вышыня хвой і 20 і звыш 20 м, гушчыня 0,4—05. Вялікімі астравамі сустракаюцца вучасткі з рэдкім хваёвым-жа другім паверхам, вышынёю 8—10—12 м. Падлесак густы, з перавагаю ляшчыны; звычайныя ў падлеску ялавец і шэрая вольха, зрэдка трапляюцца асіна і брызьліна (Evonymus verrucosus). Падрост з хвоі і 5-6-гадовае рэдкае елкі раскіданы няроўнымі рэдкімі плямамі рознае велічыні і адзінкавымі экзэмплярамі.

Зельнае акрыцьцё і хмызьнячкі: брусьніцы Vaccinium Vitis idaea, чарніцы Vaccinium Myrtillus, суніцы Fragaria vesca, парушэнец звычайны Chimaphila umbellata, ястрабок калматы Hieracium Pilosella, прыземныя кусьцікі і латкі звычайнага верасу Calluna vulgaris, грушаўніка Pirola secunda, касьцянкі Rubus saxatilis. На большых прагалах і наагул на сонечных месцах разам з зазначанымі растуць бядрынец камняломнік Pimpinella Saxifraga, папараць Pteridium aquilinum, лаганец дзідалісьцёвы Leantodon hispidus, томка пахучая Anthoxanthum odoratum. На высечках трапляюцца ўжо дзяцеліна ральлёвая Trifolium arvense, Moehringia trinervia, маруна праўдзівая Galium verum.

Па схілах характар лесу паволі зьмяняецца і на дне яроў хваёвы бор пераходзіць ужо ў выразны яловы лес. Апісаньне, зробленае на даволі крутым заходнім схіле да воз. Крывога: хвоя вышынёю да 15 м з дамешкаю елкі гэтае-ж вышыні ў стасунку 1 : 5. Гушчыня

0,3—0,4 (зрэджаны высечкаю). Другі паверх рэдкі, з хвоі і елкі ў тымжа стасунку, вышынёю 8—10 м. У падросьце елка і, вельмі рэдка, хвойка. Падлесак густы ляшчыновы з невялікаю дамешкаю шэрае альшыны; трапляецца і ялавец, а таксама нізенькія (10 — 15 см) экзэмпляры рабіны. Зельнае акрыцьцё: брусьніцы Vaccinium Vitis idaea, чарніцы Vaccinium Myrtillus, грушаўнік Pirola secunda, суніцы Fragaria vesca вэроніка лекавая Veronica officinalis, Veronica Chamaedrys, асака звычайная Carex Goodenowii, братаўка лесавая Melampyrum silvestris, Hoodyera repens, зрэдка сьліўшаня многакветная Monotropa hipopitys і, у густой засені пад ляшчынаю, пралеска трыпадзельная Hepatica triloba, падалешнік эўропейскі Asarum europaeum, трапечнік эўропейскі Sanicula europaea, кісьліца звычайная Oxalis Acetosella. Імшанае акрыцьцё густое, пераважна з Pleurozium Schreberi. Спорадычна, найчасьцей каля пнёў, па імху латкамі сьцелецца ліннэя паўночная Linnaea borealis.

Дно яроў занята яловым лесам. Елка з рэдкаю дамешкаю хвоі, да 20 м вышыні, стычнасьць 0,4—0,5. Яловы падрост, таксама з адзінкавымі хвойкамі, да 8 м вышыні. У падлеску шэрая вольха і радзей ляшчына. Зельнае акрыцьцё з кісьліцы звычайнай Oxalis Acetosella, Cyrcaea alpina, гарлянкі паўзучай Ajuga reptans, брунэлькі звычайнай Brunella vulgaris, рагавінкі звычайнай Cerastium triviale, маруны балотнай Galium palustre, блюшчыка звычайнага Glechoma hederacea, выраčкі звычайнай Clinopodium vulgare, казяльца атрутнага Ranunculus acer, званкоў буйнакветных Gampanula persicifolia, крапівы рознапнёвай Urtica dioica, панікніцы Geum rivale, Asplenium Filix femina, мятліцы звычайнай Agrostis vulgaris, асакі звычайнай Carex Goodenowii. Імшанага акрыцьця няма, альбо трапляюцца рэдка раскіданыя дробныя плямкі зялёных імхоў. (Pleurozium Schreberi, Rhytidiadelphus triqueter). Вышэй па даўжыні яру зельнае акрыцьцё паступова пераходзіць у апісанае ўжо для схілаў.

VI. 30. VII. 1928. Берагі азярца Ласна (у Баранаўскім Бары). Ласна ўяўляе сабою маленькае азярцо з моцна забалочанымі берагамі, густа парослымі нізкаю (2-3 м) хвойкаю, бярэзінаю і лазою. З паўднёва-ўсходняга берагу пануе амаль выключна хвойка, на сфагнуме, з тыповымі для сфагнавых імшарх мызьнячкамі—Ledum palustre і Andromeda polifolia. У зельным акрыцьці, паміж купамі сфагнуму і каля самае вады растуць Comarum palustre, бабок Menyanthes trifoliata, лотаць Caltha palustris, Lycopus europaeus, асака зоркавая Carex stellulata, Rhynchospora alba, шэўхцэрыя балотная Scheuchzeria palustris, скрыпень балотны Epilobium palustre, незабудка балотная Myosotis palustris, маруна багнавая Galium uliginosum. Купы сфагнуму густа акрыты русіцаю і журавінамі, трапляецца таксама падвей (Eriophorum vaginatum). Процілеглы паўночна-заходні бераг мае характар вельмі грузкага багна, без сфагнавага акрыцьця (прынамсі там, куды можна было дабрацца). Тут пераважае бяроза (Betula pubescens), таксама нізкарослая, з дамешкаю лазы (Salix rosmarinifolia ды інш.); вельмі густы каля самае вады бярэзьнік гэты далей робіцца радзейшы і мяшаецца з хвоечкамі. У зельным акрыцьці ўспомненыя вышэй балотныя віды (без асаковых) і па краёх, дзе ўжо можна ступіць нагою бяз рызыкі заграэьці вышэй калена,—густая папараць (Phegopteris Dryopteris), якая літаральна акрывае сабою ўсю зямлю.

Самае азярцо па краёх густа зарасло чаротам (Phragmites communis) і асакою (від невядомы, бо дастаць яе было немагчыма, напэўна

Carex hirta, а па вадзе шырокую паласу паўз берагі сьцелюць лісьцё і кветкі жоўтых збаночкаў (Nuphar luteum).

VII. 31. VII. 1928. Берагі азярца Гаўрыленкава. Гэтае азярцо, паложанае ў паўднёва-заходняй луцэ возера Крывога паміж в. в. Горы і Гуські, таксама як і воз. Ласна знаходзіцца ў стадыі інтэнсыўнага зарастаньня. Розьніца паміж імі ў тым, што на Ласьне, акружаным з усіх бакоў лесам, дзеяньне т. зв. закону Клінге выяўлена ня так выразна, тады як Гаўрыленкава—наадварот, уяўляе сабою яркую ілюстрацыю гэтага закону. Зарастаньне, аднак, ідзе тут з поўначы, а не з паўночнага захаду. Я думаю гэта можна вытлумачыць тым, што азярцо ляжыць у лагчынцы, адкрытай з поўначы і зацішанай з захаду грудком, які аддзяляе яе ад воз. Крывога. З гэтае прычыны паўночна-заходнія вятры зьмяняюць, відавочна, тут свой кірунак і дзьмуць з поўначы, уздоўж лагчынкі. Грунтоўна розьняцца гэтыя два азярцы і спосабам зарастаньня: Ласна, якое мае цьвёрдыя, забалочаныя альбо багністыя (з паўднёвага захаду) берагі, зарастае, трэба думаць, зьнізу, ад дна; Гаўрыленкава-ж ад поўначы, скуль ідзе найбольш інтэнсыўнае зарастаньне, замест цьвёрдага берагу мае сфагнавую дрыгву, ужо густа парослую нізкімі (да 3 м.) імшарнымі хвоечкамі—зарастаньне т. зв. сплавіною. Паміж хвойкамі густы зарасьнік з багуна Ledum palustre і Lyonia calyculata; радзей, але ўсё-ж звычайна, трапляецца імшарніца многалісьцёвая Andromeda polifolia. Ня гледзячы на позьні час (31. VII.), некаторыя з кустоў Andromeda яшчэ цьвілі. Па сфагнуму расьце расіца круглалістая Drosera rotundifolia, Oxycoccus palustris і падвей похвісты зрэдка Eriophorum vaginatum.

Дрыгва моцна калышацца разам з хвойкамі пры хадзьбе, але зусім вольна стрымвае цяжар чалавека. Ад цьвёрдага берагу яна аддзелена палоскаю багна, зьверху якога месцамі стаіць вада. Тут расьце балотнае living розначраўе, а па самым краі, там дзе багно пераходзіць у цьвёрды бераг,—чорная тарфяністая стужка незанятая расьліннасьцю.

VIII. 28.VII. 1928. Шырокая паласа сухога пяску абапал дарогі в. Калкі-Мугірына. Пясок гэты відавочна ёсьць алювіяльны нанос колішняга возера, якое займала западзіну, дзе цяпер ляжыць балота Кугонь (абапал рэчкі Ліпенкі, паміж в. Кугонь і дарогаю Калкі-Мугірына). Рэльеф мясцовасьці—раўніна з слабым нахілам на паўднёвы захад. Уся раўніна парасла нягустым ялаўцом і камляватымі нізкімі (2-3 м) хвоечкамі. Зельнае акрыцьцё мае тры, даволі выразна назначныя паверхі. I паверх складаюць мятліца звычайная Agrostis vulgaris, грымотнік пескавы Helichrysum arenarium, дзяцеліна ральлёвая Trifolium agrarium, чабор Thymus Chamaedrys, вобмарак звычайны Jasione montana, быльнік палявы Artemisia campestris, ястрабок калматы Hieracium Pilosella, шчаўе малое Rumex Acetosella, хвошч Equisetum hyemale, купалка вострая Erigeron acer. Усе расьліны падзяляюць плошчу паміж сабою даволі роўнамерна, аднак найбольш характэрныя для гэтага паверху ёсьць Agrostis, Artemisia і Rumex. Агульная вышыня паверху 25—30 см. II паверх вышынёю каля 15 см—верас звычайны Calluna vulgaris, галадок многалетні Scleranthus perennis, Euphrasia tatarica, чабрыца востралісьцёвая Calamintha Acinos, дуброўка серабрыстая Potentilla argentea, крываўнік звыч. Achillea Millefolium. У III паверху пануюць амаль выключна расходнік востры Sedum acre, гладун

гладкі Herniaria glabra і шэры лішай (Cladonia sp.). Вышыня гэтага паверху ня большая за 5 см.

На паўднёвы захад рэльеф паступова паніжаецца, глеба з пескавое замяняецца на супескавую і данае згуртаваньне непасрэдна пераходзіць у наступнае.

IX. 28. VII. 1928. Зарасьнік шэрае альшыны (Alnus incana). Шырокая паласа яго цягнецца паралельна з вышэйапісаным згуртаваньнем (уздоўж дарогі Калкі-Мугірына), займаючы прыблізна да 1 км у даўжыню. Мікрарэльеф роўны, глеба супескавая сухая, далей ад пескавога краю сьвежая, вохкаватая. Зарасьнік вельмі густы (стычнасьць да 1,0), упоперак пабіты вузенькімі сьцежкамі пратаптанымі жывінаю. У сярэдняй сваёй частцы ён складзены з чыстае альшыны; у вузкай палосцы з паўночна-ўсходняга берагу ёсьць нязначная дамешка ялаўцоў, а па паўднёва-заходнім—трапляюцца бярозкі, асінкі, лаза. Расьце зарасьнік адным паверхам, вышыня да 4 м. Зельнае акрыцьцё складаюць мятліца белая Agrostis alba, A. vulgaris, суніцы Fragaria vesca, бядрынец камняломнік Pimpinella Saxifraga, брунэлька звычайная Brunella vulgaris, рагавінка звычайная Cerastium triviale, зоркаўка травяністая Stellaria graminea, маруна звычайная Galium Mollugo, Asplenium Filix femina, Aspidium cristatum, дуброўка лесавая Potentilla Tormentilla, Leucanthemum vulgare, трыпутнік сярэдні Plantago media, дзяцеліна белая Trifolium repens. Зрэдка трапляюцца чарніцы і кісьлічка (Oxalis Acetosella), а па нялічных і невялікіх прагалах—іскаркі звычайныя Dianthus peltoides. Пры сухім паўночна-ўсходнім беразе сустракаецца браткі Viola canina, чабор Thymus Chamaedrys, крываўнік Achillea Millefolium і шчаўе малое Rumex Acetosella, якія заходзяць сюды з папярэдняга згуртаваньня, а на процілеглым краю паласы трапляецца ў адзінкавых экзэмплярах Scutellaria galericulata.

X. 28. VII. 1928. Хмызьнякова-травяное балота (паўночна-ўсходні край балота Кугонь). Роўны ледзь прыкметны схіл заняты папярэдня апісанаю групаю згуртаваньняў, на адлегласьці прыблізна 300—400 м. у заходнім кірунку ад дарогі Калкі-Мугірына, робіць раптоўнае зьніжэньне, нібы прыступку, вышынёю каля 1 м. Альховы зарасьнік папярэдняе формацыі даходзіць да гэтае прыступкі і на верхнім беражку яе адразу абрываецца. Далей ідзе задзярнелая тарфяністая плошча. У кірунку на паўднёвы захад яна вельмі хутка—праз пару дзесяткаў мэтраў—пераходзіць у дужа сырую нізіну пакрытую нятоўстым куп'яватым пластом торфу [1]) і парослую хмызьняком з кустоў чорнае альшыны (Alnus glutinosa) і лазы (Salix cinerea, S. rosmarinifolia і інш.). Купы нероўнае велічыні і няроўнамерна, але даволі густа разьмеркаваныя па ўсёй плошчы хмызьняку, утварыліся, як відаць, у выніку выпасу—навакол кустоў. Гэтая ўмова ўтварэньня куп'я адбілася і на велічыні паасобных купаў, большых пад групамі кустоў і меншых пад адзінкавымі кустамі. Міжкуп'е месцамі моцна здратаванае быдлам, занята балотнымі расьлінамі—белакапытнік балотны Calla palustris, бабок трылісьцёвы Menyanthes trifoliata, Comarum palustris, шальнік трыпутнікавы Alisma Plantago, плюшчэй просты Sparganium simplex, хвошч балотны Equisetum palustre, манна Glyceria plicata, Naumburgia thyrsiflora, касач жоўты Iris Pseudacorus, чальчак звычайны Lythrum

[1]) Тоўшча пласту ня можа цалкам схаваць пад сабою вялікіх ледавіковых накідняў зрэдка раскіданых па балоце. Трэба думаць яна не перавышае тут 1 мэтра.

salicaria, валяр'янка лекавая Valeriana officinalis (V. palustris Kreyer), драсён звычайны Polygonum persicaria, казялец паўзучы Ranunculus reptans, казялец вогнікавы R. Flammula, незабудка балотная Myosotis palustris, трынасеньнік балотны Triglochin palustris да інш. З асок знойдзена толькі Carex flava, якая роўнамерна, але нягуста разьмеркавана паміж іншымі расьлінамі па ўсім міжкуп'і.

Пад кустамі на купах расьце ўжо і лясное зельле: дзягель лесавы Angelica silvestris, Asplenium Filix femina, Circaea alpina, дуброўка лесавая Potentilla Tormentilla. Імшанае акрыцьцё на купах прадстаўлена плямамі розных зялёных імхоў (Acrocladium cuspidatum, Dicranum scoparium, Climacium dendroides і інш.).

На паўднёвы захад хмызьняк зьнікае і далей цягнецца вялікае нізіннае балота Кугонь, якое мы пакінулі неабсьледванае, за недахопам часу.

XI. 22. VII. 1928. Груд [1]) паміж вазёрамі Мугірына і Ліпна, з адхоннымі схіламі да абодвух вазёр, заняты часовым бярэзьнікам з яловым падростам. Асноўная парода ў першым паверсе—Betula verrucosa, да якое дамешана ў значнай колькасьці Alnus incana. Вышыня 9-10 м, стычнасьць 0,7-0,8. У падлеску вольха шэрая Alnus incana, крушына крохкая Rhamnus Frangula, ялавец звычайны Juniperus communis. Знойдзены таксама Alnus pubescens (Alnus glutinosa×A. inkana) і Betula pubescens×verrucosa. Падрост елкі нягусты, вышынёю 1 - 2 м. Зельнае акрыцьцё складзена з званкоў вялікакветных, Campanula persicifolia, мятліцы звычайнай Agrostis vulgaris (і A. vulgaris var. umbrosa), браталка гаёвая Melampyrum nemorosum, вэроніка гаёвая, Veronika Chamaedrys, брунэлька звычайная Brunella vulgaris, званкі лугавыя Campanula patula, гарлянка паўзучая Ajuga reptans, Circaea alpina; на прагалах трапляюцца групы папараці Pteridium aquilinum.

На схіле да воз. Ліпна бярэзьнік займае бераг да самае вады і толькі мае тут гусьцейшы падлесак, а на больш адхонным схіле да воз. Мугірына ён пераходзіць у нягусты хмызьняк з парасьлёвых кустоў Alnus glutinosa, Alnus incana і Betula verrucosa. Паасобныя кусты гэтага хмызьняку, які няшырокаю паласою цягнецца ўздоўж возера, маюць вышыню да 3-4 м. Тут у зельным акрыцьці растуць тыя-ж Agrostis, Melampyrum, Brunella ды інш., і апроч іх—Pimpinella Saxifraga, Potentilla Tormentilla, Leontodom autumnalis, L. hispidus, Ranunculus acer, Hieracium prenanthoides, Trifolium repens, Viola canina.

Хмызьняк гэты, як і ўвесь бярэзьнік, мае сьляды моцнага выпасу быдлам.

XII. 24-25. VII. 1928. Вадзяную расьліннасьць у часе нашае экспэдыцыі абсьледваў спэцыяльна для гэтага вылучаны т. Р. Н. Гацко, які наведаў некалькі вазёр Вульскага раёну [2]). Намі-ж, г. зн. рэштаю батанічнае часткі экспэдыцыі, яна зьбіралася толькі на воз. Крывым і часткова ў драбнейшых стаячых вадазборах-канавах. Плянктону і мікрафітнае расьліннасьці нашыя зборы не закранулі. З рэшты воднае расьліннасьці, дзякуючы экспэдыцыйным умовам найбольш дакладна магла быць абсьледвана расьліннасьць прыбярэжнага поясу, так што

---

[1]) Гэтае слова ужыта тут (і раней) у беларускім яго значэньні, г. зн. узвышэньне, сухі ўзгорак, „гряда“, а ня так як яно ўжываецца ў расійскай батанічнай літаратуры.

[2]) Справаздача аб гэтым дасьледваньні зьмешчана у час. „Наш Край“ № 12 1929 г.—Р. Н. Гацко. Водная расьліннасьць Полацкае акругі.

зона макрафітаў[1]) была закранута вельмі павярхова, альбо наваті зусім не закранута. Абсьледваная ў двух месцах з добра выражанаю зональнасьцю—затока каля пас. Малінаўкі і затока каля воз. Усая—расьліннасьць воз. Крывога дала наступны малюнак. Ад глыбіні 3-4 мэтраў пачынаюцца лёгка прыкметныя ў вадзе нягустыя зарасьнікі ўрэчнікаў—Potamogeton lucens, P. perfoliatus. Найбольшае месца займае тут P. lucens, які расьце астраўкамі чыстага травастану; паміж гэтымі астраўкамі, значна радзей, расьце Potamogeton perfoliatus. З дна тут можна дастаць рагалісьцік жорсткі Ceratophyllum demersum, шышняк каласовы Myriophillum spicatum, Chara sp.

Ад гэтае паласы бліжэй да берагу пачынаецца няшырокая паласа белых і жоўтых збаночкаў (Nymphaea alba, Nuphar luteum), якая адразу пераходзіць у паласу чаротаў. Гэтыя апошнія дзьве паласы рэзкай граніцы паміж сабою часта ня маюць. Звычайна яны зусім зьліваюцца, накладаюцца адна на адну, такім спосабам, што паміж рэдкага трасьнягу (Phragmites communis, Graphephorum arundinaceum, Scirpus lacustris) плаваюць лісты Nuphar luteum (найбольш), Nymphaea alba, урэчнік плывучы Potamogeton natans і, радзей, Polygonum amphibium. Яшчэ бліжэй да берагу ў надводнай расьліннасьці зьяўляецца ў вялікай колькасьці балотнік Heleocharis palustris, Equisetum Heleocharis, манна вадзяная Glyceria aquatica; зрэдка тут трапляюцца Naumburgia thyrsiflora, асака калматая Carex hirta. Часам зарасьнікі гэтых падводных расьлін цягнуцца да самага берагу і непасрэдна пераходзяць у берагавое балотна-воднае living розначтраўе[2]) часьцей-жа яны пакідаюць паміж сабою і берагам стужку чыстай зьверху вады. З падводнай расьліннасьці і расьліннасьці з плывучымі лістамі тут знойдзены разак вадзяны Stratiotes aloides (прымацаваны да дна), урэчнік травяністы Potamogeton gramineus, P. pectinatus, P. 'nitens, драсён вадазёмны Polygonum amphibium, Ranunculus circinnatus. Плывучая расьліннасьць прадстаўлена адным відам—Stratiotes aloides (непрымацаваны да дна).

Зарасьнікі падобныя да апісанага ёсьць толькі ў некаторых, відавочна найплыцейшых затоках, а пераважны працяг берагоў Крывога акром няшырокіх палос чароту альбо маньніку іншай надводнай расьліннасьці пазбаўлены.

Пустазельле ня было ў цэнтры нашай увагі і зборы яго рабіліся толькі паміж іншым, мімаходам. Усяго адзначана 24 віды пустазельных расьлін для пасеваў жыта, 15 відаў для ярай пшаніцы і 30 відаў (сабраных М. А. Зьбіткоўскім) у садзе пас. Леніна (б. маёнтку Турасы). Апроч таго, для ўзьмежкаў, пры дарогах і г. д. на ходу адзначаны расьліны, якія кідаліся ў вочы сваім масавым для данага месца распаўсюджаньнем. Так на ўзьмежку жытняга палетку в. Горы, у луцэ воз. Крывога, занатаваны суцэльны дыван сушніцы балотнай Gnaphalium uliginosum, каля в. Калкі, таксама пры жытнім полі—сіт двохпадзельны Juncus bufonius, на многіх межах і пры дарогах—крываўнік звычайны Achillea Millefolium. Спыняе ўвагу поўная адсутнасьць цыкорыі (Cichorium Intybus), звычайна так паўсюднае для прыдарожнага пустазельля расьліны.

---

[1]) Паводле падзелу В. Н. Сукачова—„Болота, их образование развитие и свойства“ Лнг. 1926. ст. 23.

[2]) У гэтым рознатраўі трэба адзначыць—Alisma, Comarum, цыкута Cicuta, бянцушнік Butomus ды інш.

З жытняга пустазельля асабліва распаўсюджаны кгірса (Bromus secalinus), мятла (Apera Spica venti), валошка (Centaurea Cyanus) і на нізкіх месцах, там дзе вымакла жыта—драсён (Polygonum tomentosum). Заслугоўвае на ўвагу шырокае і масавае распаўсюджаньне кгірсы. Гэтую расьліну можна сустрэць на кожным жытнім палетку Вульскага і Вушацкага раёнаў [1]), прычым месцамі яна зусім глушыць жыта. У пас. Малінаўка мне давялося пачуць вядомы пераказ аб тым, што жыта можа перарадзіцца ў кгірсу. Праўда, гэта ўжо не перадаецца ў катэгорычнай форме, а хутчэй як пабаска (прыблізна так—„невядома ці праўда, а кажуць што як год выпадзе: калі пасеяць на благой зямлі жыта, а будзе яшчэ кепская пагода—няўчасны дождж, суша,—вырасьце кгірса. А ўдалым годам ды на добрай зямлі і з кгірсы жыта парасьце"). На ніжэйшых месцах, напр. там, дзе поле мяжуецца з сенажацяй, жыта няменш моцна засьмечана мятлою.

У ярай пшаніцы [2]) галоўным пустазельлем зьяўляюцца рамонак (Matricaria inodora і M. suaveolens), зябрэй (Galeopsis Tetrahit, радзей G. speciosa), драсён павойны Polygonum convolvulus. У адным выпадку (пасевы в. Калкі) назіралася страшэнная засьмечанасьць палоскі лёну валошкаю, так што здалёк здавалася быццам лён цьвіце надзвычайна яркім колерам.

Падагульняючы апісаньні, паданыя вышэй можна ўстанавіць, што яловыя і ялова-ліставыя лясы, якія зьяўляюцца для паўночнае паловы Беларусі прыродным расьлінным акрыцьцём, захаваліся тут на зусім нязначных плошчах. Памінаючы хмызьнякі, балоты і алешнікі большая частка ўсяе лясное плошчы прыпадае на хваёвыя ды хваёва-яловыя лясы, якія займаюць вярхі ўзгоркаў з беднаю вымытаю глебаю і іх схілы. Паказальным для парадку разьмеркаваньня расьліннасьці залежна ад рэльефу зьяўляецца Ягадзкі Барок (апіс. IV), дзе на невялікім абшары мы маем яркі прыклад зьмены алешыны на хваёва-яловы і далей на чыста-хваёвы лес. Рэшткі-ж яловых лясоў, разам з часовымі формацыямі ўзьніклымі пасьля іх, займаюць меншае месца (апіс. XI, дно яроў у Баранаўскім Бары—апіс. V.). Прычыны гэтай зьявы тлумачацца В. Палянскаю ў цытаваным ужо артыкуле так—„сугліністыя і супескавыя глебы з-пад ялова-ліставога лесу болей здатны для с/г. культур чымся пескавыя глебы хваёвых бароў; дзеля гэтага апошнія былі эксплёатаваны, галоўным чынам, на драўніну і пасьля ўзнаўляліся ў выглядзе лясной плошчы; яловыя-ж лясы ня толькі высякаліся, але і выцярэбліваліся пад ворную зямлю, абяртаючыся такім чынам у поле [3]).

Што да ўстанаўленьня групы яловых згуртаваньняў, як пачатковых, на месцы якіх утварыліся цяперашнія згуртаваньні часовага складу (апіс. XI), так і цяперашніх, дык вядома, што па матар'ялах колькідзённага далёка няпоўнага экспэдыцыйнага абсьледваньня цяжка сказаць што-небудзь азначанае. Аднак, некаторыя даныя дазваляюць меркаваць, што яны належаць да Piceaetum hulocomiosum (паводле клясыфікацыі праф. Сукачова) [4]). Гэтыя даныя ёсьць: добра разьвіты рэльеф і наяўнасьць паказчыкаў успомненае групы ў зельным ды ім-

---

[1]) Едучы дарогаю з м. Вушач да пас. Малінаўкі—прыблізна 30 км—ня было заўважана літаральна ніводнай вольнай ад гэтага пустазельля палоскі жыта.

[2]) Збор зроблены толькі ў адным месцы—пасевы пас. Малінаўка на паўночна-заходнім схіле грэбеню, які аддзяляе воз. Крывое ае вур. Камова Старана.

[3]) О. Полянская. Расьліннасьць Віцебск. акр. Мат. да вывуч. флёры і фаўны Беларусі, т. II. Менск 1928.

[4]) В. Сукачев. Краткое руководство к исслед. типов лесов. Москва 19:7.

шаным акрыцьці — кісьліца звычайная Oxalis Acetosella, Circaea alpina, Rhytidiadelpus triqueter, Pleurozium Schreberi.

Хвайнякі (апіс. IV, V.) можна, таксама ўмоўна, аднесьці да групы Pineta hylocomiosa, прычым найбольш даных гаворыць за тып Pinetum vacciniosum (сухія ўзгоркі, багацьце на брусьніцы Vaccinium Vitis idaea, парушэнец звычайны Chimaphila umbellata, травы (Gramineae).

Зусім асобна стаіць Дуброва ў вуроч. Камова Старана. Рэшту абсьледванай плошчы займаюць балоты, хмызьнякі і пясок (апіс. VIII.).

З флёрыстычнага боку абсьледваны раён нічога асабліва цікавага ня даў [1]).

На заканчэньне даю некалькіх мясцовыхназоваў расьлін. Назовы гэтыя і спосабы ўжываньня расьлін запісаны пераважна ў пасёлку Малінаўка, Зарэчанскага с/с (на беразе воз. Крывога).

1. Bromus secalinus L. Кгірса.
2. Calla palustris L. Бабоўнік. Кормяць сьвіней.
3. Carum Carvi L. Кмень. Кладзецца ў хлеб і кілбасы (в. Лявонаўшчына Вушацкага р.).
4. Chimaphila umbellata Nutt. Надсаднік. Як надарвецца чалавек— п‘юць настоенае на гарэлцы, альбо гатаванае.
5. Equisetum hyemale L. Хвошч. Адвар як мачагоннае.
6. Euphorbia helioscopia L. Прорва. Гатаваная (сушаная і сьвежая) як слабіцельнае.
7. Hepatica triloba gilib. Незабудка.
8. Inula Helenium L. Дзевясіл. Вараны корань патоўчаны з „сінім каменем“ ужываецца ад кароcты (пасада лясьніка ў вуроч. Камова Старана).
9. Iris Pseudacorus L. Конскія гуркі.
10. Menyanthes trifoliata L. Казіны бабоўнік.
11. Nuphar luteum Sm. } Гарлачкі.
12. Nymphaea alba L. }
13. Salix rosmarinifolia L. Ніцая лаза. Сушаны ліст параць і прыкладаюць да скулы. Калі піць—таксама памагае (!).
14. Stratiotes aloides L. Казлы. Зімою дастаюць з возера сьвіньням на „ахрап‘е“ (корм).
15. Typha latifolia L. Мячэўнік.
16. Vaccinium uliginosum L. Галабо́нь, галубо́нь,

---

[1]) Варта ўспомніць толькі пра звычайную тут Sanicula europaea, расьліну распаўсюджаную ад Віленшчыны (Зеленцов—Очерк климата и флоры Виленской губ. Асобны адбітак з Scripta Botanica, т. III) да Башкірыі (Талиев—Опред. раст. Европ. части СССР) каторая лічыцца О. Полянскаю як вельмі рэдкая для яловых лясоў Віцебскае акругі (О. Полянская. Расьліннасьць Віцебск. акр—Мат. да вывуч. флёры і фаўны Беларусі т. II).

# ХРОНІКА.

## Да ўсіх краязнаўчых арганізацый БССР і паасобных краязнаўцаў.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук нядаўна атрымала ад Цэнтральнага Навукова-Дасьледчага Інстытуту харчовай і с.-г. прамысловасьці просьбу дапамагчы Інстытуту ў вельмі актуальнай у наш час проблеме адшуканьня новых крыніц для народнага харчаваньня. Друкуючы ніжэй дасланую Інстытутам заметку аб вывучэньні і скарыстаньні дзікай расьліннай сыравіны, а таксама інструкцыю для зьбіраньня і дасылкі ўзораў ягад ЦБК просіць усе краязнаўчыя арганізацыі і паасобных краязнаўцаў дапамагчы Інстытуту шырока разгарнуць дасьледчую працу ў гэтым напрамку.

### Аб дзікай расьліннай сыравіне.

Цэнтральны Навукова-дасьледчы Інстытут харчовай і с.-г. прамысловасьці, разгортваючы шырокую працу па арганізацыі навукова-дасьледчых вышукаў, лічыць асноўным сродкам узвышэньня эфэктыўнасьці сваёй чыннасьці—самую шчыльную сувязь з краязнаўчымі арганізацыямі, прамысловасьцю, дасьледчымі станцыямі і іншымі аналёгічнымі ўстановамі. З другога боку шмат такіх арганізацый, з якімі мы ўжо зьвязаліся ў працы, сьцьвярджаюць, што ў памянёным Інстытуце яны знайшлі цэнтральную навукова-дасьледчую ўстанову, акая яднае, стымулюе ўсю працу, якая ў далейшым будзе яшчэ больш расьці ў сувязі з ростам усяе народнае гаспадаркі і посьпехам краязнаўчых арганізацый і іншых навуковых установ.

У сучасны момант у сваім імкненьні адшукаць новыя крыніцы харчовай сыравіны, Інстытут ставіць перад сабой шэраг пытаньняў, якія зьвязаны з вывучэньнем, пераапраўкай і ўтылізацыяй дзікай расьліннай сыравіны (ягады, арэхі, грыбы).

Для прыкладу пакажам прынамсі на ўсім вядомыя брусьніцы ці журавіны. Досыць падкрэсьліць, што Амэрыка штогодна мае ў арганізаваным звароце больш за мільлён гарнцаў, а СССР зьбірае нязначную колькасьць параўнальна з тымі вялікімі багацьцямі тых самых журавін, якія растуць далёка на поўнач. Яшчэ менш увагі зьвяртаюць на такую каштоўную ягадную сыравіну, як абляпіха, княжаніха (касьцяніцы) і інш.

Другі прыклад арэх, які расьце ў нас толькі ў дзікім стане. Адзіны клопат насяленьня толькі ў тым, каб абагнаць свайго суседа ў зрываньні плоду і часта плоду нясьпелага.

Трэці прыклад—наша грыбное багацьце. Нават пры мінімальна-арганізаваным зборы і пераапрацоўцы яго наша народнае харчаваньне можна значна ўзбагаціць азотавымі матар'ялами.

Уся гэтая сыравіна мае вельмі вялікае значэньне для конфітурнай, консэрвовай, безалкогольнай прамысловасьці і для вырабу фарбаў, этэрных маслаў, якія маюць вялікі попыт на сыравіну.

Дзікія ягады, арэхі і грыбы, якія ў значнай колькасьці зьбіраюцца насяленьнем, галоўным чынам для непасрэднага спажываньня ці продажы на мясцовых рынках, у яшчэ непараўнальна большай колькасьці зусім губляюцца з прычыны адсутнасьці правільна арганізаванай нарыхтоўкі і пераапрацоўкі гэтай вельмі каштоўнай сыравіны. Тым ня менш правільная пастаноўка гэтай справы ў СССР дала-б магчымасьць ня толькі задаволіць вялікі попыт на нашым унутраным рынку, але і скарыстаць памянёную сыравіну і яе продукты для пераапрацоўкі ў экспортных мэтах.

Цэнтральны Навукова-дасьледчы Інстытут харчовай і с.-г. прамысловасьці, робячы шэраг экспэрымэнтаў з дзікімі ягадамі, арэхамі і грыбамі, на жаль у сваёй чыннасьці мае вельмі абмежаваную колкасьць узораў патрэбнага матар'ялу, у той час як для больш-менш поўнага вывучэньня пытаньня неабходна мець выстарчальную колькасьць матар'ялаў з разных раёнаў СССР.

Інстытут просіць дапамагчы яму ў гэтай вялікай працы, дасылаючы матар'ялы для досьледаў, даючы заўвагі, пры магчымасьці дасылаючы па гэтаму пытаньню і літаратуру, якую выдалі мясцовыя арганізацыі.

Інстытуту таксама вельмі важна будзе ведаць, якая колькасьць сыравіны ёсьць у пэўным раёне (хоць і орыентовачна), якая колькасьць утылізуецца на мясцох і якім чынам (спосабы апрацоўкі). Пажадана было-б. каб мясцовыя організацыі паказалі на асоб, якія Інстытуту ў гэтых адносінах зрабілі-б магчымую дапамогу.

Уся гэтая праца можа быць выканана толькі пры самых уважлівых адносінах і поўнай дапамозе мясцовых краязнаўчых організацый. На гэта Інстытут мае поўнае права разьлічваць.

Інстытут прапануе інструкцыю па зборы і загатоўцы ягад і грыбоў, чым трэба карыстацца для захаваньня матар'ялаў ад псаваньня.

Арэхі можна дасылаць без папярэдняй апрацоўкі.

Матар'ялы просьба дасылаць паштовай пасылкай па адрасу: Москва, Китайгородской проезд, здание Политехнического музея № 18, Центральному Научно - Исследовательскому Институту пищевой и с. х. промышленности, т. 3—93—28.

Дырэктар Інстытуту *Я. Пазнанскі.*

**Інструкцыя па загатоўцы ўзораў ягад для досьледаў.**

1. Сабраныя сьвежыя ягады ці фрукты зусім сьпелыя, але не перасьпелыя, адлічаюцца ад пабочных дамешак-лісьцейка, галінак, сьмецьця і г. д.

2. Трэба ўзяць звычайныя бутэлькі з-пад віна, лепш белага шкла (бутэлькі з-пад гарэлкі ня варта браць), і добра прамыць варанай цёплай вадой, затым перавярнуць горлам уніз і ў гэткім выглядзе трэба пакінуць на некаторы час, каб бутэлька ўсяродку была зусім сухой.

3. Адабраныя ягады зьмяшчаюцца ў вымытыя, чыстыя, сухія бутэлькі (напаўняюць ягадамі да горла), зачыняюць добра коркамі, якія завязваюць вяроўкамі ці тонкім дротам, так як звычайна робяць пры вырабе квасу.

4. Добра задзеланыя бутэлькі ставяць у вядро, у доньні якога кладзецца тоўшч саломы, каб бутэлькі не датыкаліся доньня вядра. Пасьля гэтага ў вядро ліецца вада, каб усе бутэлькі схаваліся ў ёй.

5. Вядро, напоўненае вадой і бутэлькамі, павольна награваецца, покуль вада ня дасьць пары. Тады слабае параваньне падтрымоўваецца яшчэ 20—30 хв.

6. Затым вядро ахалоджваюць, бутэлькі выймаюць, а коркі заляпляюць лякам.

7. Нарыхтаваныя такім чынам ягады можна захоўваць і дасылаць для досьледаў.

8. Кожнага ўзору ягад трэба зарыхтаваць паказаным спосабам ня менш 2 бут.

9. З прычыны няроўнай шчыльнасьці шкла бутэлькі іншы раз лопаюць пры нагрэве ў вадзе. Гэта трэба мець на ўвазе, а таму кожны ўзор лепш рыхтаваць адразу ў некалькіх бутэльках. У лопнуўшай бутэльцы продукт вельмі хутка псуецца.

Увага: Буйныя плады трэба парэзаць, каб можна было імі напоўніць бутэльку.

*Н. Сабураў.*

## Краязнаўчая праца ў Смаленшчыне ў 1928 годзе.

У 1928 г. на тэрыторыі Смаленскай губ. існавала, апрача Дзяржаўнага Музэю і некаторых таварыстваў Унівэрсытэту, якія часткова вядуць краязнаўчую працу, дзьве губэрскія краязнаўчыя організацыі: Т-ва па вывучэньню прыроды Смаленскага краю і Т-ва Краязнаўства і пяць павятовых: Бельскае Т-ва краязнаўства і 4 аддзяленьні Смаленскага Т-ва краязнаўства: у Вязьме, Сычоўцы, Дарагабужы і Ярцаве. З прычыны адсутнасьці вестак аб дзейнасьці Т-ва па вывучэньню прыроды, мы будзем гаварыць толькі аб працы Смаленскага Т-ва Краязнаўства і яго аддзяленьняў. Праца Т-ва за 1928 г. выявілася ў наступным. 1928 г. ёсьць трэці год існаваньня Т-ва. У гэтым годзе Т-ва Краязнаўства вяло як організацыйную, так і навукова-дасьледчую і культасьветную працу па пляну, зацьверджанаму агульным сходам. Першачарговымі задачамі Т-ва ў організацыйным напрамку былі: уцягненьне новых сяброў, стварэньне новых краязнаўчых організацый, удзел Т-ва ў компаніях як палітычных, так і культасьветных, у пашырэньні і замацаваньні сувязі з існуючымі ўжо на тэрыторыі губэрні краязнаўчымі аб'яднаньнямі, у падтрыманьні іх як у навукова-мэтодычным, так і організацыйна-адміністрацыйным напрамку, у імкненьні да навуковай сувязі з мясцовымі і цэнтральнымі навуковымі ўстановамі і організацыямі. Конкрэтна з гэтых задач зроблена наступнае: да ўдзелу ў працы ўцягнуты шэраг новых краязнаўцаў, пераважна прыродазнаўцаў. Організаваўся краязнаўчы гурток у паказальнай Ізьдзешкаўскай вол. Вяземскага павету і ў канцы 1928 г. пачало працаваць Ярцаўскае аддзяленьне. З гэтымі краязнаўчымі організацыямі Т-ва падтрымлівала больш-менш рэгулярную сувязь пісьмовую і пэрсональную праз членаў Смаленскага Т-ва, якія выяжджалі ў аддзяленьні і членаў аддзяленьняў, якія наведваліся ў Смаленск. Апрача гэтага, у Ізьдзешкаве была організавана валасная краязнаўчая конфэрэнцыя, на якую Смаленскае Т-ва камандыравала свайго прадстаўніка т. В. Р. Тарасенку.

На працягу 1928 г. Т-ва некалькі раз рабіла спробы організацыі Мясцовага Бюро для працы сярод моладзі, між іншым мелі на ўвазе організаваць у пажаданым напрамку пры ўдзеле комсамольскіх і профсаюзных організацый, турызм, што ня мела посьпеху,

прычынай чаму была тая напружаная абстаноўка, у якой праходзіла жыцьцё ўсіх Смаленскіх організацый і ўстаноў летам 1928 г.

Навукова-дасьледчая дзейнасьць была як у сэкцыях, так і ў індывідуальным парадку. Усіх сэкцый, як і ў папярэднім годзе, было пяць: экономічная, гістарычная, этнографічная, прыродна-гістарычная, археолёгічная і бібліографічная камісія. Праца сэкцый заключалася ў колектыўнай выпрацоўцы пляnaў, програм, у зьбіраньні розных матар'ялаў па экономіцы, сысунрх, іхтыофаўне, энтомолёгіі і батаніцы краю. Вяліся фэнолёгічныя нагляданьні. Разам з гэтым організавана прыродна-гістарычнае аддзяленьне ў Рачаўскім Музэі. Апрача гэтага зьбіраліся этнографічныя матар'ялы матар'яльнай і духоўнай культуры. Рабіліся замалёўкі і фотоздымкі будоў, вопраткі, прылад вытворчасьці і г. д. Археолёгічная сэкцыя дэтальна абмеркавала пытаньне аб спосабах сапраўднай аховы археолёгічных помнікаў у Смаленскай губ. шляхам перадачы іх з прыватнага карыстаньня ў дзяржфонд, але, на жаль, з тэхнічных прычын, гэтае мерапрыемства ў бягучым годзе праз адпаведныя органы ўлады правесьці не ўдалося. Як і далей, ішло зьбіраньне матар'ялаў для археолёгічнай карты. Дасьледвана 5 гарадзішч у межах Красьнінскай воласьці і 1 гарадзішча ў Ізьдзешкаўскай вол. (зьняты пляны, зроблены замалёўкі, фотографіі). Апрача гэтага, атрыманы папярэднія матар'ялы з узорамі культур яшчэ ад 4 недасьледваных да гэтага часу гарадзішч Вяземскага павету. Выкрыты сьляды нядоўгай стаянкі на р. Уфіньне Хахлоўскай вол. Дасьледваны 2 гарадзішчы ў Ельнінскім павеце і 1 нэолітычная стаянка ў Дарагабускім павеце. Зьбіраліся матар'ялы па гістарычна-рэволюцыйнаму руху ў губэрні. Бібліографічная камісія апісвала працы, датычныя мясцовага краю, за год запоўнена 500 картак. Апрача гэтага, была зроблена адна экскурсія ў Катынь, Хахлоў і Красны. Яна цягнулася тыдзень і мела культурна-гістарычны характар, у ёй прынялі ўдзел 3 сябры Т-ва: В. Р. Тарасенка, Г. В. Парфёнаў і В. Гадоўкін. У часе экскурсіі зроблены замалёўкі будоў, рэчаў хатняга ўжытку, запісана некалькі песьняў, прыпевак,сабраны шэраг гістарычных докумэнтаў, дасьледвана 5 гарадзішч. Увесь матар'ял, які сабралі, перадалі ў Рачаўскі музэй. Экскурсія адбылася на ўласныя сродкі ўдзельнікаў і толькі Дзяржмузэй даў невялікае грашовае падтрыманьне. Індывідуальныя працы вяліся ў галіне зьбіраньня матар'ялаў і ў навуковай іх апрацоўцы. Некаторыя апрацаваныя тэмы былі зачытаны ў форме дакладаў на адчыненых сходах. У 1928 г. было заслухана 12 дакладаў і інформацый:

1. В. Р. Тарасенка—Археолёгічныя разьведкі гарадзішч у Смаленскім павеце ў 1926-27 г.

2. І. М. Хозаравым—Аб першапачатковай афарбоўцы Смаленскай сьцяны.

3. В. М. Архангельскім—Аб матар'ялах экспэдыцыі 1927 г. па Дарагабускаму павету.

4. В. І. Грачовым—Новыя даныя з біографіі М. І. Глінкі. Некаторыя даныя з біографіі М. К. Цэбрыкавай. Два прадапошнія Смаленскія губарнатары.

5. Г. В. Парфёнавым—Аб выніках 2 выставак Рачаўскага Музэю.

6. В. М. Архангельскім—Навуковыя задачы ў зьбіраньні гутарак.

7. Е. М. Варанцовым—Іхтыофаўна Смаленскай губ. і яе экономічнае значэньне.

8. В. В. Дзьмітрыевым—Аб 3 Усерасійскай Краязнаўчай Конфэрэнцыі. 10 год этнографічнай працы ў Смаленскай губ. (1917—1927 г.).

9. І. І. Русаковым—25-годзьдзе Смаленскага Прыгараднага Пажарнага Т-ва.

Апрача гэтага ініцыятывай Т-ва супольна з Т-вам вывучэньня прыроды і Т-вам дактароў было організавана ўрачыстае пасяджэньне, прысьвечанае 40-годзьдзю сьмерці Н. М. Пржавальскага, на пасяджэньні было зроблена некалькі дакладаў. З іншых выяўленьняў навукова-дасьледчай працы Т-ва трэба падкрэсьліць працу Рачаўскага Музэю. Праца была наступная: вялося вывучэньне быту Рачаўкі, але адсутнасьць матар'яльных рэсурсаў ня дала магчымасьці шырака разгарнуць гэтую працу і было організавана 6 выставак. Першая выстаўка была організавана на тэму „Рачаўка ў мінулым". Яе наведала 1114 чалавек. У часе антыьвялікоднай кампаніі Музэй організаваў 2 выстаўку. Трэцяя выстаўка была прысьвечана 25-гадоваму юбілею Смаленскага Прыгараднага Пажарнага т-ва. Гэтая выстаўка была адчынена з 1 мая па 1 чэрвеня, яе наведала 1368 чалавек. Чацьвертая выстаўка была на тэму „Рачаўка ў мінулым і сучасным". Яе наведала 3042 ч. Пятая выстаўка была на тэму „Дзеці Рачаўкі". Плян выстаўкі быў усебакова абмяркован супольна з прадстаўнікамі розных устаноў і організацый. Бібліотэка знайшла адпаведную літаратуру і організавала кніжную выстаўку. У часе выстаўкі намячалася шмат лекцый, але з тэхнічных прычын (загрузка памяшканьня 1 сямігодкі) была праведзена толькі адна гутарка „Як выхоўваць малога дзіцёнка" (доктар Ёффэ). Выстаўку наведала 1060 чал. Шостая выстаўка была наладжана ў сувязі з „мітынгам-пераклічкай", які распачала газэта „Рабочий Путь" у сувязі з перавыбарамі саветаў. Смаленскае Т-ва Краязнаўства і Рачаўскі музэй організавалі гэтую выстаўку на тэму „Што дала Савецкая ўлада Рачаўцы за 11 год свайго існаваньня". Плян выстаўкі быў складзены Выставачнай Камісіяй, у якую ўвайшлі прадстаўнікі розных мясцовых устаноў і організацый. Былі знойдзены сродкі 153 р. 50 к. Выстаўка адчынілася 22/XII. Яе наведала 1857 чал. 1 студзеня выстаўка была пераформавана ў перасоўку і яна абслужыла большасьць справаздачных і выбарчых сходаў па выбарчых курыях. Неабходна адзначыць, што ў організацыі выстаўкі прынялі

ўдзел некаторыя ўстановы губэрскага і гарадзкога маштабу: ГубАНА, ГорАНА, Дзяржмузэй, Губархіўбюро, Губздароўя, Горкамтрэст і ЦРК. Іх удзел выявіўся ня толькі ў асыгноўках, але і ў організацыі сваіх аддзелаў пад лёзунгам „Справаздача масам". У выніку навукова-дасьледчай працы і дабраахвотных ахвяраваньняў у музэй сабралася больш 300 рэчаў, з іх неабходна падкрэсьліць наступныя: 1) колекцыі птушак і жывёл, перададзеных Саюзам паляўнічых і Н. І. Касаткіным; 2) каменныя прылады, знойдзеныя ў Рачаўцы; 3) 2 скарбы дробных срэбраных монэт XVI і XVII ст., знойдзеных у Рачаўцы і каля в. Шэйнаўкі; 4) скарб рубленых дыргэм, знойдзеных у Рачаўцы; 5) фотографіі Рачаўкі—праца Г. Н. Куратава, В. Барысава і В. Р. Тарасенкі; 6) фотографіі і пляны Смаленскага Прыгараднага Пажарнага Т-ва, ахвяраваныя І. І. Русаковым; 7) колекцыі рэчаў саматужна-мастацкай працы мясцовага каваля М. А. Цімафеева; 8) кавалкі зубоў і клыкоў мамантa; 9) колекцыі монэт (яшчэ ня вызначаных), перададзеных Я. М. Гольдэнбэргам. Апрача гэтага Музэй вёў і культурна-асьветную працу. Пералік лекцый і гутарак будзе паказаны ніжэй.

Т-ва Краязнаўства з самага пачатку паставіла сабе мэту—даць веды шырокім працоўным масам. Культурна-асьветная і популярызацыйная дзейнасьць Т-ва ў 1928 г. вялася ў 2 напрамках: шляхам зьмяшчэньня ў мясцовым друку артыкулаў і заметак на краязнаўчыя тэмы і шляхам выступленьня сяброў Т-ва з дакладамі і лекцыямі ў клюбах, на заводах і г. д. Даклады чыталіся: В. Р. Тарасенкам 1) Аб мэтах і задачах Смаленскага Т-ва Краязнаўства наогул і аб мэтодах краязнаўчай працы ў галіне вывучэньня гісторыі рэволюцыйнага руху, гісторыі, гісторыі першабытнай культуры—на краязнаўчай конфэрэнцыі ў Ізьдзешкаве, 2) Аб пахаджэньні чалавека—на цагельні 1-га мая і ў Сьвірскай раённай бібліотэцы.

Сябры Т-ва прымалі ўдзел у конфэрэнцыі па культпаходу Рагачэўскага раёну. У культасьветнай працы Т-а, Т-ву дапамаглі спэцыялісты, якія прачыталі навукова-популярныя лекцыі:

1) Д-р Ёффэ—Аб выхаваньні дзіцёнка.

2) Д-р Дарашэвіч—Дашкольная ўстанова, выхоўваючы дзіцёнка, вызваляе матку.

3) Е. В. Парфенава — Організацыя пазашкольнага вольнага часу дзіцёнка.

Апрача гэтага Т-ва зрабіла выклік сваім філіялам і іншым краязнаўчым організацыям Заходняй вобласьці ўступіць у спаборніцтва па ўдзелу ў перавыбарчай кампаніі саветаў.

Праўленьне Т-ва было ў складзе т. т. В. А. Меланьдзера (старшыня), В. В. Дзьмітрыева (намесьнік), В. Р. Тарасенкі (сакратар), Г. В. Парфёнава (скарбнік) і проф.—Даяна (сябра праўленьня). Рэвізійная Камісія ў складзе т. т. В. В. Руднева, Н. Д. Гусарава, Т. В. Мураўёва. Усяго пасяджэньняў Праўленьня было 29 і на іх разгледжана 174 пытаньні. Было склікана 10 агульных сходаў, на іх абмеркавана 6 організацыйных пытаньняў і заслухана 12 навуковых дакладаў і інформацыйных паведамленьняў.

На 1/І-29 г. у Т-ве было 75 сяброў, з іх 4 ганаровых, 58 дзейных і 13 сяброў прыхільнікаў. Апрача таго, пастановаю агульнага сходу ад 16/V колектыўным сябром Т-ва залічана Смаленскае прыгараднае Т-ва.

Сродкі Т-ва ў 1928 г. складаліся з сяброўскіх складак, грашовых асыгнаваньняў розных установ і організацый на выстаўкі і субсыдыі. Усяго ў касу Т-ва за год улілося з335 р. 65 к., з іх выдаткавана 282 р. 40 к. Неабходна падкрэсьліць, што для разгортваньня краязнаўчай працы паказаных сродкаў зусім мала. Пры Т-ве ёсьць бібліотэка з лікам 5000 кніг, за адсутнасьцю памяшканьня частка кніжок знаходзіцца ў скрынях. Асноўная перашкода ў працы Т-ва: адсутнасьць сродкаў для навукова-дасьледчай працы і для надрукаваньня сваіх прац, а таксама і адсутнасьць асобнага памяшканьня для Т-ва.

Ня гледзячы на гэтыя матар'яльныя перашкоды, Т-ва ў 1928 г. шмат зрабіла ў організацыйным і навукова-дасьледчым напрамку.

## І. Бельскае Павятовае Т-ва Краязнаўства.

На 1/І-29 у Т-ве было 91 сябар, з іх 71 сапраўдных сяброў і 20 сяброў супрацоўнікаў. Савет Т-ва: І. А. Раткевіч, А. С. Пятроў, С. І. Сыракоранскі, М. Л. Тапэльзон, С. А. Міхайлаў, Е. П. Младова, В. І. Далгашоў, Т. І. Панізоўская і А. Т. Рудзікаў. Рабочае Праўленьне—старшыня А. Т. Рудзікаў, сакратар Е. П. Младова, скарбнік М. Л. Тапэльзон.

На пасяджэньнях савету было разгледжана 15 пытаньняў організацыйнага, плянавага і мэтодычнага характару. Агульных сходаў у 1928 г. было 2.

Навукова-дасьледчая дзейнасьць Бельскага Т-ва краязнаўства вялася ў напрамках:

1) Фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя назіраньні вяліся колектыўна ў г. Белым і іншых пунктах павету; першыя ўжо 8 год, а мэтэоролёгічныя 3-ці год і вядуцца 20 асобамі. Вынікі назіраньняў у ліку больш 300 сэзонных зьяў былі адасланы ў цэнтар і часткова скарыстаны ў выданьнях цэнтральных навуковых установ і організацый. Назіраньнямі кіраваў С. І. Далгашоў. На падставе зоолёгічных назіраньняў і орнітолёгічных экскурсій у 1927 г. Б. П. Федарэнка склаў „Нарыс фауны паляўніча-прамысловых жывёл паўднёвай часткі Бельскага павету".

2) Гідролёгічныя досьледы вяліся сябром Т-ва А. Т. Рудзікавым і В. І. Далгашовым. Першы зьбіраў і апрацоўваў матар'ялы аб рэках і вазёрах Бельскага краю. Апошні вёў назіраньні над сьнегавым насьцілам.

3) Рэгістрацыя і ахова помнікаў прыроды, мастацтва і старызны вялася пры падтрыманьні спэцыяльнай камісіі пры УАНА. Зарэгістравана 47 помнікаў старажытнасьці. Рабіліся захады да ратаваньня двох з іх—рэшткаў

Бельскага ўмацаваньня і Шоптаўскага гарадка Мастоўскай воласьці. У першым выпадку зьнішчэньне помніка было папярэджана, удругім — неабходна Камітэту Аховы помнікаў мастацтва і старажытнасьці пры ГІК'е зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на гэта.

А. В. Цьвятковым складзен нарыс гісторыі гораду Белага.

4) Зьбіраньне матар'ялаў па гісторыі рэволюцыйнага руху ў краі рабілася А. Т. Рудзікавым і С. І. Сыракоранскім. Нарыс аб Кастрычнікавай рэволюцыі ў Белым быў пачаты друкам, але ня скончаны. Апрача гэтага, А. Т. Рудзікавым быў складзены нарыс разьвіцьця профсаюзаў у Бельскім павеце.

Музэй мясцовага краю, які існуе 4 гады, налічвае ў пачатку 1929 г. 200 экспонатаў і колекцый. З рэчаў, якія сабраны ў 1928 г., можна адзначыць: 19 чучал прамысловай птушкі і зьвяроў, узоры карысных выкапняў краю (вапнякоў, вохры, сернага калчадану, агнястойкай і лепнай гліны), скамянеласьцяў і адбіткаў крэйдавай эпохі, шыйны пазванок і азадкавая костка маманта (з в. Курава Бельска-Прыгараднай вол.) і да 30 старонак запродажных запісаў на сялян. За год адбылося, апрача не падлічаных індывідуальных наведваньняў, 19 экскурсій, конфэрэнцый вучнёўскіх і піонэрскіх.

Бібліотэка Т-ва складаецца з 1200 экз. Павялічэньне бібліотэкі за год менш 10%, выдана за год 180 кніжок. Сродкі Т-ва ў 1928 г. складаліся з сяброўскіх адлічэньняў і субсыдый Саюзу Паляўнічых у суме 100 р. Усяго сродкі Т-ва 129 р. 07 к. а выдаткі— 68 р. 60 к.

## II. Сычоўскае Аддзяленьне Смаленскага Т-ва Краязнаўства.

Колькасьць сяброў Аддзяленьня ў 1928г.— 32 чал. Праўленьне з 9 асоб: А. В. Беразінскага, М. В. Булычава, Я. А. Аляксандрава, К. І. Маторына, Ф. М. Сільверстава, Н. Д. Лугавога, А. С. Сьмірнова, В. Г. Годава, В. С. Кісялёва. Агульных сходаў за год было 3, пасяджэньняў Праўленьня 4. На агульных сходах заслуханы 3 даклады: 1) Організацыя Т-ва і яго праца за мінулы час, 2) Бліжэйшыя задачы ў вывучэньні Сычоўскага раёну, 3) Звычаі, абрады, і поэзія Вяземскага павету (даклад заг. Вяземскага музэю т. Дуброўскага), Апрача таго, у часе наведваньня музэю экскурсіямі было прачытана 20 дакладаў аб значэньні краязнаўства. Зачытана шэраг дакладаў на розных сходах і конфэрэнцыі настаўніцтва. Тэмы дакладаў аб прыстасаваньні краязнаўства ў школьных умовах. Былі організаваны гурткі пры школах гораду і апорных школах павету. Навукова-дасьледчая праца Т-ва выявілася ў наступным:

1) Сабраны матар'ялы з гісторыі г. Сычоўкі і пачалі складаць зборнік.

2) Зьбіраўся матар'ял аб рэволюцыйным руху ў краі і складалася брошура аб рэволюцыйным руху 1905 г. у Сычоўскім павеце.

3) Т-ва вяло супольную працу з экспэдыцыяй Дзяржаўнага Лугавога Інстытуту, якая вывучала пасьбішчы.

4) На працягу году вяліся фэнолёгічныя, гідролёгічныя, мэтэоролёгічныя нагляданьні, якія дасылаліся ЦБК РСФСР, ЦБК БССР і Фэнбюро Смаленскага Унівэрсытэту.

5) Вялася праца па ахове прыроды, помнікаў мастацтва, быту і старажытнасьці: а) сабраны весткі аб архітэктурных помніках б. Сычоўскага павету, б) праз ЦБК рабіліся захады да забароны сячы дрэвы ў прыгарадных гаёх і парках былых маёнткаў на тэрыторыі б. Сычоўскага павету.

## III. Даарагабускае Аддзяленьне Смаленскага Т-ва Краязнаўства.

Т-ва пачало сваю працу толькі 22 красавіка 1928 г. Колькасьць сяброў 29. Праўленьне: В. А. Зубакіна (старшыня), С. П. Капутоўскі (сакратар), М. І. Харытонава (скарбнік), А. Н. Равякін, М. А. Сяргееў. Рэўкамісія: С. Ф. Бузанаў, М. С. Кончанкоў, В. В. Дзьяканаў. На пасяджэньнях Праўленьня, якіх было 6, абмяркоўваліся пытаньні мэтодаў працы складаліся пляны яе, абмяркоўваліся пытаньні масавай працы Т-ва, уцягненьне новых сяброў і організацыйна-гаспадарчыя пытаньні. Агульных сходаў Т-ва праведзена 8, на іх, апрача дакладаў, разглядаліся ўсе вышэйпералічаныя пытаньні. Былі заслуханы наступныя даклады: 1) Прыгонная паперня ў Алексіне (даклад Н. І. Савіна), 2) Прыгоннае паляваньне па архіву с. Алексіна (даклад Капутоўскага), 3) Прыгонныя працаўнікі мастацтва (паводле архіву с. Алексіна)—даклад т. Харытонава, 4) Экономічны стан Болдзінскага манастыра XVI і XVII ст.—даклад Бузанава, 5) Канявodства б. Дарагабускага павету і яго экономічнае значэньне — дакл. т. Высоцкага, 6) Лясы Смаленскай губ.—дакл. т. Савіна, 7) Дасская „Ава" і інформацыя аб падарожы за межы пісьменьніка Сакалова-Мікітава.

Сродкі Т-ва ў 1928 г. складаліся з сяброўскіх адлічэньняў і былі вельмі нязначны— 13 р. 50 к.

Дзьмітрыеў.

# Школьна-краязнаўчая экскурсія 8 Н.-Барысаўскай школы па БССР.

*(Організацыйная частка).*

Заключным акордам гадавое працы школьна-краязнаўчага гуртка. 8 Н.-Барысаўскай школы зьявілася экскурсія па БССР. Хоць у экскурсіі прыняў удзел ня ўвесь гурток (перашкода з боку сродкаў), але той актыў, які вызначыўся ў процэсе працы і падрыхтоўкі, выканаў сваю працу і апраўдаў назву экскурсіі „Краязнаўчая". Экскурсія зьявілася як-бы падарункам краязнаўцам за іх працу і прынесла шмат карысьці для яе ўдзельні-

каў. Адначасна яна дала вопыт арганізатару. Гэтым вопытам я і хочу падзяліцца з тымі, хто таксама пажадае арганізаваць краязнаўчую экскурсію.

За апошнія гады заўжваецца, што амаль што кожная школа лічыць сваім абавязкам зрабіць у канцы навучальнага году вылазку за межы свайго месцажыхарства. Кожная такая экскурсія можа лічыцца краязнаўчаю, бо яна ставіць сабе задачу пазнаёміцца са сваім краем, або асобнымі об'ектамі яго. Аднак, трэба адзначыць, што значная частка экскурсіі носіць характар пасыўнага разглядаць таго, што паказваюць. Мне здарылася ў час экскурсіі ў Воршы назіраць і такі выпадак, калі вучні прышлі ў музэй, а дзе іх кіраўнік, які з імі прыехаў на экскурсію (настаўнік), ня ведалі. У экскурсіі патрэбна актыўнасьць вучняў, і ініцыятыва.

Організуючы экскурсію, гурток краязнаўства 8 Н.-Барысаўскай школы імкнуўся скарыстаць вопыт іншых таварышоў, прылажыўшы да яго сваю ініцыятыву. Лічу сваім абавязкам падзяліцца гэтым вопытам.

Пытаньне аб арганізацыі школьна-краязнаўчай экскурсіі ў канцы 1929-30 навучальнага году ўзьнікла ў сяброў гуртка з восені. Асабліва цяжка было разьвязаць справу з матар'яльнымі сродкамі. Дзеці нашай школы—дзеці рабочай беднаты і на бацькоўскія грошы не надзеюцца. Усё-ж цьвёрда было пастаноўлена рыхтавацца да экскурсіі. Каб экскурсія не падрыхтоўвалася толькі настаўнікам, уся праца праводзілася праз бюро краязнаўчага гуртка, дзякуючы чаму вучні адчувалі адказнасьць за справу. Мне, як кіраўніку гуртка, бюро даручыла намеціць маршрут, распрацаваць плян і падлічыць прыблізна расход на кожнага сябра. Цяжка было выбіраць маршрут, ня маючы сродкаў, але я адважыўся выбраць наступны шлях: Барысаў — Ворша — Асінбуд — Дуброўна,— Копыль—Шклоў—Магілеў—С.-Быхаў—Рагачоў—Жлобін—Бабруйск—Менск і Барысаў. Калі сродкі азначыліся, быў уключаны ў маршрут Гомель. Паводле прыблізнага падліку экскурсія павінна была заняць 16 дзён, і на кожнага ўдзельніка патрэбна было мець 25—30 рублёў. На чарговым паседжаньні бюро і агульным сходзе гуртка быў разгледжаны маршрут і плян і зацьверджаны. Сродкі здабыць пастаноўлена было ўдарным парадкам на суботніках. Частка вучняў пэсымістычна аднеслася да справы, другая частка з запалам узялася за справу. Пасьля шэрагу спрэчак намеціўся склад экскурсіі з 8 хлапцоў і 3 дзяўчат. Вучні-экскурсанты пастанавілі таксама закончыць навучальны год па ўдарнаму, дапамагаючы адстаючым, калі такія акажуцца.

Пабудаваны мною плян экскусіі абхопліваў наступныя аддзелы: мэтавая ўстаноўка і маршрут экскурсіі, агульна-організацыйная частка, матар'яльная частка, нутраная дысцыпліна, краязнаўчая праца, экскусыйны багаж і справаздача ўдзельнікаў экскурсіі на піонэрскіх і комсамольскіх сходах і паседжаньнях для папулярызацыі краязнаўства. Маршрут быў выбраны так, каб пазнаёміць краязнаўцаў з савецкім гаспадарчым і культурным будаўніцтвам па БССР. Для адшуканьня сродкаў была абрана вучнёўская тройка, якой даручылі дагаварыцца з заводам наконт суботнікаў і наогул адшукаць працу экскурсантам. Бюро ў сваю чаргу паслала хадайніцтва ў ЦБК аб водпуску льготных праездаў па чыгуначным шляху. Былі пасланы паштоўкі з аплочаным адказам да ўсіх краязнаўчых організацый, якія меліся ў пунктах нашага наведваньня. ЦБК Беларусі паслала ва ўсе пункты свае адносіны з просьбай да ўсіх організацый аказаць нам сваё садзейнічаньне, а нам выслала адкрыты ліст і анкеты для ўлажэньня маршруту. Трэба адзначыць, што адкрыты ліст адыграў вялізарную ролю ў нашай экскурсіі. Кожны цэнтар, куды мы заглядвалі, мае свой срок наведваньня экскурсантамі, а пры такім маршруце, як наш, увязацца нельга. Варта было паказаць штамп Беларускай Акадэміі Навук, як дзьверы нам адчыняліся. На нашы паштоўкі мы атрымалі адказ і ў часе экскурсаваньня досыць яскрава ўяўлялі свае становішча.

Кожнаму вучню даручана было распрацаваць, або вывучыць адзін з гарадоў, праз які накіроўвалася экскурсія, і зрабіць інформацыйны даклад на сходзе вучняў. Каб у часе экскурсіі вучні ня былі толькі „зрыцялямі", а выконвалі рэальную краязнаўчую працу, што ўмацняла-б адначасна і дысцыпліну, кожнаму вучню дана было заданьне. Мною былі падрыхтаваны анкеты і праведзены інструкцыйныя пасяджэньні. Анкеты абхоплівалі галоўныя галіны краязнаўчай працы і ў суме павінны былі злажыць уяўленьне аб даным месцы. Вучань-краязнаўца павінен вясьці даручаную працу на працягу ўсяго маршруту, адказваючы адначасна за збор матар'ялу ўсяго па аднаму з пунктаў экскурсіі. Так, нарыклад па прыезьдзе ў горад Воршу кожны экскурсант вядзе сваю працу, а за збор усіх матар'ялаў аб Воршы адказвае адзін, хто прымацаваны да Воршы. З ад'ездам з Воршы адказнасьць пераходзіць да другога вучня.

У мэтах падтрыманьня дысцыпліны звычайнай і працоўнай экскурсанты выбралі старшыню і загадчыка гаспадарчай часткай. Пасьля выбару старшыні, усе пасяджэньні і сходы па справах экскурсіі назначаліся і праводзіліся апошнім. Загадчыку гаспадарчай часткі даручалася на працягу ўсяе экскурсіі вясьці вучот расходаў, закупаць продукты, назначаць дзяжурных у вагонах і вакзалах. Старшыня павінен быў нясьці адказнасьць за ўсю справу. Дзяжурны па астаноўках цягніка павінен быў сыгналізаваць экскурсійным флажком, каб вучні, якія бегалі на вакзал, ня блыталіся па вагонах, ня ведаючы, куды папасьці. Акрамя таго ўсе вучні-экскурсанты нашылі ў час экскурсіі на майках чырвоную зорку з літарамі Б. Ш.

К. Г. 8 Ш, што абазначала: „Барысаўскі школьна-краязнаўчы гурток 8 школы“. Кіраўніку гуртка і экскурсіі аставалася быць касірам і ідэёвым кіраўніком. Неабходнай умовай для кожнага экскурсанта было прынята: поўнае падпарадкаваньне прынятым пастановам, максымум энэргіі ў працы і ўзорная вытрыманасьць у паводзінах.

Матар'яльныя сродкі для экскурсіі набываліся на працягу ўсяго году. 40 рублёў было атрымана ад заводу імя Домбаля за ачыстку двара, 23 рублі—ад лётарэі, 30 руб. астатак ад школьнага коопэратыву, 15 руб. за расьпілоўку школьных дроў, 80 рублёў за догляд за садам заводу, 10 рублёў за пераноску школьнай маемасьці і г. далей. Грошы здаваліся на пошту ў касу ашчаднасьці. Усяго было запрацавана 225 руб. 50 кап. Кожны ўдзельнік павінен быў унясьці па 5 руб., што агулам злажыла 280 руб. Ад ЦБК атрымана было 12 льготных літараў. На адзін дзень продуктаў было кожным узята з дому.

За значны тэрмін да пачатку экскурсіі быў аб'яўлены сьпіс рэчаў, патрэбных для экскурсіі, а перад экскурсіяй за дзень праверады старшынёю. Неабходнымі рэчамі лічылася мець: маленькую падушку, летнюю коўдру, зьмену запасную бялізны, пару верхняга (запасную), панчохі, пару хустак-насовак, ручнік, мыла, зубны парашок і шчотку, адзежную і сапожную шчотку, мазь для абутку, голку, нітак, шыла, дратву, гузікаў, мэталёвы кубак і ложку, аловак і сшытак, некалькі паштовак, на некалькі чалавек ножык. Акрамя таго было куплена 8 кілё хлеба, 6 кілё цукру; 100 грам гарбаты. Са школы быў узяты чайнік на 20 шклянак і некаторыя рэчы паходнай аптэчкі.

Перад ад'ездам было праведена некалькі гутарак па пытаньнях экскурсіі з адказам на тыя запытаньні, якія ўзьнікалі ў іх, а ў дзень ад'езду зроблена праверка маемасьці і падрыхтаванасьці кожнага. Падрыхтоўка дала сябе адчуваць у час экскурсіі, на што зьвярнулі ўвагу як самі вучні, так і тыя організацыі, з якімі экскурсіі давялося сустракацца. Ніякіх цяжкасьцяй у часе экскурсіі не адчувалася.

У. Уладзіміраў.

## Адказы на запытаньні.

### А. Вярнікоўскаму. Барысаў, Белпэдтэхнікум. На ліст ад 28/V-30 г.

Публікацыі беларускіх краязнаўчых організацый наогул вельмі нешматлікія, а адмыслова - этнографічныя налічваюць толькі дзьве-тры назвы. Да такіх належаць: „Крашаніна“, „Крашаніна (набіванка)“ „Віцебскі краёвы слоўнік“. Усе яны выданы Віцебскім Акруговым Таварыствам Краязнаўства ў гор. Віцебску: першая ў 1925 г., другая—у 1926 г. і трэцяя—у 1927 г., калі ў Віцебскай акрузе сярод краязнаўцаў панавала этнографічная зацікаўленасьць. Аўтар у першай названай кніжцы падае матар'ялы для гісторыі крашаніны ў Віцебшчыне, абмяркоўваючы ў паасобных разьдзелах значэньне сялянскага мастацтва, зьяўленьне і гісторыю крашаніны ў Віцебшчыне, тэхніку крашаніннае справы на яе тэрыторыі, малюнкі крашаніны і прычыны яе заняпаду. Да тэксту далучана 15 табліц узораў крашаніны і самы тэкст аздоблены загалоўнымі літарамі, застаўкамі, канцоўкамі і вокладкай з этнографічнымі мотывамі крашаніннае справы. Гэта праца знайшла жвавы водгук як у беларускім, так і ў саюзным і замежным друку, з якім варта пазнаёміцца і ўлічыць некаторыя зусім слушныя паказаньні („Полымя“ 1926, № 7; „Савецкае Будаўніцтва“ 1926 г. № 4; „Асьвета“ 1925, № 6; „Крывіч“ 1925, № 10; „Полымя„ 1925, № 5; „Наш Край“, 1926, № 6—7; „Жыцьцё беларуса“ 1925, № 3; „Голас Беларуса“ 1926, № 23; „Савецкае будаўніцтва“ 1925, № 12; „Этнографія“ 1926, № 1—2, „Известия ЦИК СССР“ 1927 г. № 58; „Полесская правда“ 1927, № 66; „Наш Край“ 1927, № 10 і інш.). Другі аўтар у сваёй працы абмяркоўвае пытаньне паходжаньня крашаніннае справы на Беларусі. У яго працы таксама пададзена шэсьць табліц узораў крашаніны, пяць фотографій набіўных дошчак або набоек, загалоўная літара і вокладка з крашаніннымі мотывамі. Падобна першай працы і гэтай кніжачка знайшла водгук у друку („Полымя“ 1926, № 7; „Наш Край“ 1926, № 10—11; „Маладняк“ 1926, № 11; „Крывіч“ 1926, № 1; „Савецкая Беларусь“ 1926, № 30; „Полесская правда“ 1927, № 66 і інш.). Да абедзьвюх прац далучаны прадмовы, у якіх вызначаецца месца даных прац і погляды на некаторыя тэрміны крашаніннае справы. У „Віцебскім Краёвым Слоўніку“ пададны ўласна матар'ялы да слоўніка з большага ахарактарызаваныя ў прадмове яго, дзе паміж іншым гаворыцца, што вызначэньне колькаснай перавагі паасобных моўных зьяваў краю і межаў іх яшчэ застаецца чарговай задачай мясцовых краязнаўцаў. Зьяўленьне гэтага слоўніка таксама выклікала шэраг водгукаў („Звезда“ 1927, № 36; „Полымя“ 1927, № 1; „Известия ЦИК СССР“ 1927, № 58; „Полесская правда“ 1927, № 66; „Учительская газета“ 1927, № 13; „Асьвета“ 1927, № 2; „Наш Край“ 1927, № 10; „Савецкая Беларусь“ 1927, № 218; „Известия по русскому языку и словестности“ 1928, т. I; „Человек“ 1928, № 1; „Известия по русскому языку и словестности“ 1929, т. II, кн. 2; „Крывіч“ 1927, № 12 і інш.). Апрача гэтых выданьняў, у агульных публікацыях мясцовых краязнаўчых організацый ёсьць нязначныя этнографічныя матар'ялы. У „Віцебшчыне“ (т. I, 1925) і „Магілеўшчыне“ (т. I, 1927), напр., пададаны інформацыі аб вечары беларускай песьні ў Віцебску („Віцебшчына“ I, 1927) і аб працы фольклёрнага гуртка Ма-

гілеўскага пэдтэхнікуму („Магілеўшчына“ I, 100—101) з прывядзеньнем фольклёрных тэкстаў, заклік да зьбіраньня народнага орнамэнту („Віцебшчына“ I, 49—51), анкета для зьбіраньня вестак пра каменьні („Віцебшчына“ I, 121—124), анкета пра „Культурную і народную гаспадарку“ („Віцебшчына“ I, 127—128) ды самыя розныя этнолёгічныя весткі ў даволі дзіўным артыкуле „Крыха быту“ ды слоўнікавы матар'ял („Магілеўшчына“ I, 91—99, 106). Усім гэтым уласна абмяжоўваецца этнографічная продукцыя краязнаўчай сеткі БССР, апублікаваная мясцовымі краязнаўчымі організацыямі.

Непараўнальна большая частка яе апублікавана цэнтральным краязнаўчым органам „Нашым Краем“.

Сама інформацыя аб этнографічнай працы часамі зьяўляецца крыклівымі безадказнымі фразамі, ня гледзячы на тое, што часта падаецца самімі этнографамі (1925, I, 60; 1926, VI—VII, 77; VIII—IX, 82, 83; X—XI, 76; 1927, II, 63—64; XI, 45; 1928, XI, 53—54). У такіх паведамленьнях трудна вылучыць, што сказана сур'ёзна, а што на шармака. Зразумела, што пералічаныя заметкі не складаюць сабой большасьці інформацыйнага матар'ялу, які ў значнай меры зьяўляецца каштоўным. Сярод апошняга ёсьць цікавыя паведамленьні аб вывучэньні валатовак мясцовымі краязнаўцамі (1929, IV, 67), аб працы этнографічнай экспэдыцыі 1926 г. (1926, XII, 75—76), аб экспэдыцыях 1927 г. (1927, XI. 51—52) і аб беларускіх этнографічных зборах і колекцыях (1927, X, 50; XI, 8—13; 1928, X, 57; XII, 82; 1929, I, 15—19; III, 20—26) аб этнографічнай працы ў Смаленшчыне на працягу 1917-1927 гг. (1929, I, 14—24), аб зьбіраньні слоўнікавых матар'ялаў (1927, I, 36—39, 87—90; 1928, XII, 47—56), аб зьбіраньні фольклёру (1927, I, 22—35; II, 12—23; 1928, III, 19—27; XII, 35—47) ды пра зьбіраньне народных мэлёдый (1927, IV, 67). Але толькі апошнія тры прабуюць даць агляд чыннасьці па ўсёй БССР ды чацьвертае аб этнографічнай дзейнасьці на Смаленшчыне. Рэшта-ж паведамленьняў зьяўляюцца выпадковымі, абхопліваючы толькі паасобныя моманты і тэрыторыі.

Як і можна было чакаць, у „Нашым Краі“ ёсьць некалькі этнографічных інструкцыйна-мэтодычных артыкулаў, якія мелі на мэце орыентаваць этнографаў-краязнаўцаў у пытаньнях этнографічнага вывучэньня краю. Комплекснаму вывучэньню прысьвечаны толькі два артыкулы: аб вывучэньні вёскі (1927, VI-VII, 3-4), аб вывучэньні колгасу (1929, XII, 5-17) ды кароценькая нататка аб практычных задачах этнографіі (1929, V, 55-56). Больш пашчасьціла пытаньню мэдычна-санітарнага дасьледваньня вёскі (1927, III, 3-6; XI, 37-38; 1929, V, 15—19), якое абмяркоўвалася больш поўна і ўсебакова на балонах часопісу. У галіне апісаньня матар'яльнай культуры ёсьць толькі адзін артыкул, які абмяркоўвае вывучэньне сялянскіх будынкаў (1929, VI, VII, 25—35). Апрача гэтага ў часопісе ёсьць толькі невялічкія кароценькія заметкі пра вывучэньне ўдзелу хатніх рамёстваў у мясцовых сельска-гаспадарчых выстаўках (1928, I, 51), гісторыі сялянскіх і рабочых сем'яў (1929, II, 53—55), зьбіраньне этнолёгічнай лінгвістычных матар'ялаў сярод беларускіх латышоў (1929, III, 53-54), вывучэньне дзяціннага фольклёру (1929, V, 56) і сялянкі (1927, II, 37—39).

Зусім блізка да гэтых артыкулаў стаіць аддзел програм, інструкцый і анкет для этнографічнага вывучэньня краю. Найбольшая ўвага тут была аддана часопісам пытаньню ўкладаньня краёвых (1925, I, 49-53; 1926, II-III, 44—47; 1927, III, 55-57; 1928, I, 32—46) і тэрмінолёгічных (1926, I, 47-53; 1927, XII, 67—70) слоўнікаў ды зьбіраньню сялянскага фольклёру (1925, II-III, 43-47; 1927, II, 19-23; 1928, IV, 40—44) наогул і фольклёру пра каменьні (1926, I, 43—46), ды музычнага фольклёру (1925, I, 45—48). Пытаньне зьбіраньня сялянскага мастацтва закраналася ў агульнай програме па вывучэньню мясцовага мастацтва (1926, II-III, 62-69), адмысловай анкетцы (1927, IV, 61-62) і апытальніку пра тэатар (1926, II-III, 79—81) была кароткая програмка-апытальнік для апісаньня мясцовых праўных звычаяў (1926, II-III, 77—78). Урэшце мясцовыя рамёствы закраналіся толькі програмаю для вывучэньня прадзева і ткацтва (1928, III, 44—50) і програмаю пра крашаніну (1927, VIII-IX, 66—73). Дадаткам да некаторых вышэйпамянёных артыкулаў служыць схэма санітарна-бытавога апісаньня вёскі (1927, VI-VII, 81—90). Зьбіраньне этнографічных колекцый і экспонатаў абмяркоўвалася толькі аднойчы ў програмным артыкуле (1927, VIII-IX, 66—73).

Сама продукцыя этнографаў-краязнаўцаў, зьмешчаная ў „Нашым Краі“ таксама нешматлічная. Рознастайныя выпадковыя весткі ёсьць у розных падарожах, якія друкаваліся ў часопісе даволі часта (1928, II, 24-44; III, 28—37; XI, 43—50; 1929, I, 37—48; II, 35—43; III, 27—36; IV, 49-59; VI-VII, 58-65; VIII-IX, 64—71; XI, 48—56; XII, 30—42), асабліва апошнімі гадамі. Падобныя сыстэматычныя адрывачныя этнографічныя весткі знаходзяцца і ў розных агульных апісаньнях і працах (1927, VI і VII, 31—40; VIII-IX, 45; 1928, XI, 6—21; 1929, III, 46—52; V, 45—48; XI, 23—28; XII, 42—45). У такіх матар'ялах часта ёсьць рознастайныя этнографічныя ілюстрацыйныя даныя, як фотографіі, зарысоўкі і д. т. п.

Паасобным рамесьніцкім заняткам прысьвечана часопісам пяць артыку-

лаў, а ўласна: стружачнаму рамяству (1926, II-III, 51-52), крашаніннай справе (1926, VI-VII, 45—50), лавецтву (1927, V, 29—32), ганчарству (1927, XII, 55—63), рыбалоўству (1928, VI-VII, 37—41), блізка да якіх стаяць артыкулы пра пастушаства (1928, VIII-IX, 64—71). Усе гэтыя артыкулы падаюць матар'ялы на свае тэмы з паасобных дробных мясцовасьцяй, раёнаў, апрача артыкулу пра крашаніну, які мае гістарычны зьмест.

Пра звычаёвае права ў часопісе ёсьць два артыкулы, адзін з якіх (1927, V, 5—12) абмяркоўвае пытаньне з розных бакоў, а другі (1926, X-XI, 34—36)—толькі пра звычаі колектывістычныя.

Сялянскія абрады абмяркоўваліся толькі ў пяцёх артыкулах, а ўласна: пра хрэсьбіны (1928, XI, 34—42), вясельле (1927, IV, 32—42; 1928, VII, 43—62), пахаваньне стралы (1926, I, 41—42) і здабываньне агню (1927, VIII—IX, 89).

Апісаньням сродкаў н а р о д н а й м э д ы ц ы н ы часопісам аддадзена значна больш месца (1926, II-III, 48—50; 1927, VIII і IX, 51—57; XI, 28—33; 1928, I, 21—24; 1929, IV, 22—31; VIII-IX, 59—63), як і с а н і т а р н а-г і г і е н і ч н ы м а п і с а н ь н я м паасобных в ё с а к (1926, VI-VII, 3—20; 1927, XII, 43—54; 1928, VIII-IX, 47—64, 1929, II, 43—50).

Н а ц ы я н а л ь н ы я м е н ш а с ь ц і БССР, хоць часткова з этнографічнага боку, закраналіся ў шэрагу артыкулаў пра татар (1927, IV, 25—29; VI і VII, 10—16; VII—IX, 16—19; 1929, VIII-IX, 23—29; XI, 16—18), літоўцаў (1929, VI-VII, 10—25; VIII-IX, 8—23) і цыганоў (1926, XII, 25—34).

Асобна стаіць некалькі нататак пра в а л а т о ў к і і з ь в я з а н ы я з і м і п е р а ж ы т к і (1929, IV, 67; VI—VII, 77; VI-VII, 84—90), адпавяданьні (1928, VIII—IX, 46-47) і пра назвы вёсак (1926, IV-V, 8—13).

Этнографічная бібліографія рэцэнзіі зьяўляліся ў часопісе вельмі рэдка і далёка небахоплівалі як усёй продукцыі, так і актуальных пытаньняў (1926, X-XI, 79; 1927, I, 96—98; 101—102; IV, 70-71; VI-VII, 115-116; VIII-IX, 96; XI, 55-57; 1928, VIII-IX, 104; 1929 V, 57-58).

Урэшце для паўнаты агляду этнографічнай продукцыі краязнаўцаў і зьвязаных з ёю выданьняў ЦБК, быць, можа, варта ўспомніць пра інструкцыйны артыкул „Сялянскі двор-гаспадарка як об'ект краязнаўчага вывучэньня ў зб. „Краязнаўства", вып. I, 1929 ды пра мэтодычна-этнографічныя даклады на ўсебеларускіх краязнаўчых зьездах, апублікаваныя ў працах іх, а ўласна: пра мовазнаўчую працу, зьбіраньне фольклёру і мэлёдый, ды вывучэньне быту („Працы" 1926, 49—61, 63—70 і інш.) і хатніх рамёстваў („Працы" 1927, 57—62).

# Зьбірайце фольклёр сучаснасьці!

**Ад Катэдры Этнографіі Беларускай Акадэміі Навук.**

Катэдра Этнографіі Беларускай Акадэміі Навук, улічваючы важнасьць вывучэньня сучаснага фольклёру, які адлюстроўвае магутныя процэсы соцыялістычнага будаўніцтва і нараджэньня новага быту, парашыла прыняць удзел у выданьні зборнікаў „Савецкі фольклёр", распачаты ІРК'ам. (Програма зьмяшчаецца ніжэй).

Катэдра Этнографіі зьвяртаецца да ўсіх краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў з просьбай прысылаць на адрас Катэдры—Менск, Беларуская Акадэмія Навук—усе сабраныя матар'ялы па сучаснаму фольклёру і надалей яшчэ шырэй разгарнуць зьбіральніцкую працу. Перасылка на адрас БАН—дармовая.

*Катэдра Этнографіі БАН.*

# Ад рэдакцыйнай колегіі ІРК'а.

Гіганцкія зьмены, якія адбываюцца ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы нашай краіны і якія вядуць за сабой моцныя клясавыя зрухі, павінны выклікаць у шырокіх народных масах розныя поэтычныя водгукі: песьні, прыпеўкі, загадкі, прыслоўі, прыказкі, казкі, анэкдоты і таму падобныя апавяданьні. Абавязак навукі—бесьперапынна зьбіраць усе гэтыя творы, улічваючы факты станоўчых і адмоўных адносін усіх пластоў насельніцтва да таго, што адбываецца. Гэтым мы дапаможам ураду, партыі і ўсім працаўнікам сучаснага, а таксама захаваем каштоўныя матар'ялы для будучыны.

Навукова-дасьледчы інстытут слоўнай культуры (ИРК—институт речевой культуры, Ленінград) наладжвае выданьне зборніка, прысьвечанага адлюстраваньню процэсаў будаўніцтва соцыялістычных гарадоў і індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, а таксама і іншых важнейшых момантаў сучаснасьці ў фольклёры ўсіх народнасьцяй СССР. У зборнік павінны ўвайсьці ўсе віды фольклёрных твораў, у якіх адлюстроўваецца сучаснасьць, а таксама творы мясцовых аўтараў з рабочай і сялянскай гушчы. Мяркуецца аб'яднаць у зборніку творы, ужо надрукаваныя ў розных мясцовых выданьнях ці тыя, што, захоўваюцца ў рукапісах у розных архівах, музэях і ў прыватных асоб, а таксама нанова рабіць спэцыяльны запіс такіх матар'ялаў.

Улічваючы складанасьць пастаўленай мэты і вялікія памеры падлягаючай абсьледваньню тэрыторыі, рэдакцыйная колегія па выданьню зборніка зьвяртаецца да ўсіх зацікаўленых асоб і ўстаноў з таварыскай просьбай да-

памагчы ёй у гэтай справе. Дапамога можа стацца ў прысылцы ўжо гатовых матар'ялаў, ці хаця-б вестак аб іх, у організацыі экспэдыцый і камандыровак з мэтай зьбіраньня фольклёрных твораў, у зьвяртаньні да мясцовых установаў ці паасобных працаўнікоў з заклікам перадаць гатовыя матар'ялы, якія ў іх знаходзяцца (у копіях) і зьбіраць гэткія матар'ялы нанова. Бязумоўна, удзел кожнай асобы ці ўстановы будзе дакладна паказаны ў зборніку. Прысланыя матар'ялы могуць быць таксама выкарыстаны для мясцовых выданьняў. Інстытут бярэ на сябе толькі цэнтралізацыю гэткіх матар'ялаў і выданьне зборніка, прысьвечанага па магчымасьці ўсім раёнам.

Рэдакцыйная колегія: А. Самайловіч, В. Дзесьніцкі, Д. Зеленін, Н. Андрэеў, Н. Якаўлеў.

**Аб зьбіраньні сучаснага фольклёру.**

1. Запісваць трэба ўсе творы народнай славеснасьці: апавяданьні рознага зьместу (казкі, анэкдоты, байкі і г. д.), песьні (доўгія, романсы, прыпеўкі і г. д.), прыслоўі, прыказкі і загадкі і г. д., калі ў іх паказаны буйнейшыя зьявы сучаснасьці (рэволюцыя, соцыялістычнае будаўніцтва, індустрыялізацыя, колектывізацыя сельскай гаспадаркі, барацьба з рэлігіяй, новая культура і новы быт і г. д.).

2. Трэба запісваць таксама творы мясцовых рабочых і сялянскіх пісьменьнікаў і поэтаў, зьвязаныя з тымі-ж тэмамі.

3. Запісваць і такія творы, якія ўжо вядомы ў друку, калі яны ня толькі чытаюцца, але перадаюца вусна.

4. Запісваць трэба зусім дакладна, нічога не прапушчаючы, нічога не дадаючы нічога ня зьмяняючы.

5. Калі ёсьць сумненьні ў дакладнасьці запісу, трэба праслухаць яшчэ раз тое самае і занатаваць, якія заўважаны ў другі раз зьмены, ня зьнішчаючы ранейшага запісу.

6. Па магчымасьці трэба рабіць запісы ад вялікай колькасьці людзей, хаця-б яны паўтаралі прыблізна адно і тое самае.

7. Неабходна дакладна паказаць, дзе, калі і ад каго зроблены запіс.

8. Па магчымасьці пажадана даць весткі аб аднэй мясцовасьці: паказаць, якія ёсьць культурныя цэнтры, які склад насельніцтва (нацыянальны, соцыяльны і г. д.), якія галоўнейшыя заняткі.

9. Па магчымасьці пажадана таксама даць весткі аб данай асобе: пол, узрост, паходжаньне, становішча, пісьменнасьць, паказаць ад каго і калі даная асоба пачула гэтыя творы.

## Усім акруговым Т-вам Краязнаўства.

13/VIII г. г. Прэзыдыум Беларускай Акадэміі Навук разглядаў пытаньне аб ліквідацыі Акруговых Т-ваў Краязнаўства ў сувязі з ліквідацыяй акруг. Прэзыдыум прызнаў мэтазгодным у тых гарадох БССР, дзе будуць існаваць гарсаветы, падпарадкаваныя цэнтральным установам, акруговыя краязнаўчыя т-вы рэорганізаваць у гарадзкія краязнаўчыя т-вы, а ў іншых былых акруговых гарадох БССР акруговыя т-вы ператварыць у раённыя т-вы краязнаўства. Прэзыдыум БАН даручыў ЦБК скласьці статут для гарадзкіх т-ваў краязнаўства і ўнесьці належныя зьмены ў статут раённых т-ваў краязнаўства. Паміж ЦБК, гарадзкім і раённымі т-вамі сувязь будзе непасрэдная. Ліквідацыя акруговых т-ваў краязнаўства, іх пераорганізацыя ў гарадзкія ці раённыя т-вы краязнаўства будзе скончана не пазьней 15 верасьня.

## Агульны агляд надвор'я за чэрвень м-ц 1930 г.

*(паводле даных Гідра-Мэтэоролёгічнага Інстытуту).*

Надвор'е ў чэрвені наогул было сухое.

Тэмпэратура за І-ую дэкаду была ніжэй нормы на:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва (Віцеб. акр.) | 3.5° |
| Менск | 2.2° |
| Горкі (Аршанскай акр.) | 4.3° |
| Чэрыкаў (Магілеўск. акр.) | 5.1° |
| Васілевічы (Гомельск. акр.) | 4.4° |

Сярэднія тэмпэратуры за дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 11.2° |
| Менск | 13.2° |
| Горкі | 11.2° |
| Чэрыкаў | 11.0° |
| Васілевічы | 12.4° |

І-ая дэкада чэрвеня м-ца мінулага году ў сярэдніх выніках на 0—2° халадней адпаведнай дэкады чэрвеня г. г.

Сярэдняя тэмпэратура за другую дэкаду была вышэй нормальнай на:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 0,9° |
| Менск | 1.5° |
| Горкі | 0.3° |
| Чэрыкаў | 0.4° |
| Васілевічы | 0.4° |

Сярэднія тэмпэратуры за другую дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 16.6° |
| Менск | 18,0° |
| Горкі | 17.0° |
| Чэрыкаў | 17.4° |
| Васілевічы | 18.0° |

Другая дэкада чэрвеня м-ца г.г. на 0.5—1.0° цяплей адпаведнай дэкады чэрвеня мінулага г.

Сярэднія тэмпэратуры 3-яй дэкады вышэй нормы на:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 0.2° |
| Менск | 1.2° |
| Горкі | 0.3° |
| Чэрыкаў | 0.5° |
| Васілевічы | 2.2° |

Сярэднія тэмпэратуры за 3-ю дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 16.8° |
| Менск | 18.5° |
| Горкі | 17.6° |
| Чэрыкаў | 18.3° |
| Васілевічы | 20.5° |

3-я дэкада чэрвеня м-ца г. г. ў сярэдніх выніках на 3—5° цяплей адпаведнай дэкады чэрвеня м-ца мінулага году.

Сярэднія месячныя тэпмэратуры чэрвеня м-ца наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 14.9° |
| Менск | 16.6° |
| Горкі | 15.3° |
| Чэрыкаў | 15.5° |
| Васілевічы | 17.0° |

Сярэднія тэмпэратуры чэрвеня на 0—2° ніжэй формы і на 2—3° вышэй сярэдніх т-ур чэрвеня мінулага году.

Ваганьні тэмпэратур (паводле паказаньняў максымальнага і мінімальнага т-раў) наступныя:

| | | |
|---|---|---|
| 1-ая дэкада | ад—2.1 | да 24.5° |
| 2-ая „ | „ 2,5 | „ 29.7° |
| 3-ая „ | „ 7.5 | „ 29.6° |
| за м-ц | „ —2.1 | „ 29.7° |

Самая нізкая тэмпэратура адзначана ў Горках 4-VI—2.1.

Тэмпэратура глебы вагалася:

на глыбіні 0.2 м. ад 22.8 да 8.9.
„ „ 0.8 м. „ 16.3 „ 10.0.

Ападкі. I-ая дэкада—выпала па БССР 1—10 мм. 2-ая дэкада—па большай частцы тэрыторыі БССР адзначана 20 мм. і менш (20—30 мм. прыходзіцца па тэрыторыі Гомельшчыны).

3-я дэкада. 30 мм. і больш выпала на захад ад лініі Мазыр, Магілеў, Барысаў, Лагойск, Плешчаніцы, Бягомль, Полацак, Асьвея, а таксама ва ўсходняй частцы Магілеўскай акругі (раёны—Чэрыкаўскі, Краснапольскі, Клімавіцкі, Касьцюковіцкі, Хоцімскі). 1—20 мм. выпала ў Гомельшчыне ў суседніх раёнах Мазыршчыны і паласой на поўнач па Сажы на тэрыторыі Магілеўскай акругі і ва ўсходняй частцы Аршанскай акругі да лініі Магілеў—Ворша ў іншых частках тэрыторыі БССР выпала 20—30 мм.

У гэтую дэкаду мясцамі выпадалі вельмі значныя колькасьці ападкаў (большыя месячных норм).

Наогул ападкаў за месяц выпала менш нормы.

Вятры пераважвалі паўночных і паўночна-заходніх румбаў з сярэдняй хуткасьцю 2-3 м/с.

Стан палявых культур. Азімыя ў фазе наліву і малочнай сьпеласьці, яравыя—выхаду ў трубку.

У другую палову чэрвеня пачалася касавіца.

# Краёвая бібліографія.

Працяг *).

Казарновский. Чериковская уездная организация РКП. (Результаты обследования в феврале 1923 г.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 40. с. 38—40.

Казиницкий, М. Политпросветработа в деревне в Могилевском уезде. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 40. с. 46—47.

Калер, Л. Культура дзічак ў Лютна (Калінішчына). Плуг. 926. № 11. с. 35—36.

Калер, Л. Савецкая садовая гаспадарка Лютня. (Мсьціслаўшчына). Плуг. 926. № 7 с. 14—15.

Калінін, Н. Некаторыя вынікі перавыбарчай кампаніі нізавых профячэек. (П. Калінішчыне). Проф. Рух Бел. 928. № 8. с. 9.

Калмансон, Г. Первые шаги (Из воспоминаний) [80 и 90 г. г. в Могилеве. Революционная работа]. Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП 921. № 7—8. с. 59—60.

Каменштейн. Шкловский показательный район. [Партработа]. Вперед. 924. № 4 с. 39— 46.

[ . . . Камсамол Калінішчыны ў справе культурнага адраджэньня Беларусі. Маладняк Калінішчыны. 925. № 2. с. 3—4.

Карлсон, Л. Абсьледваньне садоўніцтва Мсьціслаўшчыны. Плуг. 926. № 7. с. 15—17.

Касаткин, В. Комплексность почвенного и растительного покрова песчано-болотных районов Минского Полесья. Зап. Бел. Дз. Ин-ту С.-Г. 925. сш. 9, с. 371—382.

Киселев. Водный режим реки Орессы по экпедиционным исследованиям 1925 и 1926 г. Минск. (НКЗБ Научно-исследовательские работы Управземлеса. Вып. VII.). 928. с. 57, 27 т. и диаграмм.

*) Гл. „Наш Край“ 1929 г. №№ 5, 6-7, 8-9, 10, 11, 12 і №№ 1, 2, 3, 4, 5-6 1930 г.

Киселев, К. К. Водный режим реки Орессы. По рекогносцировочным исследованиям 1925 г. (Отчет о гидрологических исследованиях, произведенных по поручению НКЗБ в бассейне верхнего и среднего течения Орессы). Минск. (НКЗБ Управл. Землеустройства и Мелиораций Научно-исслед. работы 1925 г. Вып. II). 926. с. 39. 1 карта.

Клебанов, С. Могилев в 1917 году. (Из воспоминаний). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 924. № 63—64. с. 95—96.

Клебанов, С. Мои воспоминания. [Могилев в 1917-18 г. г.]. Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 922. № 20. с. 37—39.

Клебанов, С. Обзор работы кустпромкооперации Могилевщины. Шлях Коопэрац. 928. № 7. с. 41—43.

Кобранов, Лесное хоз-во Могилевщины. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 10—16.

Коваль. Организация и деятельность советской власти в Могилевском уезде до октября 1919 г. (Доклад). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 923. № 39. с. 49—50.

Ковалев, II. Организация и деятельность Советской власти в Могилевском уезде до октября 1919 г. Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 923. № 40. с. 49—51.

Коссой, Т. Что дали курсы по переподготовке избачей. (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 13. с. 27—29.

Кравченко, А. Итоги переподготовки политпрасветработников. (Мест. Семеновка) [Гомельск. губ.]. Полесск. Коммунар. 925. № 17 (100). с. 74.

Крейер, Г. К. Исследовательская работа Могилевской опытной станции лекарственных растений за 1921—25 гг. Могилев. НКЗем. БССР. Магілеўская дасьледчая станцыя лекавых расьлін). 926. Стр. 2.56. 12 рис. на отд. листах.

Крейер, Г. К. Могилевская Опытн. Станц. лекарственных растений, ее организация и деятельность до 1923 г. Результаты шестилетних наблюдений в питомниках и исследования дико-растущих лекарственных растений Белоруссии. Ч. I. Могилев. 925. 48 стр. 10 рис.

Кроль. Медпомощь застрахованным в Могилевском округе. (Итоги работы за год). Праф. Рух. Бел. 926. № 3. с. 21.

Крупень, І. Сельск.-Гасп. выстаўка ў Мсьціслаўскім раёне. Плуг. 927. № 12. с. 32.

Крупень, І. С.-Г. курсы ў Мсьціслаўскім раёне. Плуг. 927. № 2. с. 36.

Ламака, М. Вывучэньне Магілеўшчыны. (Кароткі гістарычны нарыс паводле матар'ялаў зьмешчаных у час. „Наш Край"). Магілеўшчына. 927. т. 1. с. 150—155.

Ламака, М. Матар'ялы да гісторыі друку ў г. Магілеве. (Бібліографія). Наш Край. 928. № 11. с. 60—64.

Лапіцкі, Рыгор. Аб краязнаўчай працы ў Магілеўскай Саўпартшколе. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 155—158.

Лейвікаў, М. Рэгуляваньне ракі Ухлясьці. (Быхаўскага раёну Магілеўскае акругі). Сельск. і Лясн. Гасп. 927. № 2. с. 13—24.

Лелевич, Г. (Л. Могилевский). В 1918 году. [Могилевск. губ.). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП 920. № 6. с. 19—23.

Лелевіч, Г. (Магілеўскі, М.) Кастрычнікавыя дні ў Магілеве. (Адрывак з успамінаў). Бальш. Бел. 927. № 4. с. 26—30.

Лелевич, Г. (Л. Могилевский). Октябрьские дні в Могилеве. (Отрывки из воспоминаний). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП 920. № 5. с. 52—54.

Літніцкая, М. Ів. Урачыстае адчыненьне Мсьціслаўскага белпэдтэхнікуму. Асьвета. 925. № 5. с. 137—139.

Ляскоўскі, С. Уражаньні ад камандыроўкі ў Магілеўскую акругу. (Праца мэтбюро і камісій). Асьвета. 927. № 4. с. 139—142.

[ 1. . Магілеўшчына. Непэрыядычны орган Акр. Т-ва Краязнаўства. Магілеў 927. т. 1. С. 183.

Магпрам. Кустпромкаапэрацыя Магілеўшчыны да 10-годзьдзя існаваньня БССР. Шлях Каапэрац. 928. № 14 (74). С. 32-33.

Маньковский, И. Летняя охота в Могилевщине. Паляўнічы Бел. 928. № 6 (11). с. 42.

Манькоўскі, І. Паляваньне ў 1927 г. ў Магілеўскай акрузе. Паляўнічы Бел. 928. № 3(8) с. 6-7.

---

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.

Рэдактар—З. Бядуля.

Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. Л. Казак С. Жураўскі




Менск, Друкарня БАН. Зак. № 614. Галоўлітбел № 2646 1000 экз. 5 арк. і 4 стар.

Цана 75 кап.

ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1930 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, праграмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўца.

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к |
| На 9 мес. . 3 р. 25 к. | На 1 месяц р. 50 к |
| На паўгода 2 р. 25 к. | Падпіска з кожнага месяц |

**Гадавым падпісчыкам выдаецца прэмія — „КРАЯЗНАЎСТВА“— зборнік програм і інструкцый, выд. ЦБК.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: У Бюро падпіскі „Кніга-поштай“ (Менск, Пляц Волі, 5), у рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, вугал Ленінскай і Унівэрсытэцкай, 29/35 Краязнаўства), ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.**

**„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ва ўсіх аддзяленьнях БДВ і ва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.**

**Выпісваць можна з ЦБ Краязнаўства поўныя комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1929 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў—за 13 руб.**

**—— 1 комплект за 1929 г. 3 руб. ——**

**Апрача гэтага, у ЦБК прадаюцца:**

**„Працы І Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“—50 кап.**
**„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“—50 кап.**
**„Асіпавіцкі Раён“ — першы выпуск 2 р., другі выпуск 80 к.**
**„Краязнаўства“ зборнік“. 1 руб.**
**Краязнаўчым організацыям скідка 25%.**